

Праф. Ул. Сядура - Глыбінны
Ведамы Беларускі Навуковец
і Пісьменьнік

# БЕЛАРУСКІ СЬВЕТ
# BYELORUSSIAN WORLD

№ 16 (45) - 1984

# БЕЛАРУСЬ, НАША МАЦІ — КРАІНА

Музыка: М. Шчаглоў-Куліковіч

Словы: Н. Арсеньнявай





















## ПРЫСЯГА

Беларусь! Наша маці - краіна!
Ты з нас моцных зрабіла людзей.
Не загінулі мы і ня зьгінем,
Пакуль Ты нас наперад вядзеш!

Пастаім за Цябе, як асілкі,
Нашы сэрцы палаюць агнём,
Дружна мужна за лёс Твой расьцьвілы
Супроць чорнае моцы мы йдзём.

Не шкада нам жыцьця маладога,
Не шкада нам гарачай крыві,
Абы толькі праменнай дарогай
Крочыў горда народ наш жывы!

Прысягаем Табе мы сягоньня,
Што пакуль хоць адзін з нас жыве, —
Нашай слаўнай Крывіцкай Пагоні
Мы ня аганьбім, мы ўславім яе!



С. КУЗЬМАР. Жняя (афорт, 1982 г.)

 

К. Старажоўскі (ЗША)

## УЛАДЗІМЕР СЯДУРА - ГЛЫБІННЫ

Нядаўна споўнілася 50-цігодзьдзе літаратурнай дзейнасьці прафэсара Уладзімера **Сядуры - Глыбіннага**. Яму належыць годнасьць аўтарства колькіх паважных кніжак па беларусазнаўству й пра Ф. Дастаеўскага.

Яго імя шырока ведама ня толькі беларусам, але карыстаецца аўтарытэтам сярод усіх, хто вывучае Беларусь і творчасьць Ф. Дастаеўскага.

У. Глыбінны нарадзіўся ў беларускай сталіцы — Менску, 24 сьнежня 1910 г. Па сканчэньні 15-ай Менскай сямігодкі паступіў у 1927 годзе ў Менскі Пэдагагічны Тэхнікум імя Усевалода Ігнатоўскага. Тады-ж пачаў зьмяшчаць вершы ў студэнцкім літаратурна-мастацкім часопісе «Крыніца» й неўзабаве далучыўся да літаратурнага аб'яднаньня «Маладняк». У 1930 годзе паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленьне Пэдагагічнага факультэту Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Менску й увайшоў у новае беларускае пісьменьніцкае аб'яднаньне БелАПП. У студзені 1933 году быў арыштаваны разам з маладымі пісьменьнікамі: Л. Калюгай, М. Лужаніным, С. Астрэйкам, Ф. Купцэвічам, Ю. Таўбіным, З. Астапенкам і інш., як нацыянал-дэмакрат ды быў сасланы на тры гады ў Сібірскія, пазьней Байкала-Амурскія лягеры.

Па адбыцьці тэрміну зьняволеньня колькі часу прышлося бадзяцца па Расеі, пакуль не схаваў сваё выгнаньніцкае мінулае. Пазьней вучыўся ў Маскоўскім ды закончыў у 1939 годзе Ленінградзкі ўнівэрсытэт. У наступным годзе ўдалося пасяліцца ў родным Менску. У траўні 1941 году абараніў доктарскую дысэртацыю й атрымаў годнасьць доктара філялягічных навукаў. Пачаў працаваць прафэсарам філялёгіі пры Пэдагагічным Інстытуце й старшым навуковым працаўніком пры Навукова-дасьледніцкім Інстытуце ў Менску, Пэдагогікі Наркамасьветы БССР. Але ў першы дзень вайны быў арыштаваны й кінуты ў менскі вастрог. На 3-ці дзень уцёк з этапу па дарозе зь Менску ў Чэрвень і вярнуўшыся ў спалены Менск распачаў журналістычна-літаратурную дзейнасьць. Выдаваў першы ў гісторыі беларускіх друкаў літаратурна-мастацкі ілюстраваны часопіс заходня-эўрапэйскага ўзору. Пытаньні адраджэньня роднае культуры, дасьледваньне й асьвятленьне ейных узвышшаў у мінулым і сучасным, заўсёды кіравалі творчаю дзейнасьцю Уладзімера Глыбіннага. У артыкулах на балонках «Новага Шляху» й «Беларускае Газэты» ён з глыбіні вякоў выцягае на сьвятло гэткія слаўныя чыны, як дзейнасьць выдатнага дзяржаўнага дзеяча, канцлера Вялікага Княства Літоўскага — Л. Сапегі (артыкул: «Беларускі дзяржаўны муж — Леў Сапега»), ужываньне беларускай мовы, як дзяржаўнай (артыкул: «Беларуская мова ў гісторыі Беларусі»), калішні росквіт беларускае культуры (артыкул: «Залаты век»), вызваленьне беларускага народу ў XVII-XVIII стагодзьдзях (артыкул: «Жыве Беларусь»). Гістарычнаму й этнаграфічнаму абгрунтаваньню належнасьці ўсходніх земляў да Беларусі У. Глыбінны прысьвяціў вялікі навукова-гістарычны нарыс: «Смаленшчына — адвечна беларуская зямля». Нарыс «Наваградак учора й сяньня» прысьвечаны гісторыі ўтварэньня задзіночанага Беларускага Гаспадарства кн. Мэндоўгам. Беларускаму народнаму павадыру XIX стагодзьдзя Кастусю Каліноўскаму ім прысьвячаецца нарыс «Змагар за волю народу». Цыкль гістарычных нарысаў дапаўняюць нарысы зь гісторыі Беларускае Царквы: «Лёс Менскіх цэркваў» і «Беларуская Царква». Пытаньням гісторыі беларускага школьніцтва й асьветы на Беларусі У. Глыбінны прысьвячае артыкулы: «Беларуская школа» й «Беларускі настаўнік». Пытаньням адраджэньня беларускіх народных абрадаў прысьвячаюцца нарысы: «Беларускае Палесьсе», «Вялікдзень», «Каляды на Беларусі». Успамінам пра ўсебеларускую кузьню маладое беларускае інтэлігенцыі, што адыграла ролю нібыта Беларускае Літаратурнае Акадэміі зь якое вышла шмат беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў, а менавіта Менскі Беларускі Пэдагагічны Тэхнікум імя Усевалода Ігнатоўскага, прысьвечаны нарыс «Менскі Белпэдтэхнікум». У ваенныя гады, калі нехапала нацыянальнай літаратуры й матэрыялаў для навучаньня ў школах, гэтыя нарысы зьяўляліся каштоўным дапаможным матэрыялам для праводжаньня нацыянальна-узгадаваўчае працы сярод беларускае інтэлігенцыі й вучняў. Культурны чытач ацаніў і гэткія артыкулы й нарысы У. Глыбіннага, як: «Багацьці Беларусі», «Прыгожая Беларусь», «Беларускія сяляне» ды іншыя, што запярэчваюць старым нашаніўскім уяўленьням Беларусі, як краіны нібыта беднае й шэрае. Як-бы ў сугуччы з думкамі Максіма Багдановіча ў іх праводзіцца думка, што край і багаты й прыгожы, народ слаўны сваім гістарычным мінулым, працавіты й дасьціпны, здольны да творчае працы й мастацтва, глыбока адораны рознастайнымі здольнасьцямі й сіламі для свайго адраджэньня. Яны будзілі веру ў магчымасьці свайго народу й краю, клікалі яго на агульна-эўрапэйскі культурны Алімп.

Пытаньням нашае культурнае спадчыны У. Глыбінны аддаваў шмат часу й увагі. Ідэямі культурнага адраджэньня прасякнутыя артыкулы пра беларускіх кампазытараў Аляксея Туранкова («Народны кампазытар»), Ул. Тэраўскага («З народу — у народ»), пра асаблівасьці беларускае народнае музыкі («Народная песьня»), беларускія музычныя інструмэнты й танцы, артыкулы пра беларускае мастацтва («Пётра Міpановіч», « Мастак народнага жыцьця — Пётра Сяргіевіч», «Беларускі арнамэнт», «Беларускае мастацтва за першыя два гады вайны», «Слуцкія паясы» й вялікая праца «Вытокі Беларускага мастацтва»). Багацьцям беларускага народнага мастацтва, тэарэтычнаму й мастацкаму аналізу ўзораў ткацтва, разьбярства, народных тканінаў і вопраткі з гледзішча асаблівасьцяў народнага арнамэнту прысьвечана адмысловая праца «Народнае выяўленчае мастацтва». На падставе гэтых разьдзелаў У. Глыбінны яшчэ ў 1943 годзе склаў кнігу «**Беларускае Мастацтва».** У 1944 годзе яна ўжо друкавалася ў Менску, але ваенныя падзеі й эвакуацыя перашкодзілі ейнаму выхаду й засьпелі яе ў карэктурных адбітках. Выхад гэтае кнігі мог-бы быць падзеяй у культурным жыцьці Беларусі, бо ў ёй даваўся абраз разьвіцьця беларускае архітэктуры, малярства, разьбярства, графікі, скульптуры ды іншых галінаў выяўленчага мастацтва на працягу доўгае гісторыі культурнога развою на Беларусі, на фоне змаганьня заходня-эўрапэйскіх мастацкіх стыляў, рэнэсансу, баррокка, ракако ў іхным самабытным адтварэньні на беларускай глебе. У кнізе даваўся шырокі абраз адмысловых малярскіх школаў (Віцебская, Магілёўская ў XVII і XVIII стагг.), цэхаў і кірункаў, пановаму асьвятлялася старажытная беларуская малярская школа, помнікі якое захаваліся ў абразох бізантыйскага стылю на сьценах Кракаўскіх і Сандамірскіх касьцёлаў у Польшчы яшчэ за часоў Ягайлы й ягоных нашчадкаў.

Дзеля тых-жа падзеяў ваеннага часу не пабачыла сьвету й вялікая кніга Ул. Глыбіннага на 500 бачынак — «**Жыве Беларусь!**» і таксама ўжо набраная кніга «**Беларускі Тэатр**», што абдымала гісторыю беларускага тэатру са старажытных

 

 

 

часоў аж да апошняе вайны. Гэтак у агні ваеннага ходаньня двух варожых нам сілаў загінулі шматгадовыя высілкі навукоўца й не пабачылі сьвету аж тры вартасьнейшыя для нашага адраджэньня кнігі. Спроба аднавіць выданьне гэтых працаў у Празе Чэскай у 1944 годзе не дайшла таксама да плённага выніку з прычынаў кароткага часу ды перашкодаў з боку нямецкае цэнзуры. Там-жа ў Празе прышлося пакінуць і ўсе матэрыялы да гэтых выданьняў у выглядзе колькіх сотняў з такою цяжкасьцю здабытых і доўгімі гадамі зьбіраных ілюстрацыяў ды самыя тэксты гэтых кнігаў. Пазьнейшая праца па аднаўленьню тэксту кнігі «**Беларускае Мастацтва**» ды перакладу на нямецкую мову не дайшла да выніку дзеля малой зацікаўленасьці нашых чыньнікаў і грашовае рэформы, што абясцэніла старую нямецкую марку.

У тыя-ж ваенныя гады У. Глыбінным былі напісаныя й надрукаваныя літаратурнакрытычныя артыкулы пра паэта Уладзімера Жылку: «Паэта высокай культуры», пра Вацлава Ластоўскага: «Паэта ваяўнічай нацыяналістычнай думкі», пра Янку Купалу: «Волат беларускага мастацкага слова», Масея Сяднёва: «Паэтычнае адтварэньне перажытага», Максіма Багдановіча, драматургаў Францішка Аляхновіча й Уладыслава Галубка ды інш. Гэтым ды іншым артыкулам У. Глыбіннага ўласьцівыя імкненьні да раскрыцьця паэтычных вартасьцяў псыхалягічных багацьцяў разгляданых паэтаў. Тут у наяўнасьці сутворчасьць крытыка з паэтам у сэньсе адтварэньня й паўторнага перажываньня пачуцьцяў і настрояў адбітых у разгляданай творчасьці. У пэўных адносінах гэта мастацкая крытыка ў сэньсе вобразна-псыхалягічнага адтварэньня, што дае ўяўленьне аб цэласьці паэтычнага сьвету ў ягоных адчувальна-канкрэтных формах.

З боку У. Глыбіннага патрабаваліся асаблівыя высілкі, каб у той страшны час ува ўмовах фашыстоўскага тэрору зрабіць часопіс «Новы Шлях», карысным беларускай справе адраджэньня. Спатрэбілася выявіць максымум энэргіі, настойлівасьці, валодаць выключнай нацыянальнай дасьпеласьцю й людзкой годнасьцю, каб ня даць часапісу быць друкаванай зброяй чужое прапаганды. Фактычна Ул. Глыбіннаму ўдалося пературыць гэты друкаваны ворган у зброю супраціву акупантам. Стала перабываючы пад пагрозай сьмерці, або ў лепшым выпадку пад пагрозай высылкі ў канцэнтрацыйныя лягеры, Ул. Глыбінны ня толькі стараўся, каб усяляк супрацьставіцца ціску акупантаў і нямецкай цэнзуры ў Менску, але карыстаючы з таго, што вайсковая цэнзура ў Рызе не заўсёды ведала, што вымагалася цэнзурай у Гэнэральным Камісарыяце Беларусі, дзякуючы сваёй непадлегласьці Сівіцам і яго памагатым, часопіс меў магчымасьць часта дэманстраваць свае антынямецкія настроі.

Калі ў Менску стараньнямі Сівіцы забараняюць п'есу «Кастусь Каліноўскі», А. Міровіча, яна знаходзіць сабе месца на балонках «Новага Шляху». Антынямецкія вершы Ул. Дудзіцкага «Мы ня хочам быць белымі неграмі», забароненыя ў Менску, знаходзяць дарогу да чытача праз зьяўленьне на балонках «Новага Шляху». Антынямецкія вершы Сяргея Пяюна (Новіка), Алеся Салаўя ды іншых стала друкуюцца на балонках «Новага Шляху». Замест вымаганай прапаганды часопіс культывуе чыстую лірыку Алеся Салаўя, Масея Сяднёва, Вольгі Таполі ды іншых паэтаў. На балонках часапісу друкуецца скіраваная супраць усялякіх акупантаў на Беларусі п'еса Ф. Аляхновіча «Круці ня круці — трэба памярці» ды ўспаміны гэтага-ж аўтара «Страшны год». Названую тут п'есу пазьней «Новы Шлях» выдаў асобай кніжыцай, запярэчваючы гэтым фактам забарону беларускіх выданьняў у Гэнэральным Камісарыяце Беларусі.



Замест недасьціпнага нямецкага гумару, часопіс на сваіх балонках уводзіць разьдзел народнага гумару, народныя прыпеўкі зь ілюстрацыямі мастакоў да іх. Гэтак паступова ўвесь прапагандовы матэрыял выціскаецца беларускім матэрыялам на тэмы гісторыі, беларускае культуры, мастацтва, тэатру, музыкі, літаратуры, народных звычаяў і г. д. Тут служба роднаму краю й адраджэньню ягонае культуры ўдала спалучаліся з мэтамі прыхаванага змаганьня з акупантам і панявольнікам. На фоне шматлікіх фактаў прыслугоўваньня нямецкаму акупанту й частага «яволь» розным Сівіцам, паводзіны рэдакцыі «Новага Шляху» заслугоўваюць асаблівай пашаны й вызнаньня, як сумлены чын на дабро Бацькаўшчыне, як вытрыманы экзамен на нацыянальную годнасьць і сумленнасьць, людзкую добрароднасьць з боку лепшае часткі беларускае інтэлігенцыі. І калі заходня-эўрапэйскія гісторыкі цяпер дакладна вывучаюць усе праявы супраціву, скажам францускага рэзістансу, або галяндзкага ці нарвэскага, дык ня менш вартаснай тэмай для ўсіх, а найперш беларускіх гісторыкаў, можа быць тэма беларускага супраціву акупантам з Усходу й з Захаду. Дасканалае вывучэньне ўсіх фактаў ідэёвага супраціву акупантам на Беларусі, выяўленага ў гераічных паводзінах рэдакцыі «Новага Шляху» й у супроцьстаўленьні жменькі ідэёвых, культурных дзеячоў, зь іх ідэяламі роднае культуры й дабра Бацькаўшчыне, чорным сілам фашызму, адчыніць перад зьдзіўленымі вачыма абраз служэньня высокім ідэалам, дзеля якіх не шкадавалася ні жыцьця ні высілкаў і гарэньня для сьвятое справы.

У часе вайны перагружанасьць журналістычнай працай адцягвала ўвагу Ул. Глыбіннага ад чыста мастацкай творчасьці. Толькі часам нахіл да яе выяўляўся ў мастацкіх нарысах, як «Над Вяльлёю» ці ў вобразных мастацкіх аднатацыях да ілюстрацыяў у часопісе. Але вобразнасьць нарысу «Над Вяльлёю» доўга падкупвала чытача, ды нават пазьнейшыя эміграцкія выданьні колькі разоў перадрукоўвалі яго. Ужо ў Нямеччыне Ул. Глыбінны аднаўляе творчую дзейнасьць у галіне мастацкае прозы. Вынікам гэтае творчае чыннасьці зьяўляецца раман — «Вялікія Дарогі», пачатак якога друкаваўся на балонках Нью-Ёрскага навукова-літаратурнага часопісу «**Веда**» ў 1952 годзе. Асобыя разьдзелы зьявіліся былі на балонках газэты «Бацькаўшчына» ў студзені 1955 году. Гэты раман ахапляе эпоху найноўшага адраджэньня, падзеі мінулай вайны й долю беларускае эміграцыі.

Тэматычна рознастайнаму ўцелаўленьню тэмы пошукаў зямное красы прысьвечаны зборнік апавяданьняў Ул. Глыбіннага «На Берагох пад Сонцам». Тут рамантычная тэма пошукаў зямное прыгажосьці, чалавечае ўзьнёсласьці над шэрым буднем, выпрабаваньне людзкога характару на дачыненьнях да прыроды й навакольнага сьвету ўва ўмовах амэрыканскае рэчаіснасьці знаходзіць сваё далейшае разьвіцьцё ў шэрагу лірычных, паводле жанру, і, з другога боку, псыхалягічна-напружаных, з гостра разгорнутым сюжэтам апавяданьняў. Творы пра Бацькаўшчыну тут чаргуюцца з апавяданьнямі з амэрыканскага жыцьця, прыгоды гэрояў-рыбакоў спалучаюцца з творамі пра цікавых малых хлапчукоў; над чэрствымі й абмежаванымі здабывальнікамі даляраў узвышаюцца й маральна сьцьвярджаюцца гэроі-рамантыкі, шукальнікі адвечнае красы. Гэтак гэты збор прозы Ул. Глыбіннага зьяўляецца новым здабыткам беларускага прыгожага слова ў вольным сьвеце.

— • —



 

На амэрыканскім кантынэньце Ул. Глыбінны распачынае новы пэрыяд плённай дзейнасьці навукоўца. З кастрычніка 1951 году Ул. Глыбінны побач з вялікай навукова-дасьледчай працай, актыўна ўлучыўся ў справу рэпрэзэнтацыі беларускае культуры сярод амэрыканскіх студэнтаў, інтэлігенцыі й навукоўцаў.

У дакладзе студэнтам Калюмбійскага Унівэрсытэту ў Нью-Ёрку ў красавіку 1953 году праф. У. Сядура даў шырокі абраз вызвольнага змаганьня беларускага народу на працягу ўсяе найноўшае гісторыі Беларусі. Будучыя экспэрты ў пытаньнях Усходняе Эўропы ўпяршыню пазналіся зь беларускімі культурнымі й палітычнымі здабыткамі нашага веку. Акрамя актаў Першага Усебеларускага Кангрэсу й БНР, жыцьця й дзейнасьці незабыўных Крэчэўскага й Захаркі ў замежжы, у дакладзе былі асьветленыя найноўшы беларускі рэнэсанс і пазьнейшы разгром вызвольнага руху на Беларусі. На фактах гісторыі апошніх дзесяцігодзьдзяў і жорсткага здушэньня творчага гэнія Беларусі было даведзена, што вольнае разьвіцьцё беларускае культуры й навукі, як і дабрабыту насельніцтва, магчымы адно ўва ўмовах нацыянальнага й дзяржаўнага самавызначэньня Беларусі паводле прынцыпаў дэмакратыі й роўнасьці народаў.

У тым-жа 1953-цім годзе 21 красавіка праф. У. Сядура выступіў з дакладам — «Беларуская культура й таталітарызм» на Першай Амэрыканскай навуковай канфэрэнцыі Інстытуту па вывучэньні гісторыі й культуры СССР, што адбылася ў Нью-Ёрку. У дакладзе былі асьветленыя шляхі разьвіцьця ўсіх галінаў беларускай культуры — мастацтва, тэатру, літаратуры й навукі за колькі дзесяцігодзьдзяў. Амэрыканскі сьвет даведаўся пра беларускае адраджэньне ў першым дзесяцігодзьдзі пасьля рэвалюцыі. Для мала або зусім неабазнанай у пытаньнях беларускае культуры аўдыторыі было навіной даведацца аб існаваньні колькіх сот беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў, некалькіх літаратурных згуртаваньняў, паважных часопісаў, вялікай колькасьці мастакоў, скульптураў, артыстых, рэжысэраў, кампазытараў, навукоўцаў і прафэсуры у розных галінах навуковае й культурна-асьветнае дзейнасьці. Амэрыканцы былі глыбока ўзрушаныя, калі дакладчык перайшоў да наступнага этапу змаганьня партыі з нацыянальна-вызвольным рухам на Беларусі, вынікам якога было зьнішчэньне бадай усіх прадстаўнікоў актыву нацыянальна-адраджэнскай плыні ў беларускай літаратуры й культуры...

Навуковая пэрыядызацыя гісторыі беларускае культуры, прапанаваная праф. У. Сядура, атрымала зразуменьне й ухвалу з боку многіх удзельнікаў канфэрэнцыі, што было засьведчана выказваньнямі праф. М. Карповіча й рэдактара армянскага часопісу Р. Дабрыніяна...

Ня менш вялікае значэньне мела выступленьне праф. Сядуры на Украінскім навуковым зьезьдзе ў Нью-Ёрку з прычыны 80-годзьдзя Навуковага Таварыства імя Т. Шэўчэнкі й 35-годзьдзя Украінскай Акадэміі Навук, што адбыўся 27. 12. 1953 году. Тады д-р Сядура выступіў у абарону мастацкае спадчыны, бізантыйскіх фрэсак у старажытных касьцёлах Польшчы — Кракаве, Сандаміры, Любліне й іншых местах, якія ўкраінскі мастацтвазнаўца, Д. Гарняткевіч, стараўся выдаць за ўкраінскае мастацтва. На падставе канкрэтных фактаў і довадаў, багатай мастацтвазнаўчай літаратуры, выказваньняў як беларускіх, гэтак і ўкраінскіх, польскіх ды расейскіх мастацтвазнаўцаў, д-р. Сядура пераканальна давёў беларускае паходжаньне мастакоў, запрошаных каралём Ягайлам зь Вільні й іншых гарадоў Беларусі ў Польшчу для размалёўваньня касьцёлаў у знаёмым яму зь дзяцінства бізантыйскім стылі. Багдан Анішчык у артыкуле «ад Вільні да Кракава» на балонках часопісу Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва «**Запісы**» № 2 (6) за 1954 год асобна адзначае заслугі д-ра У. Сядуры ў навуковым абгрунтаваньні працэсу разьвіцьця беларускага мастацтва, малярства й архітэктуры, іхняй самастойнасьці й самабытнасьці на працягу ўсяе гісторыі беларускае мастацкае культуры. Гэтае выступленьне д-ра Сядуры ён называе «належным навуковым адказам» на беспадстаўныя спробы перахапіць нашую культурную спадчыну.



Вельмі прыхільна спаткала беларуская эміграцыя й іншыя навуковыя працы д-ра У. Сядуры, якія былі надрукаваныя ў «**Запісах**» Бел. Інстытуту Навукі й Мастацтва, прыкладам «Вытокі беларускага мастацтва. Беларуская архітэктура» ў 1952 годзе; «Беларускае малярства» («**Запісы**» № 2, 1953); «Истоки белорусского Искусства» («**Новый журнал**» № 36, 1953 г.); «Пётра Мірановіч» («**Запісы** № 1, 1953 г.); «Беларускае разьбярства» («**Запісы** № 1, 1954 г.); «Беларускае выяўленчае мастацтва ў 19 і 20 стагодзьдзях («**Конадні**» № 5-6, 1958 г.) і іншыя. Ня толькі чужынцы, але й шмат якія Беларусы ўпяршыню запазналіся па гэтых працах са сваёю культураю, а ў шмат якіх асяродках беларускія культурнікі рабілі рэфэраты паводле матэрыялаў гэтых працаў. Беларускі друк на балонках « **Беларускага Эмігранта**» ад 22. 2. 1953 году выказаўся аб гэтых працах, як высокакаштоўных і «на высокім узроўні».

Найбольшы посьпех выпаў на долю выданай у Нью-Ёрку кнігі д-ра У. Сядуры ў ангельскай мове: "**The Byelorussian Theatre and Drama**" — «Беларускі тэатр і драма» ў 1955 годзе. Яшчэ ў рукапісным стане яна выклікала колькі вельмі высокіх ацэнаў з боку знаных амэрыканскіх і канадзкіх экспэртаў у галіне савецкай культуры. Гэтак тагачасны прафэсар Калюмбійскага Унівэрсытэту, кіраўнік аддзелу славянскіх моваў, д-р Э. Сіманс, пісаў: «Гэта цалкам навуковая праца, што прасьледжвае ўсю гісторыю беларускага тэатру й драмы. Вялізарная дасьледчая праца зьявілася падставаю для гэтае працы, і яна выканана зь вялікаю добрасумленнасьцю й на высокім навуковым узроўні... Акрамя таго, што гэта ёсьць вельмі цікавая гісторыя беларускага тэатру й драмы, праца гэтая зьяўляецца арыгінальным укладам у нашы веды аб савецкім разьвіцьці й дае вобраз кантролю савецкага ўраду ў галіне культуры». А ў прадмове да кнігі праф. Э. Сіманс пісаў: «І як наглядальнік, і як удзельнік найноўшага беларускага культурнага адраджэньня, д-р Сядура ў ягонай кнізе дае навуковы агляд першапачатных ажыцьцяўленьняў прыгожых мараў беларусаў аб сваім нацыянальным тэатры й драме... Д-р Сядура крок за крокам вядзе чытача праз цудоўны росквіт беларускага драматычнага мастацтва Беларусі ў першым дзесяцігодзьдзі пасьля рэвалюцыі, дзівугоднае змаганьне ў канцы 20-ых і пачатку 30-ых гадоў за захаваньне свабоды нацыянальнага руху й незалежных, самабытных элемэнтаў культуры й, нарэшце, канечнае падначаленьне змусу партыйнаму дыктату. Дасьледваньне д-ра Сядуры багатае фактамі й дэталямі, яно дае сыстэматычную гісторыю беларускага тэатру й драмы — разьвіцьцё розных тэатраў, іх творчыя мэтады, падрыхтоўку актораў, рэпэртуару й аналіз усіх галоўных п'есаў, агляд жыцьця й дзейнасьці вядомых рэжысэраў, актораў й драматургаў. Коратка кажучы, мы ў гэтай кнізе маем першую ў ангельскай мове ўва ўсю даўжыню працу аб беларускім тэатры й драме на падставе шырокага дасьледваньня й напісаную аўтарам першарадных ведаў і вольным ад савецкае цэнзуры. Кніга гэтая ёсьць даўночаканым падарункам усім, хто зацікаўлены ў тэатры й драме й хто вывучае культуру СССР. Кожны знойдзе ў ёй вылучнае багацьце інфармацыі пра культурныя справы й складаныя пытаньні рэглямэнтацыі мастацтва».




© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

Выхад кнігі «**Беларускі тэатр і драма**» з друку ў Нью-Ёрку ў красавіку 1955 г. выклікаў шмат дадатных водгукаў у друку й быў вітаны ўсімі добразычліўцамі беларускае культуры ў вольным сьвеце.

Цікава, што пад націскам пераканаўчае навуковасьці працы «**Беларускі тэатр і драма**», нават расейскія газэты былі вымушаныя зьмясьціць аб'ектыўны артыкул аб гэтай кнізе. Гэтак газэты «**Русская Мысль**» (Парыж) ад 30. 10. 1955 г., і «**Новое Русское Слово**» (Нью-Ёрк) ад 23. 10. 1955 г. надрукавалі вялікую рэцэнзію праф. П. Ершова пад назовам «Трагічны шлях беларускага тэатру». Даючы высокую ацэну навуковым якасьцям кнігі д-ра У. Сядуры, праф. Ершоў зрабіў вельмі важны для вызнаньня беларускае самабытнасьці ў навуковым сьвеце выснаў: «З чыста гістарычнага й філялёгічнага пункту гледжаньня ў сучасны момант варта ўжо прызнаць наяўнасьць сфармаванае літаратурнае беларускае мовы, на якой створана мноства беларускіх літаратурных твораў». Тое, што кніга зьявілася стымулам для рэпрэзэнтацыі й вызнаньня беларускае культуры ў сьвеце, само сабою зразумела.

Не засталася на баку й лепшая частка беларускага друку. Газэта «**Бацькаўшчына**» ад 9. 10. 1955 г. ў рэцэнзіі А. Карповіча пад назовам «Кніга аб беларускім тэатры й драме», а таксама часопіс «**Божым Шляхам**» (Парыж) далі ня менш высокую дадатную ацэну кнізе. Адзначаючы шырыню й глыбіню задумы гэтае працы, А. Карповіч піша: «Салідны досьлед Ул. Сядуры, які абымае 517 бачынаў тэксту, бясспрэчна прынясе сур'ёзную дапамогу ўсім, хто цікавіцца гісторыяй культуры беларускага народу ды паслужыць абшырнай крыніцай ведаў для чытача й навукоўца-чужынца, а гэтым і кладзе пачатак сапраўды навуковаму распрацоўваньню пытаньняў зь гісторыі беларускага тэатру». На балонках «**Беларускага Зборніка**» (беларускае выданьне № 3 і ангельскае № 2 за 1956 г.) А. Карповіч называе выхад кнігі «**Беларускі тэатр і драма**» вялікай падзеяй у беларускім культурным жыцьці». З дапамогай гэтае кнігі, — піша аглядальнік, — напісанай у ангельскай мове, беларускае мастацтва ўпяршыню робіцца здабыткам заходня-эўрапэйскіх навукоўцаў, якія, як і ўсе, хто цікавіцца гісторыяй культуры беларускага народу, знойдуць у ёй абшырную крыніцу ведаў. У гэтым — вялікае значэньне працы Ул. Сядуры й вялікі ўклад, зроблены ім у беларускую культуру».

Праф. М. Вакар, аўтар кнігі «**Беларусь, стварэньне нацыі**» (ў ангельскай мове), у лісьце ад 30. 10. 1955 г. да аўтара пісаў наступнае: «Вашу кнігу аб беларускім тэатры я прачытаў адразу пасьля яе выхаду з друку. Яна дала мне тым больш рэдкае задавальненьне, што гэта першая грунтоўная праца аб Беларусі ў замежнай літаратуры. Ня істотна тое, што зь некаторымі вашымі ацэнкамі й высновамі я не магу цалкам згадзіцца. Справа гэтая ў значнай ступені суб'ектыўная. Важна тое, што ваша праца ўпяршыню ставіць усе гэтыя ацэнкі на цьвёрдую глебу. Паводле багацьця фактычнага матэрыялу я ня ведаю іншай такой працы пра беларускую культуру з часоў Насовіча, Шэйна, Раманава, Карскага; ад пазьнейшых дасьледчыкаў яе выгадна вылучае стрыманы тон і характар дакумантацыі».

Да гэтага ўсеагульнага голасу вызнаньня каштоўнасьцяў працы «**Беларускі тэатр і драма**» д-ра Ул. Сядуры далучыліся амэрыканскія й іншыя чужаземныя выданьні. Гэтак красавіковы № за 1956 год часопісу **"The American and East European Review"**, April 1956, New York, зьмясьціў рэцэнзію, у якой адзначыў незвычайную тэму кнігі: «гэтая кніга напоўненая фактамі, належыць да сапраўдных навуковых працаў прысьвечаных вывучэньню розных бакоў культуры СССР... Ул. Сядура пераканаўча паказвае, як беларускі творчы гэні ўзьняўся, як мова была сфармаваная, як поўнасьцю законнымі былі беларускія спробы стварыць собскую культуру». У заключэньне часопіс выказвае сваю поўную згоду з праф. Э. Сімансам, які ў прадмове да кнігі назваў яе «пажаданым падарункам усім, хто зацікаўлены ў тэатры й драме». (бал. 294-296).

Падзяляюць гэтую высокую ацэну й іншыя амэрыканскія друкаваныя органы, як **"New York Times Book Review"**, ад 19. 6. 1955 г. або часопіс у ангельскай мове, што выходзіць у Нью-Ёрку, як орган эміграцыі з краінаў Сярэдняе Эўропы, пад назовам **"News From Behind the Iron Curtain"** які ў № 7-ым, томе 4-ым за чэрвень 1955 г. зьмясьціў прыхільны агляд кнігі «**Беларускі тэатр і драма**». Былі весткі аб водгуках друку ў Англіі, Канадзе й Аўстраліі. Гэтак вызнаньне навуковага значэньня працы беларускага навукоўца набыў міжнародны характар і становіць сабою важны здабытак у агульным нацыянальна-вызвольным і культурна-творчым чыне беларускае эміграцыі ў вольным сьвеце. Высокую ацэну працы «**Беларускі тэатр і драма**», як лепшае кнігі ў ангельскай мове ў галіне гісторыі ўсходня-эўрапэйскай культуры, даў амэрыканскі часопіс **"The Russian Review"**. Аўтар агляду праф. Гарвардзкага Унівэрсытэту, д-р Сяргей Зенькоўскі піcаў: «Ул. Сядура больш чым на пяці сотнях балонак разгортвае вылучны матэрыял аб разьвіцьці беларускае драмы й сцэны. Праца гэтая дапоўнена бібліяграфіяй, індаксам, зноскамі й фотаілюстрацыямі. Яна зьяўляецца лепшаю кнігаю, надрукаванаю дагэтуль у гэтай адмысловай галіне. Яна заслугоўвае ўвагі кожнага гісторыка ўсходня-эўрапэйскай культурнай эвалюцыі». (**"The Russian Review"**, An American Quarterly, April 1957, Vol. 16, № 2, p. 70)

Цікава, што выхад кнігі «**Беларускі тэатр і драма**» не магла абыйсьці маўчаньнем нават сама Масква. Надта-ж ужо шырокім і гучным было рэха, выкліканае гэтаю кнігай у вольным сьвеце... Часапіс Інстытуту Расейскай Літаратуры (Пушкінскага Дому) Акадэміі Навук СССР пад назовам «**Русская Литература**» ў № 1 за 1959 год на бачынцы 216 у артыкуле А. Бруханскага «Вывучэньне або фальсыфікацыя?» даслоўна пісаў наступнае: «...Вялікая праца У. Сядуры, нагадваючы паводле тэмы зборнік «Савецкія тэатры», адрозьніваецца ад яго большым прыцягненьнем фактычнага матэрыялу. Да кнігі дададзена падрабязная бібліяграфія. Сядура разглядае гісторыю беларускага тэатру з моманту зараджэньня да нашых дзён, пры гэтым немалое месца адведзена апісаньню дзейнасьці тэатраў, што супрацоўнічалі зь немцамі ў пэрыяд фашыстоўскай акупацыі, а гэтак сама эмігранцкіх тэатраў. Але якое дачыненьне маюць яны да тэатральнай культуры беларускага народу? Кніга прасякнутая духам буржуазнага нацыяналізму, што выяўляецца ў антаганістычным супроцьстаўленьні беларускай культуры, культурам другіх народаў і ў першую чаргу расейскага народу».

Наступнай цэннай працай д-ра Ул. Сядуры-Глыбіннага з галіны беларусаведы зьяўляецца выдадзеная ў 1958 годзе Інстытутам Вывучэньня СССР кніга пад назовам «**Доля беларускае культуры пад Саветамі**», якая ў 1959 годзе была тым-жа Інстытутам выдадзеная ў нямецкай мове ў дапоўненым выглядзе пад назовам: "Vierzig Jahre Weissruthenischer Kultur unter den Sowjets", München, 1959, pp. 145.

Што да працы д-ра Ул. Сядуры «**Достоевсковедение в СССР**», дык варта адзначыць, што яна здабыла найвышэйшую ацэну й вышла на першае мейсца сярод усіх працаў Інстытуту Вывучэньня СССР. Гэтак, у «Праекце ацэны» выданьняў Інстытуту за час з 1. 1. 1955 г. да 31. 12. 1956 г. удзельнікі абмеркаваньня — д-р Г. Іваск, д-р Н. Вакар і д-р С. Зенькоўскі пісалі наступнае: «Праца Ул. Сядуры

**«Достоевсковедение в СССР»** зьяўляецца вылучна карысным дасьледваньнем у галіне савецкай літаратурнай крытыкі. Вельмі добра складзеная й дакумантаваная, яна будзе вітацца ўсімі дасьледнікамі Дастаеўскага. Выйсьці на першае мейсца, і пры гэтым вылучна навуковымі якасьцямі й навуковымі здабыткамі, значыла нішто іншае, як перамогу беларускага навукоўца ў сусьветным маштабе, выхад беларускае навукі на міжнародны Алімп і слаўную перамогу вышэйшых духовых каштоўнасьцяў. Тут як-бы спраўдзіліся прадбачаньні нашага незабыўнага М. Багдановіча аб тым, што «трэба-ж і нам, бяручы чужое, калі-ні-калі даваць нешта сваё».

Асабліва шырокі водгалас у сьвеце выклікала зьяўленьне кнігі д-ра У. Сядуры **«Достоевский в литературной критике»** ў ангельскай мове ў 1957 годзе ў выдавецтве Калюмбійскага Унівэрсытэту ў Нью-Ёрку. Адразу-ж кніга д-ра Ул. Сядуры была ўлучаная ў лік кніжак-падручнікаў ува ўсіх унівэрсытэтах Амэрыкі й Эўропы.

Улетку 1958 г. кніга д-ра Ул. Сядуры пра Дастаеўскага была выдадзеная й у Ангельшчыне ў выдавецтве «Оксфорд Юнівэрсіты Прэс» у Лёндане. Пасьля выхаду кнігі з друку ўсе ангельскія ўнівэрсытэты адразу ўзялі яе ў якасьці падручніка для студэнтаў і выкладчыкаў славянскіх літаратураў.

У пачатку 1961 г. выйшла ў сьвет праца д-ра Ул. Сядуры аб найноўшых зьявах у савецкай дастаеўскаведзе (1955-1960) па-француску: **"Les Recents Developpements Des Etudes Sur Dostoievsky En Union Sovietique (1955-1960)".**

Праф. Сядура быў віцэ-прэзыдэнтам Аб'еднаньня дастаеўскаведаў на Паўночную Амэрыку, і таксама займаў пасады ў аддзелах Амэрыканскага Аб'еднаньня выкладчыкаў славянскіх і усходня-эўрапэйскіх моваў.

У 1975 годзе ў выдавецтве Нордлэнд Паблішынг Кампані была выдана кніга д-ра Ул. Сядуры па-ангельску «**Вобраз Дастаеўскага ў Расеі сёньня**». У ёй знайшло асьвятленьне далейшага разьвіцьця савецкай дастаеўскаведы пасьля спыненьня перасьледу вывучэньня творчасьці Дастаеўскага ў 1956 г. У ёй даецца крытычная ацэнка выказваньняў аб усіх творах гэтага пісьменьніка да нашых дзён. У шырокім дапаўненьні да кнігі даецца агляд усёй эміграцыйнай літаратуры аб Дастаеўскім, пачынаючы з часоў расейскай рэвалюцыі.

У 1976 годзе Рэнсэлэр Палітэхнічны Інстытут надаў Ул. Сядуру годнасьць заслужанага прафэсара. За надзвычайныя заслугі ў галіне дасьледаваньня літаратуры й за ўклад у галіне вувучэньня Дастаеўскага, Ул. Сядура быў колькі разоў узнагароджаны. Ягоная біяграфія зьмешчана ў трынаццаці энцыкляпэдычных выданьнях.

Шмат дадатных водгукаў зьявілася пасьля выхаду кнігі Ул. Сядуры **«Дастаеўскі ў расейскім і міжнародным тэатры»** ў канцы 1977 году. Кніга зьяўляецца вынікам больш чым 20-ці гадовай дасьледніцкай і пісьменьніцкай дзейнасьці аўтара. У ёй разглядаецца гісторыя інсцэніровак раманаў Дастаеўскага, што пачаліся яшчэ пры жыцьці вялікага пісьменьніка й працягваюцца да нашых дзён.

Улетку 1983 году выйшла новая кніга Ул. Глыбіннага **«Пад лебядзіным знакам»**, аповесьць з жыцьця Максіма Багдановіча на Беларусі ў 1911 годзе. У ёй малюецца малады паэта, замілаваны сваёй Бацькаўшчынай, прадбачаючы вялікую будучыню ў адраджэньні краю й народу.

Навуковы посьпех сусьветнага значэньня беларускага навукоўца робіць шмат гонару ўсёй беларускай эміграцыі, сьведчачы аб вышыні навуковых інтарэсаў і культурнай экспансыі нашага народу. У выкананьне запавету М. Багдановіча, што



толькі ўнёсшы сваю долю ў скарбніцу сусьветнае культуры, толькі ўзбагаціўшы агульна-чалавечыя здабыткі, можна дамагчыся пачэснага месца на мапе нацыянальных культураў сусьветнага вызнаньня й значэньня.

## Бібліяграфія Працаў Ул. Сядуры-Глыбіннага Замежнага Пэрыяду 1965 — 1983

## Bibliography of Ul. HLYBINNY'S Writings Abroad

Бібліяграфія працаў Уладзімера Глыбіннага, зьмешчаная тут, зьяўляецца працягам бібліяграфіі, што была зьмешчана у зборніку **«На берагох пад сонцам»**, і ўлучае працы ад 1965 да 1983 гг. Выключэньнем зьяўляецца пералік кнігаў Ул. Глыбіннага, які ўлучае кнігі за ўсе гады замежнага жыцьця.

### I. КНІГІ

Уладзімер Глыбінны. **Доля Беларускае Культуры пад Саветамі.** Выданьне Інстытуту для вывучэньня СССР. Досьледы й матэрыялы. Сэрыя II, № 68, Мюнхэн, 1958, б. 161

Уладзімер Глыбінны. **На Берагох пад Сонцам.** Апавяданьні й аповесьці. Выдавец: Беларуска-Амэрыканскі Літаратурна-Навуковы Цэнтр, Нью-Ёрк - Трой, Нью-Ёрк, 1964, б. 191

Уладзімер Глыбінны. **На Сьвятой Зямлі.** Выдавецтва «Божым Шляхам», Лёндан, 1972, б. 118

Уладзімер Глыбінны. **Паэта з Божай Ласкі.** Успаміны й роздум пра Язэпа Пушчу (1902 - 1964). Нью-Ёрк, 1979, б. 132

Уладзімер Глыбінны. **Смаленшчына — Адвечная Зямля Беларускага Народу.** Гістарычны нарыс. Народная бібліятэчка № 2, Бэрлін, 1944, 32 б. Другое выданьне: Нью-Ёрк — Саўт Рывэр, Выданьне Беларускага Выдавецкага Таварыства. Бібліятэка **Беларускае Думкі,** 1963, б. 44. Таксама ў час. «Беларуская Думка» № 4, б. 5-11, № 5, б. 10-18, 1963, Нью-Ёрк — Саўт Рывэр, ЗША

Уладзімер Глыбінны. **Пад Лебядзіным Знакам.** Аповесьць пра Максіма Багдановіча. Выдавец: Беларуска-Амэрыканскі Навукова-Літаратурны Клюб, Трой — Нью-Ёрк, 1983

Владимир Седуро. **Достоевсковедение в СССР.** Институт для Изучения СССР, Мюнхен, 1955, стр. 90

Vladimir Seduro. **The Byelorussian Theater and Drama.** Research Program on the USSR, Columbia University, New York, 1955, 517 pp.

Vladimir Seduro. **Dostoyevski in Russian Literary Criticism.** 1846-1956. Columbia University Press, New York, 1957, 412 pp.
The same, second edition, Octagon Press, New York, 1969

Vladimir Seduro. **Dostoevski in Russian Emigre Criticism.** Nordland publishing company, Belmont, Massachusetts, 1975, 102 pp.

Vladimir Seduro. **Dostoevski's Image in Russia Today.** Nordland publishing company, Belmont, Massachusetts, 1975, 508 pp.

Vladimir Seduro. **Dostoevski in Russian and World Theatre** with 130 illustrations and photographs from major Dostoevsky Productions. The Christopher pub-

lishing house, North Quincy, Massachusetts, 1977, 435 pp.

Vladimir Seduro. **Les Récents Développements Des Études Sur Dostoievsky En Union Soviétique (1955-1960).** Revue annuelle **Problémes Sovi étiques,** 1960, № 3, Institut d'études sur L' URSS. Munich, 132 pp.

Vladimir Seduro. **Soviet Literature During the Last Seven Years**. Published by the Language Dept. of Shaker High School, Newtonville, N. Y. 1960

Vladimir Hlybinny. **Vierzig Jahre Weissruthenischer Kultur unter den Sowjets**, Monographien, Institute zur erforschung der UdSSR, München, 1959, 145 s.

## II. НОВЫЯ МАСТАЦКІЯ ТВОРЫ Ул. ГЛЫБІННАГА

**«Горка й моташна...»** Урывак з аповесьці «Да родных берагоў». «Баявая Ускалось», № 10, 1970, Таронта, Канада, б. 31-32

**«На Сьвятой Зямлі»**. Нарысы з падарожжа ў Палестыну. «Божым Шляхам», № 5 (116), 6 (117) за 1969г.; № 1 (118), 2 (119), 3 (120), 4 (121), 5 (122), 6 (123) за 1970 г.; № 1 (124), 2 (125), 3 (126) за 1971 г. Лёндан, Ангельшчына.

**«Максімава сяброўка»**. Урывак з аповесьці пра Максіма Багдановіча «Пад лебядзіным знакам», урывак з разьдзелу «За плыньню Ушы, за хвалістымі ўзгоркамі». Газ. «Беларус» № 294-295 за 1981 г. і № 296 за 1982 год, Нью-Ёрк

**«Пад лебядзіным знакам»**. Аповесьць пра Максіма Багдановіча. «Беларускі Сьвет», № 9(38), 10(39) за 1981 г.; № 11(40), 12(41) за 1982 год, Грэнд Рэпідс, Мічыган, ЗША

**«Полацкае дзіва»**. Апавяданьне. Газ. «Час», № 38-39, ліпень-верасень за 1982 год, Нью-Ёрк

**«Санэт, варты паэмы»**. Урывак 4-ты й 5-ты з апошняга разьдзелу аповесьці пра Максіма Багдановіча «Пад лебядзіным знакам». Двумоўны беларускі часопіс «Час», № 34-35, за 1982 год, Нью-Ёрк

**«Тэстамэнт»**. Апавяданьне. Падрыхтавана да друку. 1982 год

**«Сьвітанак над Лахвою»**. Апавяданьне пра паляўнічыя прыгоды Міколы Гусавяніна, аўтара «Песьні пра зубра». Падрыхтавана да друку. 1982 г.

## III. ЛІТАРАТУРНА-КРЫТЫЧНЫЯ ПРАЦЫ Ул. ГЛЫБІННАГА

**«Варты вянок»**. З выдавецка-друкарскай дзейнасьці М. Прускага. «Беларус», № 299, 1982, Нью-Ёрк

**«Глыбіня жыцьцёвага дазнаньня»**. Інтэрв'ю газэце «Час», № 24, сакавік, № 25-26 за травень-ліпень 1980 году. Нью-Ёрк

**«На шляху да паэтычнага мастацтва»** Зборнік вершаў М. Кавыля «Ростань» і «Пад Зорамі Белымі». Час. «Беларуская Думка» № 7, 1965, б. 25-29, Нью-Ёрк — Саут Рывэр, Нью-Джэрсі

**«Паэта з Божай ласкі»**. Успаміны й роздум пра Язэпа Пушчу (1902-1964). Час. «Беларуская Думка», № 16-17, 1973-74, б. 34-44; № 18-19, 191974-75, б. 24-31; № 20, 1976,б. 15; № 21-22, 1977-78, б. 19-27. Нью-Ёрк — Саут Рывэр, Нью Джэрсі. Таксама асобнай кніжкай пад тым-жа назовам. Нью-Ёрк, 1979, б. 132

**«Удалае завяршэньне эпапэі»**. «Гараватка», кніга трэцяя — «Беларусы, вас чакае зямля!» К. Акула. «Беларус» № 292, 1981, Нью-Ёрк, б. 4-5



**«У імя братэрства»**. Пра пераклады твораў М. Багдановіча й іншых паэтаў, украінскім паэтам Ярам Славутычам. Газ. «Час», студзень 1980 г. Нью-Ёрк

**«У пошуках сьвету вечнае красы»**. Інтэрв'ю газэце «Бацькаўшчына», верасень, 1964 г., Мюнхэн, Нямеччына

**«Ці-ж было В. К. Літоўскае Незалежнай Беларускай Дзяржавай у 17 і 18 стст?»** (Адказ «Незалежніку»). «Беларускі голас», № 182, красавік 1970 г. і № 183, травень, 1970 г. Таронта, Канада.

**«Цісьнем руку тваю»** (артыкул-віншаваньне Уладзімеру Дубоўку) «Незалежная Беларусь», Кіліўлэнд, Агайё, № 1(27), лістапад, 1967

Д-р Банадысь Чарнэцкі (псэўданім) **«Ня ведаючы броду, ня суньса ў воду!»** (Адказ інж. С. Зеркалю на ягоны паклёп на Беларусаў). «Беларускі голас» за май 1965 г., № 127, б. 2, Таронта, Канада

Владимир Седуро. **«А всё-таки встреча Достоевского с Гоголем была»**. «Новый Журнал», № 117, декабрь, 1974, стр. 84-100, Нью-Йорк

Владимир Седуро. **«Американские гастроли МХАТ'а»**. «Современник» № 12, декабрь 1965 г. стр. 82-93, Торонто, Канада

Владимир Седуро. **«В мире сердечной красоты и душевного лада»**. (о книге Е Е. Климова «Русские женщины по изображению русских художников»). «Новое Русское Слово», 4 февраля 1968 г., Нью-Йарк; «Русская Мысль», 29 февраля 1968 г., Париж, Франция.

Владимир Седуро. **«Достоевский в послереволюционной эмигрантской критике»**, «Современник», № 16, декабрь 1967 г., стр. 124-132; № 17-18, декабрь, 1968, стр. 78-92; № 19, июнь 1969, стр. 32-41; № 20-21, июль 1970, стр. 113-121, Торонто, Канада

Владимир Седуро. **«Еще о Достоевском и Некрасове»**. «Новое Русское Слово» от 17 июня 1973 г., стр. 7, Нью-Йорк

Владимир Седуро. **«Еще о Краткой литературной Энциклопедии»**. (Дополнение к мартирологу репрессированных писателей Белоруссии). «Русская Мысль от 30 октября 1965 г., № 2380, Париж, Франция

Владимир Седуро. **«Издание произведений Достоевского в СССР»**. «Современник» № 11, май 1965 г., стр. 82-92, Торонто, Канада

Владимир Седуро. **«Лев Толстой на Бродвее»**. «Холстомер» в театре Елены Гейс, Нью-Йорк. «Русская Мысль» от 21 февраля 1980 г., стр. 11, Париж, Франция

Владимир Седуро. **«Международное общество достоевсковедов»** «Новое Русское Слово» от 6 декабря 1970 г., стр. 5, Нью-Йорк; «Русская Мысль» от 4 февраля 1071 г., стр. 7, Париж, Франция

Владимир Седуро. **«Михаил Михайлович Бахтин (1895-1975)»**. «Бюллетень» Международной Ассоциации Достоевсковедов, № 6, ноябрь 1978 г., стр. 33-34

Владимир Седуро. **«Не в уровень и с любовью, а в свете морального суда»** (Сталин в изображении А. Солженицына). «Русская Мысль» № 3198, 6 апреля 1978, стр. 3, Париж, Франция

Владимир Седуро. **«Не «некий», а талантливый поэт-невольник»**. (О Ярославе Смелякове) «Новое Русское Слово» от 2 апреля 1972 г., Нью-Йорк

Владимир Седуро. **«Нравственный императив и герои Михаила Булгакова»** (Роман




© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

Михаила Булгакова «Мастер и Маргарита»). «Современник» № 25, ноябрь 1973 г., стр. 26-46. Торонто, Канада

Владимир Седуро. **«Об академическом собрании сочинений Достоевского»**. «Новое Русское Слово» от 8 ноября 1970 г., стр. 5, Нью-Йорк

Владимир Седуро. **«О достоевсковедении и достоевсковедах»**. «Новое Русское Слово» от 26 декабря 1971 г., стр. 2 и 5. Также «Русская Мысль» от 13 и 20 января 1971 г., стр. 7, Париж, Франция

Владимир Седуро. **«О Петербурге Осипа Мандельштама»**. «Новое Русское Слово» от 20 января 1974 г., стр. 3 и 7, Нью-Йорк

Владимир Седуро. **«Ответы на анкету о Достоевском»**. «Русский Голос в Риме», Выпуск 13, № 2, март-апрель 1981 г., стр. 6-8, Рим, Италия

Владимир Седуро. **«Победа человечности»**. («Белый бакен» и «Невесомость» Евгения Маркина. « Новое Русское Слово» от 5 марта 1972 г., стр. 5, Нью-Йорк

Владимир Седуро. **«Сквозь призму участника и исследователя»**. (О книге Г. Свирского «На лобном месте»). «Русская Мысль» от 20 ноября 1980 г., стр. 12, Париж, Франция

Владимир Седуро. **«Солженицын и традиции полифонического романа Достоевского»**. «Современник, № 32, 1976, стр. 88-92, № 33-34, 1977, стр. 172-178. Торонто, Канада

Владимир Седуро. **«Спектакль Триумфального успеха»**. («Братья Карамазовы» в МХТ в 1910 г.) «Современник» № 43-44, 1979 г., стр. 120-130, Торонто, Канада

Владимир Седуро. **«Холстомер» на Бродвее»**. «Новое Русское Слово» от 18 декабря 1979 г., стр. 4, Нью-Йорк

Vladimir Seduro. **"The controversy over Dostoevsky in the 1960's in Soviet Dostoevsky Studies"**. "Transactions" of the Association of Russian-American Scholars in USA., Volume V, New York, 1971, pp. 125-180

Vladimir Seduro. **"Das Trauma der Alteren Generation"**. "Osteuropa" № 1-2, 1965, Stuttgart, Germany

Vladimir Seduro. **"Dostojewskij in der Sowjetuion"**. "Osteuropa", Heft 5, 1965, Stuttgart, Germany, s. 310-315

Vladimir Seduro. **"Dostoevsky in Russian Emigre Literary Criticism"**. "Bulletin" of International Dostoevsky Society, № 2, November 1972, p. 15

Vladimir Seduro. **"The Dostoevsky Type of Polyphonic Novel in Contemporary Prose"**. "Resumes", The Fourth International Dostoevsky Symposium. August 17-23, 1980, Bergamo, Italy, pp. 88-89

Vladimir Seduro. **"Dramatic Musical Versions of Dostoevsky: Sergej Prokof'evs "The Gambler"**. "Transactions" of the Association of Russian-American Scholars in USA., Volume IX, New York, 1975, pp. 118-132

Vladimir Seduro. **"Les Etudes sur Dostoievsky en Union Soviétique, 1960-1965"**. "Problemes Soviétiques", № 11, 1966, pp. 92-96, Institut d'études sur l'URSS., München

Vladimir Seduro. **"The Fate of Stavrogin's Confession"**. "The Russian Review", Vol. 25, № 4, October 1966, pp. 397-404

Vladimir Seduro. **"Gogol and Dostoevsky. Concerning the Question of Dostoevsky's Farewell to Gogol and Romanticism"**. "Bulletin" of International Dostoevsky Society, № 4, November 1974, p. 52

Vladimir Seduro. **"The Problem of F. M. Dostoyevski's Origin"**. "Zapisy" of Byelorussian Institute of Arts and Sciences, № 16, 1978, pp. 44-60, New York

Vladimir Seduro. **"Scenic Collision and Technique"**. "Bulletin" of International Dostoevsky Society, № 7, November 1977, pp. 95-97



## IV. ЛІТАРАТУРА АБ ЖЫЦЬЦІ, ТВОРЧАСЬЦІ Й НАВУКОВАЙ ДЗЕЙНАСЬЦІ Ул. ГЛЫБІННАГА

Аглядчык. **«Паэта з Божай Ласкі»**. (Уладзімер Глыбінны. Успаміны й роздум пра Язэпа Пушчу). «Беларускі Голас» № 281, люты 1980, Таронта, Канада

а. Алімп. «Цікавая кніжыца для Хрысьціяніна. **«На Сьвятой зямлі»** У. Глыбіннага. Выдавецтва «Божым Шляхам», Лёндан, 1972, б. 120, цана 4 даляры. «Беларускі Голас № 208, сьнежань 1972, Таронта, Канада

**«Беларус сярод Выдатных Амэрыканцаў»**. «Час», №5-6, 1976, б. 9, Нью-Ёрк

Вір Васіль. **«Беларуская літаратура за мяжой»**. «Баявая Ускалось», № 11, 1971, бб. 23-25, Таронта, Канада. (Згадваньні пра У. Глыбіннага).

Грыцук А. **«Зь Літаратурнае Нівы»**. Уладзімер Глыбінны: «На Берагох пад Сонцам». Апавяданьні й аповесьці. Трой, Беларуска-Амэрыканскі Літаратурна-Навуковы Цэнтр, 1964, б. 191. Цана 5 даль. Газ. «Беларус», № 94, студзень 1965, Нью-Ёрк

**«Даклады У. Глыбіннага ў БІНіМ і ў Нью Брансьвіку»**. « Беларус» № 123-124, б. 2, Нью-Ёрк

Я. З. **«Літаратурны вечар Ул. Глыбіннага»**. (Пра чытань аповесьці «Пад лебядзіным знакам» пра Максіма Багдановіча ў Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва). Газ. «Беларус», № 290-291, 1981 г., б. 6

**«Заслужаны Прафэсар. Рэнсэлірскі ўнівэрсытэт ушанаваў праф. У. Сядуру»**. Газ. «Час», № 4, 1976, б. 5, Нью Ёрк

Карабан С. І. **«Нарысы гісторыі Беларускай Савецкай крытыкі 20-30 гадоў»**. Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна. Мінск, 1971, б. 198. На б. 122 і 123 цытуецца праца Ул. Седуро «Паэтычны фронт» («Полымя, № 4, 1931 г., б. 227) і крытыкуецца за творчы мэтад.

Конан У. М. **«Разьвіцьцё эстэтычнай думкі ў Беларусі (1917-1934»)**. Акадэмія Навук БССР, Інстытут філасофіі і права, Мінск, 1968, б. 164 (пра Глыбіннага).

Ляшчына Я. **«На Берагох пад Сонцам»** Ул. Глыбіннага. «Беларуская Думка» № 7, 1965, б. 22-24, Нью-Ёрк — Саўт Рывэр, Нью Джэрсі

**"Na Bierahoch pad Soncam"**. "Siaŭbit" (The Sower), № 44, Maj-Červień, 1965, b. 16

Надасланыя Кніжкі. **«На Берагох пад Сонцам»**. У. Глыбіннага. «Беларускі Голас» № 122, 1964, Таронта, Канада

**«На Міжнародным сымпозыюме аб Дастаеўскім»**. «Беларускі Голас», № 225, верасень 1974, Таронта, Канада

**«На Сьвятой Зямлі»**. Зацемка пра кнігу У. Глыбіннага «На сьвятой зямлі». Газ. «Беларус» № 187, лістапад 1972, б. 3, Нью-Ёрк

Новыя выданьні: **«На Берагох пад Сонцам»** Уладзімера Глыбіннага. «Уздым» № 6, 1964, б. 20

**«Новая праца аб Дастаеўскім»**. «Беларускі Голас», № 225, верасень 1974, Та-

ронта, Канада

Пачанін С. і Сташкевіч М. «**Гістарычная навука ў Беларусі**». «Голас Радзімы» № 33(1295), жнівень 1973. Выпад супраць У. Глыбіннага, як буржуазнага нацыяналістага ў галіне гісторыі.

Сачанка Іван. « **Беларускія пісьменьнікі супроць буржуазных нацыяналістаў**». «Полымя», № 10, кастрычнік 1974, Мінск, б. 144. (Згадваньне імя У. Сядуры ў сувязі з палемікай беларускіх пісьменьнікаў у гады вайны).

Сачанка Іван. «**Хто такія Беларускія «Патрыёты?»** Бібліятэчка газэты «Голас Радзімы», Мінск, 1975, б. 61, 67, 72, 75, 76, 78 і іншыя балонкі на якіх ганьбіцца дзейнасьць беларускага патрыёты Ул. Сядуры.

Сташкевіч Мікалай. «**Непазбежнае Банкруцтва**». Бібліятэчка газэты «Голас Радзімы». Мінск, 1974, б. 139. (згадка пра «буржуазнага фальсыфікатара» У. Сядуру (Глыбіннага).

Сташкевіч Мікалай. «**Кастрычнік у Беларусі**». Бібліятэчка газэты «Голас Радзімы». Мінск, 1977. На б. 52 і 68 выпад супраць «буржуазнага нацыяналістага» У. Глыбіннага

Праф. К. Тарасевіч. «**Навуковец і Пісьменьнік Сусьветнага Вызнаньня**». «Час», № 27, верасень 1980, Нью-Ёрк

Праф. К. Тарасевіч. «**Сьвет вечнай прыгожасьці**». Мастацкая проза Уладзімера Глыбіннага. «Час», двумоўны беларускі часапіс у ЗША., №№ 31, 1981, б. 6 і 8; і 33 за 1981, б. 7-8

«**Уладзімер Глыбінны ў Энцыкляпэдыях**». «Пражэктар», літаратурна - мастацкі альманах, 1967, Кліўлэнд, ЗША., Выдавец: Алесь Змагар, б. 77-78

«**У Эўрапэйскіх і Амэрыканскіх Энцыкляпэдыях**». «Беларуская Думка» № 10-11, 1967-1968 гг., Нью-Ёрк — Саут Рывэр, Нью Джэрсі, б. 35

«**Американский представитель Международного Общества достоевсковедов**». "Transactions" of the Russian-American Scholars in USA, № 8, 1974, pp. 295-296, New York

«**Великая победа Христа**». (Доклад проф. В. Седуро о Достоевском). «Новое Русское Слово», 17 декабря 1969, Нью-Йорк

Г. У. «**Доклады проф. В. Седуро**». «Новое Русское Слово от 25 февраля 1979, Нью-Йорк

«**Доклад о Достоевском**». «Новое Русское Слово», 6 декабря 1981 г., стр. 2

«**Достоевский и театр**». (О выходе новой книги проф. В. И. Седуро). «Новое Русское Слово» от 17 декабря 1977, Нью-Йорк

Завалишин Вяч. «**О двух книгах Льва Шестова**». «Новое Русское Слово» от 15 октября 1972, Нью-Йорк. (Ссылка на мнение проф. В. И. Седуро в защиту Льва Шестова)

Замбржицкий Н. «**Научно-творческий выход на Запад**». К шестидесятилетию проф. В. И. Седуро и сорокалетию литературно-научной деятельности. «Новое Русское Слово» от 31 декабря 1970, стр. 3, Нью-Йорк

Замбржицкий Н. «**Ученый с мировым именем**». (К 70-летию проф. В. И. Седуро). «Новое Русское Слово», 24 декабря 1980, Нью-Йорк

Замбржицкий Н. «**Ученый мирового признания**». (К юбилею проф. Владимира Седуро). «Современник», журнал русской культуры и национальной мысли, № 47-48, 1980, стр. 119-123, Торонто, Канада



Заметка о книге В. Седуро "**Dostoevski's Image in Russia Today**" «Грани» № 97, Июль-сентябрь 1975, стр. 282, Франкфурт на Майне, Германия

**Заметки о книгах В. Седуро**: "Dostoevski's Image in Russia Today, and Dostoevski in Russian Emigré Criticism. "Transactions" of the Association of Russian-American Scholars in USA, № IX, 1975, pp. 303-304, New York

«**Заслуженный проф. В. Седуро**». «Новое Русское Слово» от 20 мая 1976, Нью-Йорк

А. Иванов. «**Предистория «Великого инквизитора» Достоевского**». (О докладе проф. В. И. Седуро в Свято-Серафимовском Фонде). «Новое Русское Слово от 9 мая 1971, Нью-Йорк

Икс. «**Глеб Глинка в Сиракюз**». «Новое Русское Слово» от 11 фвраля 1968, Нью-Йорк. ( Цитируется мнение проф. В. И. Седуро о мастерстве поэта).

Куссров, Ван К., младший. Русский перевод рецензии на книгу В. Седуро **Dostoevsky in Russian and World Theatre.** «Современник», № 42, 1979, стр. 183-185

«**Лекция проф. В. И. Седуро в Ст. Питерсбурге, Флорида**». «Новое Русское Слово» от 5 апреля 1979, Нью-Йорк

«**Награды ученому достоевсковеду проф. В. И. Седуро**». «Записки» русской академической группы в США, том X, стр. 311-212, Нью-Йорк

«**Новая книга проф. В. И. Седуро**». «Новое Русское Слово от 11 сентября 1974, Нью-Йорк

«**Очерки истории марксистско-ленинской философии в Белорусии, 1919-1968.** Издательство «Наука и техника», Минск, 1968. На стр. 92 в числе других критиков В. Седуро обвиняется в перенесении методов философии в литературную критику еще в 1929-1932 гг.

«**Пастернак и Рильке**» (Доклад проф. В. И. Седуро). «Новое Русское Слово» от 23 августа 1968, Нью-Йорк

Н. В. Первушин. «**Гоголь и Достоевский. По поводу одной полемики**». (О споре с В. Седуро). «Новый журнал», книга 121, декабрь 1975, стр. 279-281, Нью-Йорк

Н. В. Пешвушин. «**Достоевский и театр**». (О книге В. Седуро Dostoevsky in Russian and World Theatre). «Новое Русское Слово» от 19 февраля 1978, стр. 2, Нью-Йорк

Р. Плетнев. «**О споре Ю. Маргулиеса, Н. Первушина и В. Седуро**». «Новый Журнал», книга 121, декабрь 1975, стр. 300-301, Нью-Йорк

«**Проф. Седуро в Европе**». «Новое Русское Слово» от 22 августа 1980, Нью-Йорк

Л. Ржевский. Рецензия на книгу **Dostoevsky in Russian and World Theatre.** «Новый Журнал» книга 133, декабрь 1978, стр. 300-301, Нью-Йорк

Р. Я. «**Симпозиум о Достоевском**». «Новое Русское Слово» от 7 апреля 1971, Нью-Йорк

Марк Слоним. «**Эмигрантская критика о Достоевском**». (О книге В. Седуро Dostoevski's Image in Russia Today). «Новое Русское Слово» от 9 мая 1976, Нью-Йорк

Я. Эльсберг. «**Облачившись в тогу ученого... Кому и почему в США не по вкусу наследие Ф. М. Достоевскоко**?» «Литературная Газета» от 22 сентября 1971, стр. 2, Москва, СССР. (Злостный выпад против трудов

В. И. Седуро)

Я. Эльсберг. «**Современные буржуазные концепции творчества Достоевского и идеологическая борьба**». В книге: «Идеологическая Борьба в Литературе и Эстетике». Сборник статей. Академия Наук СССР, Институт мировой литературы им. А. М. Горького. Издательство «Художественная литература», Москва, 1972, стр. 314 и 331 посвящены выпаду против В. И. Седуро

Albert Bermel. Review on "**Dostoevsky in Russian and World Theatre**". "Western Humanities Review", Vol. 32, № 3, Summer 1978, pp. 265-266

"**Books on Print 1977 - 1978**", Vol. 3, A — J, p. 924, New York

"**Byelorussian Stories by Rensselaer Professor**". "Rensselaer Review" of Graduate Studies, December 1964, № 38, p. 4

"**Community Leaders of America**", "Honoring Those Who Serve", Printed in the United States of America by Litho Industries. Compiled and published by News Publishing Co., Inc., Raleigh, North Carolina, 1969, p. 229

"**Congratulations to Byelorussian Writer and Scholar of World Reputation**". "The Byelorussian Times" № 2, December 1975, p. 3, New York

"**Contemporary Authors**". A Bio-bibliographical Guide to Current Authors and their Works. Clare D. Kinsman, Editor. Volumes 41-44. Gale Research Co. The Book Tower. Detroit, Michigan, 1974, p. 559

" **Dictionary of International Biography**". Volume Eight, 1972, Part II. Hon. General Editor: Ernest Kay. Melrose Press Limited, London and Dartmouth, England, p. 1188

"**Directory of American Scholars**". A Biographical Directory. Volume III: Foreign languages — Modern and Classical, Linguistics and Philology. Edited by the Jaques Cattell Press, Editors of American Men of Science. Fourth Edition, 1964, R. R. Bowker Company, New York, N. Y., p. 225

Excerpts from reviews on "**Dostoevski in Russian Literary Criticism**", **1846-1956.** "The Book Review Digest. Fifty-Fourth Annual Cumulation, March 1958 to February 1959 inclusive. New York. The H. W. Willson Co., 1959, p. 953

Excerpts from reviews on "**Dostoevski's Image in Russia Today**". "The Book Review Digest", Seventy-Third Annual Cumulation, March 1977 — February 1978 inclusive. New York. The H. W. Wilson Co., 1978, p. 1199

Gene D. Fitzgerald. Review on "**Dostoevsky in Russian and World Theatre**". "Slavic and East European Jurnal", Vol. 23, № 1, Spring 1979, pp. 128-129

Richard Freeborn. Review on "**Dostoevski's Image in Russia Today**". "The Slavonic and East European Reviw" Vol. LIV, № 4, October 1976,, London, England, pp. 628-629

Alexis Guedroitz. Review on "**Dostoevsky in Russian and World Theatre**". "The Russian Review, Vol. 38, № 1, January, 1979

R. Horoshko. "**Hlybinny Receives New Citations**". "The Byelorussian Times", № 3, March 1976, p. 3, New York

"**International Scholars Directory**". John Warwick Montgomery, General Editor. International Scholarly Publishers, Strasbourg, France, 1973, p. 226

"**The International Authors and Writers Who's Who**", Seventh Edition, 1976. Editor Ernest Kay. Melrose Press, Cambridge, England, p. 535

Wladislaw G. Krasnow. Review on "**Dostoevski's Image in Russia Today**". "The Russian Review, July 1976, pp. 364-365



Van S. Kussrow, Jr.Review on "**Dostoevsky in Russian and World Theatre**". "The Cresset. Monthly published by the Valparaiso University Press, October, 1978, Valparaiso, Indiana, pp. 25-26

Arnold B. McMillin, Review on "**Paeta z Bozhai Laski**". Uspaminy i Rozdum pra Yazepa Pushchu. "The Journal of Byelorussian Studies", published by The Anglo-Byelorussian Society, London, England, Volume IV, № 3-4, 1980, pp. 161-162

Jones Malcolm. Review on "**Dostoevski's Image in Russia Today**". "Times Literary Supplement", April 16, 1976, London, England

"**Men of Achievement**", Volume two, 1975. Hon. General Editor Ernest Kay. Melrose Press Limited, Cambridge, England, p. 817

"**Notable Americans of the Bisentennial Era**", Volume I, 1976. American Biographical Institute, Subsidiary of Historical Preservations of America, Inc., Raleigh, North Carolina, p. 714

Notice on Vladimir Seduro's new publications, awards and honours. "**Bulletin**" of International Dostoevsky Society, № 4, 1974, pp. 80-81

"**On the Occasion of V. Seduro's 70th Birthday**" "Dostoevsky Studies", Journal of the International Dostoevsky Society, Voluwe I, 1980, University of Tennessee, Knoxville, Tenn. pp. 189-190

Stanley J. Rabinowitz. Review on "**Dostoevski's Image in Russia Today**". "Bulletin"' № 6, November 1976, International Dostoevsky Society, pp. 25-26

Review on "**Dostoevski's Image in Russia Today**". "Russian Literature Triquarterly, Vol. 11, 1975, Ardis, Ann Arber, Michigan, p. 492

Review on "**Dostoevski's Image in Russia Today**". "Choice"'. A publication of the Association of College and Research Libraries, a division of the American Library Association. December, 1975, pp. 1313-1314

Gary Rosenshield. Review on "**Dostoevski's Image in Russia Today**". "Slavic and East European Journal", Spring, 1977, pp. 126-127

N. N. Shneidman. Review on "**Dostoevski's Image in Russia Today**". "Slavic Review", March, 1976, p. 178

Telesfor Poźniak. "**Dostojewski w kręgu symbolistów rosyjskich**". Prace Wrocławskiego Towarzystwa Naukowego, Seria A., № 139, Wrocław, 1969. Seduro's name is mentioned on pages 6, 52, 67, 74, 83-85, 93, 118, 122, 162, 164, 192, 195, 196, 198, 203

"**Under the Pressure of Psychological Shock**", Seduro, V. "La Pensee Russe", April 11, 1963, "Rensselaer Review" of Graduate Studies, March, 1964, p. 10

Faynia Williams. Review on "**Dostoevsky in Russian and World Theatre**". The Slavonic and East European Review", Vol. 58, № 1, January 1980, pp. 117-18

"**Who's Who in American Education**". An Illustrated biographical Directory of Eminent Living Educators of the United States and Canada. Robert C. Cook, B. S., M. A., Ed. D (Columbia) Editor-in Chief. Twenty-second Edition 1965-66, Nashville, Tennessee, p. 1367

"**Who's Who in the East**" (and Eastern Canada). The Eleventh Edition. A biographical dictionary of noteworthy wen and women of the Middle Atlantic and Northeastern States and Eastern Canada. Published by "Marquis — Who's Who, Inc., Chicage, Illinois, 1968-69, p. 944

**Міхась Белямук (ЗША)**

## СМАЛЕНСК ДАЛУЧЫЎСЯ

Наймаладзейшы брат Ягайлы, Сьвідрыгайла, замест паехаць на вясельле Ягайлы ў Кракаў, зьвярнуў з дарогі й паехаў у Мальборк. Тут ён і магістар Канрад фон Юнінгэн 2-га сакавіка 1402 году ўклалі ўмову й зацьвердзілі яе пячаткамі. Сьвідрыгайла аддаваў Жамойць на вечныя часы Крыжацкаму Ордэну й забавязываўся дапамагчы крыжакам заваяваць Пскоў. Магістр Крыжацкага Ордэну абяцаў Сьвідрыгайлу дапамогу пазбавіць Вітаўта ўлады ў Вялікім Княстве Літоўскім. (1, б. 82-84)

Вітаўт, атрымаўшы вестку што да ўмовы Сьвідрыгайлы з Канрадам, засмуціўся, бо гэта азначала, што вайна з крыжакамі разгарыцца й пакрыжуе ягоныя пляны адносна Смаленска. Трэба было сьпяшацца забясьпечыць замкі надзейнымі асобамі. Аднак самае галоўнае — знэўтралізаваць староньнікаў Сьвідрыгайлы, калі яны выяўляцца ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Вітаўт прыехаўшы на вясельле Ягайлы ў Кракаў, паклікаў сваіх супрацоўнікаў на нараду. Чаму Сьвідрыгайла пакінуў на Падолі добра загаспадараваны ўдзел? Падарожжа з Крэмянца ў Мальборк праходзіла праз землі Польскага каралеўства. Ехаў ён не адзін, а з баярамі й слугамі ў некалькі сотняў коняў. Ці не заўважылі яго, што кірунак трымае ня ў Кракаў, а на Мальборк? Ці не азначае гэта, што паміж польскімі вяльможамі ёсьць сымпатыкі, аднадумцы Сьвідрыгайлы, а ворагі Вітаўта? Дзеля таго, ці ня трэба яму чакаць пагрозы ня толькі з боку Крыжацкага Ордэну, але й неспадзевак ад польскіх магнатаў?

Упаважненыя Вітаўта ў Кракаве стараліся выведаць настроі польскае кіруючае эліты й становукасьць Ягайлы. Аказалася, што Ягайла быў заскочаны падзеямі, і літоўскія дыпляматы патрабавалі ад яго рашучасьці: неадкладна парабіць захады ў Рыме, Празе, Будапэшце, Вене ды іншых цэнтрах Захадняе Эўропы, каб яны спынілі Крыжацкаму Ордэну фінансавую й мілітарную дапамогу.

Вітаўт паслаў у Жамойць сваіх агентаў із заданьнем выклікаць усеагульнае паўстаньне. Абяцаў дапамогу жамойцам, а сам разважаў: калі жамойцы паслухаюцца й зробяць паўстаньне, то крыжакі кінуць свае харунгві на жамойцаў і тым самым аслабяць сілу ўдару на Літву, чым літоўскія землі будуць выратаваныя ад зьнішчэньня.

Князі, баяры, мяшчане й сяляне Вялікага Княства Літоўскага не адгукнуліся на заклікі Сьвідрыгайлы. На бунт супраць Вітаўта не пайшлі. Затое для змаганьня супраць крыжацкай навалы сьпяшылі воі з усіх правінцыяў літоўскае зямлі. Прыйшлі й польскія харунгві, прысланыя Ягайлам. Вітаўт пачуўся бадзёрым.

Крыжацкія рэйды пачаліся вясной 1402 году. Вітаўт ня толькі бараніўся, але час-ад-часу пераходзіў у контраатаку. (2, б. 166-171) Адначасна сачыў за падзеямі ў Смаленску. Праўдападобна, калі даведаўся пра змову князёў Івана й Юрыя Сьвятаславічаў, паслаў мсьціслаўскага князя Сымона-Лугвеня з загадам — узяць Вязьму й далучыць да Вялікага Княства Літоўскага. Летапісец кажа: « князь Лугвень прышоў, Вязьму ўзяў, а князя Вяземскага Івана Сьвятаславіча адаслаў Вітаўту. (3, б. 232)

Тыя польскія магнаты, што парупіліся перакінуць Сьвідрыгайлу ў Мальборк,



пачалі палохаць Ягайлу, што Вітаўт адпомсьціць Кароне Польскай за прапушчэньне Сьвідрыгайлы праз польскія землі. Яны пачалі пашыраць пагалоску аб тайных перамовах Вітаўта з Канрадам. Ягайла насьцярожыўся. Яго занепакоіла, каб не наступіла сэпэратнага міру паміж Літвой і Крыжацкім Ордэнам. Таму ў Любліне адбылося спатканьне. Польскія вяльможы запатрабавалі ад Вітаўта прырачэньня, што ніякае ўмовы з крыжакамі Вітаўт ня зробіць бяз ведама й згоды Ягайлы. Вітаўт прырок і прывесіў пячатку 19-га чэрвеня 1403 году. (1, б. 92-93)

Сьвідрыгайла пачаў усьведамляць сабе, у якую пастку ён трапіў. Пачаў абмяркоўваць спосабы прымірэньня. Ён зьявіўся каля Калядаў 1403 году ў Вільню й стрыечныя браты памірыліся. З крыжакамі таксама наступіла перамір'е. (2, б. 171-172)

Пагадненьне Сьвідрыгайлы зь Вітаўтам не адказвала мэтам крыжацкае й польскае палітыкі. Адны й другія плянавалі аслабіць Вялікае Княства Літоўскае да такой ступені, каб падыктаваць яму свае ўмовы. Асабліва быў незадаволены Канрад, бо із «здрадай»Сьвідрыгайлы крыжаком ануляваўся прэцэдэнт для рэйдаў на Вялікае Княства Літоўскае. Таму магістар вырашыў спрабаваць свае дыпляматычныя здольнасьці. Ён запрапанаваў Ягайлу спатканьне для палагоджаньня польскіх тэрытарыяльных прэтэнсіяў і іншых двубаковых крыўдаў.

Польска-крыжацкі зьезд адбыўся ў Рацёнжы 22-га й 23-га травеня 1404 году. На зьезьдзе дыскуталіся ня толькі польска-крыжацкія справы. Паколькі Вітаўт заахвоціў жамойцаў да паўстаньня й абяцаў ім дапамогу, і жыхарства Жамойці, нягледзячы на літоўска-крыжацкае перамір'е, далей працягвала змаганьне з крыжацкай акупацыйнай уладай, Канрад запрапанаваў абгаварыць справу Жамойці. Польскія дыпляматы пагадзіліся з прапановай Канрада. Вынік дыскусіі быў такі, што ад імя пралатаў, можнаўладцаў і шляхты Кароны Польскае будзе высланае Вітаўту «Асьведчаньне».

У «Асьведчаньні» паведамлялася, што жамойцкая зямля стаецца ўласнасьцю Крыжацкага Ордэну. Дзеля таго жамойцы павінны спыніць змаганьне. У выпадку, калі-б жамойцы ўпіраліся, не паслухаліся й далей змагаліся, Вітаўту загадвалася спыніць жамойцам даставу солі, збожжа, розныя мэталі, асабліва вырабы з жалеза, менавіта зброю. Вітаўту забаранялася прымаць і даваць прытулак уцекачом із жамойцкае зямлі. Жыхарству Вялікага Княства Літоўскага наказвалася не кантактавацца із жыхарствам Жамойці й не аказваць ім ніякае дапамогі. Вітаўт быў забавязаны загадаць жамойцам скласьці прысягу паслухмянасьці Крыжацкаму Ордэну й выдаць крыжаком адпаведную колькасьць закладнікаў. У выпадку адмовы ад прысягі й высланьня закладнікаў, Вітаўт павінен прымусіць жамойцаў да паслухмянасьці Крыжацкаму Ордэну. Усялякую просьбу магістра адносна Жамойці, Вітаўт забавязаны выканаць. У выпадку, калі-б ён задумаў перашкаджаць крыжакам у апанаваньні Жамойці й ня браў на ўвагу скаргаў магістра, тады Крыжацкі Ордэн мае права прымусіць Вітаўта да паслушэнства, і Вітаўт на польскую дапамогу ня можа розьлічваць. (4, б. 342-343)

Монвід — ня княжага роду, але баярскага паходжаньня. Ён быў верным сябрам, спадарожнікам і выканальнікам загадаў вялікага князя. Таму Вітаўт прызначыў яго віленскім старастам, а ўвесну 1404 году даручыў сачыць за падзеямі, асабліва за перамовамі ў Рацёнжы. Вось-жа, калі Монвід запазнаўся са зьместам «Асьведчаньня», выклікаў надзейных ганцоў. Паклаў «Асьведчаньне» ў скураны мяшочак і перадаў ганцам із загадам: «коней не шкадаваць, але гнаць да гаспадара

нашага й перадаць яму ліст. Скажыце вялікаму князю, што я еду ў Мальборк спаткацца з магістрам».

Вітаўт у той час трымаў у аблозе Смаленск. Ня першы раз ён аглядае магутныя ўмацаваньні старажытнага Смаленску. Ён быў тут у 1387 годзе, але ня сам, а як падначалены Скіргайлу. Заплаціў у той час галавой князь Сьвятаслаў Смаленскі за жудасныя зьдзекі над жыхарствам Мсьціслаўшчыны, ня маючы літасьці над жанчынамі й дзецьмі. (**5**, б. 91) Аднак літоўскія князі ня зычылі тады спаганяць крыўды й пазбаўляць улады смаленскую княжую дынастыю. Яны пакінулі княжыць у Смаленску князя Юрыя, старэйшага сына Сьвятаслава. Маскоўскі летапісец кажа: «посадиша исъ своее рукы князя». (**3**, б. 214) Выглядае, што ён прызнаў над Смаленскам зьверхніцтва вялікага князя Літвы.

У 1395 годзе Юры Сьвятаславіч задумаў зламаць прырачэньне, якое даў літоўскім князям. Брат-жа ягоны князь Глеб, смаленскія баяры зь мяшчанамі абурыліся на Юрыя, бо палічылі за здраду намеры разлукі зь Вялікім Княствам Літоўскім. Юрыя Сьвятаславіча выгналі са Смалеску, і ён пабег да разанскага князя Алега. (**5**, б. 161-162)

У Смаленск пачалі прыходзіць трывожныя весткі. Юры Сьвятаславіч намаўляе ня толькі князя Алега, але бунтуе іншых князёў. Князь Глеб Сьвятаславіч «убоявшеся брата своего князя Юрья и тестя его Олега, князя резанского, посла Витовта, князя великого, просить противо резанского. Он же рад сему бысть, и вскоре вшед в землю Смоленскую». (**6**, б. 186) Паводле летапісу Вітаўт прыехаў у Смаленск 28-га верасьня 1395 году. Падчас ягонага ўваходу ў Смаленск «предъ нимъ крыжь носяху и свирелници гласяху, по Литовскому ихъ обычяю». (**5**, б. 162) Дзеля бясьпекі й гваранты, Вітаўт пакінуў у Смаленску свайго намесьніка, «князя Якава, нарыцаемага Яманта, і Васіля Барэйкава». (**5**, б. 162)

У Разані, калі атрымалі вестку, што Вітаўт у паходзе на татараў разьбіты ля Ворсклы, Юры Сьвятаславіч распачаў пошукі прыхільных сабе баяраў і мяшчанаў у Смаленску. Аднойчы сказаў Алегу, што ў Смаленску стварылася партыя, якая «хоча бачыць мяне на маёй отчыне». І стаў прасіць Алега разанскага: «памажы, пасадзі мяне на маёй отчыне». (**6**, б. 196) Алег здэцыдаваўся памагчы Юрыю. Запрасіў да ўдзелу ў паходзе князёў пронскіх, мурамскіх і казельскіх. Улетку 1401 году саюзьнікі зьявіліся каля сьценаў Смаленску, але смаленскія брамы перад імі не расчыніліся. Пачалася аблога. Князь Алег пачаў угаворваць і палохаць смаленскіх мяшчанаў. Ён казаў: «имамъ много время стоати и вас предати мечю и огню; изберите убо себе, иже хощете: или смерть, или животъ». (**5**, б. 186)

Тады ў Смаленску намесьнікам Вітаўта быў князь Раман, сын бранскага князя Міхала. Намесьнік Раман ня меў пэўнасьці, ці даручылі Вітаўту паведамленьне пра аблогу Смаленска й дзеля гэтага пачаў перамовы з Алегам. Звалакаў з канчатковым адказам, спадзяючыся атрымаць вестку ад Вітаўта. Толькі ў жнівені пастанавіў прыняць прапановы й адчыніць брамы Смаленска. Смаленск здаўся й тут-жа пераканаўся ў «рыцарскім» слове Алега. Летапісец кажа: «намесьніка Рамана забілі, ваяводаў пасеклі, баяраў бранскіх і смаленскіх пабілі, забівалі і тых, хто ня быў зычлівы Юрыю». (**5**, б. 186)

Вітаўт прыйшоў пад Смаленск наступнага году. Здаецца, што ня меў намеру здабываць Смаленск. Прастаяў ён пару тыдняў, бо хацеў упэўніцца, ці мае зычэньне Юры Сьвятаславіч быць удзельным князем Вялікага Княства Літоўскага. Паколькі такога зычэньня Юры смаленскі ня меў, князі ўзялі перамір'е. (**5**. б. 187)



Мінула два гады. У пачатку красавіка 1404 году каля Смаленску паказаліся літоўскія сьцягі. Іх распазналі, яны належалі князю Сымону-Лугвеню. У папярэднім годзе ён нечакана наляцеў на Вязьму, паланіў князя Івана й сам стаў панаваць у мсьціслаўскім і вяземскім княствах. Юры Сьвятаславіч пацяшаў сябе думкаю, што Лугвень вяртаецца ў Мсьціслаўскае княства, але хоча пахваліцца сваёй сьмеласьцю й дзёрзкасьцю смаленскім баярам, разьмясьціўшы палкі свае на гонях смаленскіх. Прайшло пару дзён, і смаляне заўважылі палкі ноўгарад-северскага князя Карыбута. Вестка гэтая занепакоіла прыхільных баяраў Юрыя Сьвятаславіча. Неўзабаве атрымалі весткі, што прыйшлі палкі й пад камандай Сьвідрыгайлы. Гэта азначала, што непадалёку ёсьць і вялікі князь Вітаўт. Так вайсковы абруч вакол Смаленска пачаў зацісkацца. Прыблізна ў палове травеня, смаляне загаманілі. Яны ўбачылі, як цягнуць гарматы. Значыць, перамір'е скончылася, і пачнецца аблога, здабываньне Смаленска. (**3**, б. 232)

Юры Сьвятаславіч занепакоіўся. Муры смаленскіх умацаваньняў тоўстыя й надзейныя, але ненадзейнымі ёсьць смаленскія мяшчане й частка баяраў. Саюзьнік ягоны, Алег разанскі, спачывае ў магіле. Сын Алега, Радаслаў, быў у 1402 годзе схоплены Лугвенем каля Любуцка й цяпер у няволі ў Вітаўта.( **5**, б. 187-188) Князі пронскія й казельскія напалоханыя харобрым Лугвенем сядзяць ціха, баяцца падзяліць лёс Радаслава. Князі цьверскія аддаўна ёсьць саюзьнікамі літоўскіх князёў. Застаецца Васіль Дзьмітравіч маскоўскі. Ён зяць Вітаўта, але Вітаўту дапамогі не паслаў у змаганьні супраць татарскага хана Цемір-Кутлая. Вось-жа, Юры смаленскі разважыў, што трэба спрабаваць шчасьця й паслаць паслоў у Маскву ў справе дапамогі.

Смаленскія паслы прасілі маскоўскага князя: «памажы, заступіся, не аддавай нас пажэрці, а Бог узнагародзіць цябе». Васіль-жа маскоўскі ня меў ахвоты да бойкі зь Вітаўтам за смаленскага князя. Аднак ня зычыў разчароўваць смаленскіх паслоў. Тады паслы Юрыя пачалі прасіць маскоўскага князя, каб стаў пасярэднікам перамоваў у заключэньні міру зь Вітаўтам. Маскоўскія дыпляматы й тут не сьпяшаліся з адказамі на смаленскія прапановы. Яны нядаўна атрымалі вестку, што цьверскі князь Аляксандар прысьпеў з палкамі пад Смаленск, каб паказаць сваю ляяльнасьць Вітаўту. Такім чынам, разважалі ў Маскве, сытуацыя Юрыя Сьвятаславіча ёсьць крытычнай. Значыць, у такой сытуацыі Юры зробіць новыя прапазыцыі, больш канкрэтныя й больш выгадныя Васілю Дзьмітравічу.

Юры Сьвятаславіч пабачыў незнадзейнасьць свайго становішча й паслаў інструкцыю смаленскім паслом, каб яны запрапанавалі Васілю Дзьмітравічу: вазьмі сабе горад, ляпей будзь ты ўладаром, чымся паганая Літва». Ад такой прапановы вочы маскоўскіх баяраў загарэліся радасьцю й хцівасьцю. Толькі паўстала пытаньне, як зрэалізаваць, каб Смаленскае княства сталася вотчынай маскоўскага князя?

Сёмы тыдзень трывала аблога Смаленску, калі прыляцелі ганцы ад віленскага старасты Монвіда. Ганцы перадалі Вітаўту мяшочак з «Асьведчаньнем» і паведамленьні Монвіда. Вялікі князь склікаў князёў і выдатных баяраў на нараду. Запазналіся са зьместам «Асьведчаньня» й спахмурнелі твары князёў, замерлі баяры. Усе глядзелі на вялікага князя, а ён глядзеў на іх. Сумніву ня было, што магістар Канрад аказаўся здольным дыпляматам. Ён цяпер мог пад рознымі прэтэкстамі пачаць рэйды на Вялікае Княства Літоўскае. Адначасна ён пасеяў недавер, нават нянавісьць літоўскіх князёў і баяраў да польскіх пралатаў, магнатаў і шляхты.

— Што мы зробім са Смаленскам? — запытаўся Вітаўт князёў і баяраў. Трэба было адказаць вялікаму князю на ягонае запытаньне, але ўсе вагаліся, кожны баяўся, каб не ўгнявіць і так ужо гнеўнага князя. Прасілі адкласьці нараду. Тымчасам прыехалі новыя ганцы ад Монвіда з паведамленьнем, што Канрад дамагаецца выкананьня ўмоваў «Асьведчаньня» (**4**, б. 343, н. 799) Ізноў зыйшліся на нараду, і хоць абліччы былі суровымі, але сьмеласьці набралі паведаміць свае думкі вялікаму князю. Сказалі, што ў небясьпецы Троцкае княства, дзядзіцтва Вітаўта, што крыжацкія рэйды пойдуць у кірунку Трокаў, Мэрача, Горадні, Ваўкавыска ды Слоніма й няма сумніву, што крыжакі ўдараць на Вільню й іншыя месты Літвы. Нельга сядзець пад Смаленскам і аддаваць Літву на зьнішчэньне.

Пастанавілі спыніць аблогу Смаленска. Наступнага дня змоўклі гарматы, і заскрыпелі колы. Рушылі вазы й пешыя воі на чале адступаючай арміі Вітаўта з-пад Смаленска. Літоўскія воі былі зьбянтэжаныя, чаму раптоўна здымаецца аблога, але пытаць вялікага князя ня сьмелі.

Смаленскія муры абляпіў народ. Прыглядаліся да аблягаючых і парознаму гадалі. Выглядае, казалі людзі, што Вітаўт здымае аблогу, ня прымусіўшы Юрыя Сьвятаславіча да паслушэнства. Князь Юры Смаленскі таксама прыглядаўся да адступаючага Втаўта, але не выяўляў радасьці. Усьведамляў сабе, што пасьпяшыўся зь інструкцыяй смаленскім паслом. Цяпер трэба ехаць у Маскву, і трывожна забілася сэрца.

У Маскве сустрэлі Юрыя радасна, але бяз гонараў, як належала гэраічнаму князю, што вытрымаў аблогу грознага Вітаўта. Запрасілі Юрыя ў залю запоўненую маскоўскімі саноўнікамі. Тут, у прысутнасьці ўсіх, папрасілі паўтараць ягоныя інструкцыі, дадзеныя смаленскім паслом. Князь Юры паўтарыў. Калі прыступіў да паўтарэньня апошняе інструкцыі, усе заціхлі, насьцярожыліся: «и аще сего не хощеши, возми убо градъ за себя, да ты владеешй имъ, а не поганаа Литва». (**5**, б. 189)

Князь Юры аслабеў, але кніжнікі пасьпелі запісаць ягоныя словы, менавіта тое, што ён сваё дзедзічнае княства перадае на ўласнасьць маскоўскаму князю. Адзін з кніжнікаў запісаў нават гэтак: «князь Юрье с сыном, со князем Федором, бил челом великому князю, а ркучи так»: «князь великии, запиши себе Смоленеск в вотчину, а яз тебе служу, а не предаи мя поганому Витовту». (**7**, б. 69)

Такім чынам Смаленскае княства, паводле маскоўскіх юрыстаў, сталася законнай вотчынай Васіля Дзьмітравіча. У сувязі з тым, што Вітаўт выступіў са Смаленскага княства, то ня было перашкодаў пасланць у Смаленск маскоўскіх баяраў, каб яны прывялі народ пад прысягу на вернасьць і службу маскоўскаму князю.

На вестку, што князь Юры паехаў у Маскву, заварушылася места. Пачаліся допыты. Калі адкрылі тайніцу княжага падарожжа, што Смаленск перадаецца на ўласнасьць маскоўскаму князю — загаманіў народ, пра што летапісец маскоўскі напісаў: «изменницы его смоленстіи бояре, крамолу злу сотворише». (**5**, б. 189) А «крамольнікі» вырашылі выслаць паслоў да Вітаўта.

Смаленская дэлегацыя прасіла Вітаўта: «вярніся, хутчэй прыходзь пад Смаленск... пасьпяшыся, пакуль ня прыйдзе з Масквы князь Юры Сьвятаславіч смаленскі з маскоўскай сілай баярскай... «разумей убо, , что тебе будетъ тогда, темже поспеши скоро пріити къ намъ, и отвориммъ ти градъ понеже вси хотимъ и любимъ тебя владети великимъ княженіемъ Литовьскимъ и всеми нами». (**5**, б. 189-190)

Вітаўт уважліва выслухаў смаленскую дэлегацыю. Заіскрыліся вочы надзеяй у вялікага князя. Ён стаў разважаць, што калі смаленскія паслы кажуць праўду, і сапраўды яго чакаюць у Смаленску, то няма патрэбы спыняць адступаючую армію, а можна ўзяць лёгка ўзброеных коньнікаў і зь імі паехаць да Смаленску. Папытаўся пра думку князёў і баяраў. Князі й баяры адабрылі пастанову Вітаўта.



26-га чэрвеня 1404 году смаляне дагледзелі сьцягі пад'язджаючага Вітаўта й зазванілі ў званы. Загаласілі смаляне — Вітаўт, Вітаўт едзе! Адчыніліся шырока смаленскія брамы, і Вітаўт трыумфальна ўехаў у старажытнае места смаленскіх крывічоў. Ён склікаў баяраў і мяшчанаў, каб асьведчыць ім, што ягоныя намесьнікі маюць «градъ дръжати по его веленію, людемъ Смоленьскимъ лготу многу чинити, чтобы Витовта вся земля Смоленьскаа и хотела и любила». (**5**, б. 190)

У Маскве зь вялікае радасьці й вялікіх надзеяў наступіла расчараваньне й прыгнобленьне, калі даведаліся, што ў Смаленску Вітаўт. Васіль Дзьмітравіч паклікаў тады князя Юрыя й сказаў яму: «прыехаў ты да мяне зь хітрасьцю, жадаючы, каб смаляне здаліся Вітаўту», а летапісец дадаў: «и возложи нелюбье, и князь Юрье побеже с Москвы в Великии Новгород». (**7**, б. 69)

Так смаленскія крывічы ўвайшлі ў склад Вялікага Княства Літоўскага.

---


1. Codex epistolaris Vitoldi Magni Ducis Lithuaniae 1376 - 1430. Collctus opera Antonii Prochaska. Cracoviae 1882. In Monumenta Medii Aevi Historiva. t. VI, pt. I
2. A. Prochaska. Król Władysław Jagiełło. t. I, Kraków, 1908
3. Полное Собрание Русских Летописей. т. 25, М.-Л. 1949. (Московский летописный свод конца XV века)
4. I. Daniłowicz. Skarbiec diplomatów papieskich, cesarskich, królewskich, książęcych; uchwał narodowych, postanowień różnych władz i urzędów posługujących do krytycznego wyjaśnienia dziejów Litwy, Rusi litewskiej i ościennych im krajów. t. I, Wilno, 1860
5. Полное Собрание Русских Летописей. т. 11, М. 1965. (Патриаршая или Никоновская летопись)
6. В. Н. Татищев. История Российская. т. 5, М. 1965
7. Устюжский летописный свод. (Подготовка к печати К. Н. Сербиной) Изд. АН СССР. М. 1950


---

Масей Сяднёў (ЗША)

## БЕЛАРУСКІМ ПАЭТАМ

Хба ніхто не запярэчыць гэта,
пра гэта ведае ўжо немаўля:
была ад веку на музыкаў і паэтаў
ня беднай беларуская зямля.

Таксама ведама: зьвялося іх нямала,
у беспрасьветнай зьгінула начы.
Нам талентаў хіба хапала, —
ня ўмелі толькі іх мы зьберагчы.

Трасьлі мы толькі лахманамі
і даць паэтам не маглі прыкрас.
Суседам зваблeныя, а ня намі,
яны пайшлі ад нас.

Пакорлівых, абдораных, нас бралі
вяльможы і цары.
Сярод чужой, заносьлівае зграі
служылі мы ні пры адным двары.

А хто застаўся — плакаў, а ня біўся,
ішоў пакорліва ў турэмныя муры,
і ў нас, абрабаваных, засталіся
ня духу волаты, а толькі песьняры.

Мы заплацілі дарага за гэту здраду, —
за намі пусткаю ляглі вякі.
І наш няпрыяцель зазначыць рады,
што бедны мы народ такі.

Ня бедны мы. Нам не хапае гарту.
За іншых мы, магчыма, багацей.
Адно бяда: у барацьбе упартай
народ наш страціў шмат сваіх дзяцей.

Збылі мы страту гэту жалем,
радком пакутлівым сваім.
Ды слова праведнага не сказалі,
і вінаватымі мы засталіся перад ім.

Пасьля вялікіх нашых заваёваў
на трон усеселася мана:
паэтам засталася толькі мова,
але адмерці, кажуць, мусіць і яна.

Паэты беларускія, дужэйце!
Вы спраглых душ валадары.
Прыкмецяць вас на цэлым сьвеце,
калі ня будзеце служыць вы пры двары.

кастрычнік, 1983, Глен Коў

## МАЯ LORELEI

Ich weiss nicht, was soll es bedeuten,
dass ich so traurig bin.
Heinrich Heine

Ёсьць месца такое ў лесе,
зь ім можа зраўняцца рай.
Там, на Палесьсі,
жыве мая Лёрэляй.



Як тая казуля
між сініх вазёр,
у зрэбнай кашулі —
палескі узор.

Як нас разлучыла ліха,
таму ўжо колькі год,
над Прыпяцяй плаўнаю, ціхай
гарыць задуменны заход.

Гадаючы ўсё аб нечым,
на бераг, дзе бору край,
самотная, кожны вечар
прыходзіць мая Лёрэляй.

Сама не свая такая,
як-бы на якую бяду,
яна мяне ўсё гукае —
а мо да яе я прыйду.

Стаіць у прасторы сінім
і моліцца ўсім сьвятым,
ды голас яе бясьсільны
вяртаецца рэхам пустым.

Рака пачынае хліпаць,
хвалямі біцца ў край.
Баюся, што кінецца ў Прыпяць
мая Лёрэляй.

кастрычнік, 1983, Глен Коў

## БЯГУН

Па вуліцы бяжыць старэнькі чалавечык,
ён практыкуецца у безе.
Ён думае, што гэтым сябе лечыць,
і ўсё бяжыць — аж колькі яму ўлезе.

Пагляд яго няпэўны і трывожны,
яму займае дыхавіцу.
Ён агаліў сябе наколькі толькі можна,
хоць там ужо няма чым пахваліцца.

Матляецца й кулачкі сьціскае,
ад поту выцірае лобік.
І апаноўвае журба якаясь
увесь ягоны воблік.

Пот залівае яму вочы,
ды не зважаючы на пот і працу,

бяжыць натужана, як быццам хоча
у маладосьць прарвацца.

Ды ёсьць у сьвеце рубяжы,
адліві ёсьць і ёсьць прыліві.
Зь якой ты моцай не бяжы,
няма туды прарыву.

травень, 1983, Глен Коў



Васіль Сініца (ЗША.)

## МАЁ МЯСТЭЧКА

### (УСПАМІНЫ)

працяг

Гады за два ці тры перад II-ой Сусьветнай вайной, Нінка заінсталявала ў сваёй піўной аўтаматычны більярд, наяўнасьць якога значна памножыла яе кліентуру. З аўтаматам аднак выйшла пэўная няўвязка, што праўда не адразу, але пасьля некалькіх тыдняў ўжываньня яго. Справа ў тым, што аўтаматычны більярд як ведама працуе на тым прынцыпе, што выкідае кулі пасьля таго калі ў адпаведную дзірачку ахвотнікі пагуляць укідваюць адпаведнай вартасьці манэту, у даным выпадку 20 грошаў. Кожная-ж куля затрымваецца калі яна падае ў так зв. «лузу» й адтуль скочваецца ў сярэдзіну більярду.

І вось выбіраючы кожны дзень грошы з аўтамату Нінка заўважыла, што з кожным днём іх становіцца штораз менш, хоць ахвотнікаў пагуляць наагул не бракавала. Выкліканы мэханік не знайшоў ніякае няспраўнасьці, таму што кулі выпадалі толькі пасьля аплаты гульні. Тады бедная Нінка спрабавала сачыць за гульцамі з суседняга пакою пракруціўшы ў дашчатай сьцяне дзірачку. Але й гэта нічога не прынесла таксама, апрача таго, што ў зьбянтэжанай Нінкі аж вочы сьляпіліся ад натужлівага ўгляданьня, але нажаль яна не магла нічога незвычайнага пабачыць,, апрача таго, што адзін з гуляючых заўсёды перад пачаткам гульні кідаў у аўтамат манэту. Нарэшце яна пачала думаць, што нехта падабраў ключ да скрыначкі куды скідаліся грошы й дзеля гэтага паклікаўшы майстра павесіла на ёй вісячы замок. Але й ад гэтага грошаў не пабольшала.

Справа выясьнілася некалькі тыдняў пазьней і то зусім неспадзявана. Неспадзявана таму, што Нінка ўжо мелася прадаць більярд, бо апрача выдаткаў на аграваньне пакою дзе ён стаяў, ды прыбіраньня, ён не прыносіў даходу.

Але вось аднаго ранку старая Марыля, якая прыбірала Нінчыну «ўстанову» прынесла ёй двацаціграшовую манэту з прылютаваным да яе тоненькім, пэўна адкручаным ад радыёвай антэны, дроцікам з пятлёй на канцы. За гэтую пятлю двацаціграшоўка была павешана на цьвічку ўбітым у сьцяну ў кутку за більярдам. Аказалася, што гульцы праз няўвагу адыходзячы дамоў на гэты раз забыліся забраць с сабой доваду свайго ашуканства. Праз пару добрых месяцаў яны час ад часу кідалі ў аўтамат манэту з дроцікам і калі той той адчыняўся асьцярожненька



выцягвалі яе навонкі й вешалі на цьвіку аж да наступнага разу.

Пасьля гэтага Нінка дала срогі выгавар сваім кліентам і даход з більярду адразу прыйшоў да нормы.

Як я ўжо ўспамінаў на Дзісьненскай вуліцы знаходзілася таксама пошта й будынак калішняга шпіталю. Пасьля таго, як польская адміністрацыя шпіталь зьліквідавала, у гэтым будынку праз пэўны час мясьціўся суд, а пасьля перасяленьня суда ў Мураванку, жыў там, як пан у маёнтку судзьдзя гэтага суду. Гаворачы «як пан у маёнтку» я маю на ўвеце тое, што будынак гэты меў ці ня больш за 10 даволі вялікіх пакояў ды стаяў сярод саду й быў абнесены высокай агарожай. А ў дадатку, калі ён нешта й плаціў за гэты будынак у гміннную касу, то аплата была мізэрная.

Па другім баку ад гэтага будынку быў вялікі, належачы да касьцёлу, сад у глыбіні якога віднелася «клябанія» даволі прыгожага выгляду. Аб адным з рэзыдэнтаў клябаніі ў мяне засталіся вельмі добрыя ўспаміны, — гэта аб а. Язэпу Гэрмановічу. Памятаю, як будучы ўжо дарастаючым хлопцам я са сваімі сябрамі даволі часта наведвалі а. Язэпа, нібы прыпадкова зайшоўшы ў клябанію. Дзеля гэтага ідучы са школы мы «скарачалі» дарогу робячы кілямэтры паўтара кругу абы толькі зайсьці да яго. Ён-жа заўсёды спатыкаў нас з прыветнай усьмешкай і зараз-жа выносіў для кожнага з нас па лусьце памазанага мёдам хлеба й па спорным чырвонабокім яблыку. Ведама мы з прыемнасьцяй прыймалі пачастунак, а ў міжчасе а. Язэп жартаваў з намі апавядаючы ўсякія сьмешныя гісторыі, дэклямуючы беларускія вершы, або тлумачачы нам хто мы такія й чым мы розьнімся ад палякаў і расейцаў. Уканцы, як-бы нешта прыпомніўшы ён неяк лагодна ўсьміхаючыся казаў:

— А можа-б вы зайшлі ў касьцёл і памаліліся, бо малітва нікому ня шкодзіць.

Тады некаторыя з нас адказвалі, што мы праваслаўныя. А а. Язэп ізноў усьміхаючыся прадаўжаў:

— Для Хрыста няма ні праваслаўных, ні католікаў, трэба толькі моцна верыць у Яго, а Ён напэўна разьбярэцца хто з вас лепшы.

— Ну, а як-жа будзе з Абам? — ня ўніmaліся мы, — ён-жа зусім у Хрыста ня верыць.

Айцец Язэп на хвіліну задумваўся, а пасьля ізноў са сваёй прыемнай усьмешкай казаў:

— Аба няхай моліцца свайму Жыдоўскаму Богу. Ён таксама і ў касьцеле пачуе яго. Толькі няхай не забудзецца зьняць шапку ўваходзячы ў сьвятыню, — дадаваў ён ужо зусім сьмяючыся.

Часта ў сьвяточныя дні праходзячы каля касьцёлу можна было пабачыць на цьвінтары групу людзей, якія чамусьці не заходзілі ў касьцёл хоць там адбывалася Багаслужба. Праз некаторы аднак час яны ўсе як-бы кімсь пакліканыя гурмам крочылі ў касьцёл. Справа тлумачылася вельмі проста, гэта мясцовыя ўрадаўцы, панкі ды іншыя «палякі» былі вышаўшы з касьцёлу калі а. Язэп меў казань па-беларуску, і вярталіся тады калі ён пераходзіў на польскую мову.

Апрача нацыянальна-ўсьведамляючай працы ён праводзіў таксама й дабрачынную, хоць моцна агранічаную дзякуючы мясцовым спэцыфічным умовам й варожа настаўленай да яго адміністрацыі ды наагул пануючай клясы. Таму гэтая дзейнасьць агранічвалася з разьліку толькі на ягоныя ўласныя матэрыяльныя сродкі, але трэба дадаць, што ён ніколі іх не шкадаваў для патрабуючых.

Лужацкая рыма-каталіцкая парафія была хіба аднэй з найбольшых у акрузе, бо да касьцёлу ў Гарманавічах было каля 12 км., да Задарожжа каля 15-ці, а да Язна й поўных 25 кілямэтраў. Пробашчы, якія былі тут на парафіі перад і пасьля а. Язэпа жылі больш чым заможна. Выяжджалі яны амаль заўсёды на парцы коняй з фурманом, а ў клябаніі аж мітусілася ад службы. А а. Язэп хадзіў заўсёды ў пацыраванай сутаньне й пакрыўленых чаравіках. Але калі камусьці зь мястачкоўцаў здаралася біда, ён у першую чаргу шукаў паратунку ў а. Язэпа нягледзячы на тое, ці ён быў каталікам, праваслаўным ці нават і жыдам, і гэты паратунак заўсёды атрымоўваў, ведама ў меры магчымасьцяў гэтага сапраўды Добрага Пастыра.

Ясная рэч, што пробашча-настаяцеля з падобным характарам не маглі цярпець ані сьвецкія, ані духоўныя ўлады й ён неўзабаве апынуўся ў Друі, а крыху пазьней у Харбіне, аб чым ён дакладна апісаў у сваёй кніжцы: «Кітай, Сібір, Масква». На ягонае месца быў прысланы яўны «беларусаед» Стэфан Останевіч, аб якім я ўжо ўспамінаў апісваючы ягоны судовы працэс з Др. Шыранам.

У канцы ксяндзоўскага саду знаходзілася плошча зямлі каля 7-8-мі гактараў напалову ворнай і сенажаці, званай ксяндзовай Аселіцай. Гэтая Аселіца была аб'ектам зайздрасьці мястачкоўцаў, што праўда ў першую чаргу праваслаўных, бо каталікі лічылі-б гэта вялікім грэхам, бо гэта быў асабліва ўраджайны кавалак зямлі. Капуста якая там вырастала, а таксама буракі, гуркі й гарбузы заўсёды бралі першыя ўзнагароды на павятовых сельска-гаспадарчых выстаўках. Трава-ж на сенажаці расла па пояс высокага мужчыны й касілі яе бадай што тры разы ў год. Заканчалася Аселіца належачым ужо да мястэчка забалочаным выганам пасярод якога было ўспамінанае мной Азёрка. Гэты выган і Азёрка ўжо не даходзілі да вуліцы, а на ёй з правага боку яшчэ было некалькі дамоў, а далей на ўзгорку пачынаўся ўжо так званы «Кацярынінскі тракт», ці як у нас казалі гасьцінец. Гэты гасьцінец быў высаджаны па двух бакох падвойнымі радамі векавых бярозаў і цягнуўся амаль да самай Дзісны, — каля 40 кілямэтраў. Па левай-жа старане вуліцы знаходзіўся даволі вялікі рыма-каталіцкі цывільны й вайсковы магільнік.

Гаворачы аб канцы Дзісьненскай вуліцы ня можна ня ўспомніць вялікага й прыгожага дому мясцовага каваля Міхася Ярмаловіча пабудаванага па правай старане вуліцы амаль што на пачатку гасьцінца. Але гэты дом быў слаўны ў вачох мястачкоўцаў ня толькі дзеля яго прыгожага выгляду, але дзеля здарэньня, якое папярэджвала яго пабудову. Аб гэтым вось здарэньні я й пастараюся расказаць.

На Млынскай вуліцы ў доме належачым спадкаемцам нябожчыка Др. Гарбэля жыла ягоная дачка, былая жонка «славутага» генэрала Булак-Балаховіча. Бацька яе, — доктар Гарбэль, хоць і паляк па нацыянальнасьці карыстаўся за жыцьця ды й па сьмерці асаблівай пашанай мястачкоўцаў з прычыны сваёй бязьмернай справядлівасьці й дабраты, што ён выяўляў у адносінах да сваіх пацыентаў, асабліва бяднейшых і наагул усіх жыхараў мястэчка. Карысталася павагай і ягоная дачка з увагі на памяць бацькі ды таксама з увагі на тое, што яна была хоць і разьведзенай, але ўсё-ж жонкай знанага генэрала. Жыла яна адна толькі са служанкай Манькай, бо два яе сыны вучыліся ў вайсковай школе ў Варшаве й наведвалі маці толькі зрэдка ў часе вакацыяў. Другая яе сястра, таксама ўдава якогась вышэйшага царскага ўрадаўца Рошчына, з дарастаючым сынам жыла ў іншай і зусім адізаляванай частцы дому. Зь ім толькі ведамых прычынаў сёстры адносіліся адна да другой, як чужыя.



Сама Балаховічыха, у тым часе жанчына каля 50-ці зь лішкам гадоў, але яшчэ нядрэнна выглядаючая, а нават, як кажуць, «з азнакамі былой красы», любіла часамі крыху павесяліцца. Асабліва гэта здаралася тады, калі ў недалёкіх казармах КОП-у ладзіліся якіясь балі-забавы. На гэтыя забавы яна, хоць як і былая, але ўсё-ж жонка генэрала, заўсёды атрымоўвала ганаровыя запросіны.

І вось аднаго разу калі Балаховічыха весела гуляла, а Манька таксама недзе вышла з хлопцамі, у памешканьне ўламаліся зладзеі й забралі грошы, і то здаецца даволі паважную суму ў залатых царскіх рублёх, а таксама скрыначку зь біжутэрыяй.

Назаўтрае на ногі была пастаўлена ўся паліцыя, але на працягу пэўнага часу пошукі не давалі ніякіх вынікаў. На трэйці ці чацьверты дзень, калі з Глыбокага быў прывезены паліцыйны сабака, дык прывёў ён паліцыю на панадворак Янкі Ваўка, які жыў на канцы Гарбалёвага саду, але ўжо на Маставой вуліцы. Штопраўда сабака знайшоў пад гноем у хляве толькі здохлую курыцу, але гэта не перашкодзіла паліцыі арыштаваць Я. Ваўка. На гэта паліцыя мела свае прычыны, бо Янка быў сьведамым беларусам і рэгулярна выпісваў беларускую прэсу. А тут такая аказія! Допыты вядома не маглі даць ніякіх вынікаў, што аднак не перашкодзіла перавезьці арыштаванага ў Глыбокае й перадаць у рукі так званай «двуйкі», матывуючы што ён зьяўляецца палітычным праступнікам і ўламаўся да Балаховічыхі, каб здабыць грошы на «нелегальную работу». Спэцыялістыя з «двуйкі» так завіхнуліся каля беднага Янкі, што той падобна прызнаўся ў закіданым яму злачынстве, але не хацеў сказаць дзе захаваў грошы.. Пасьля гэтага яго перавезьлі ў Вільню на «славутыя» Лукішкі. Колькі часу ён быў там я сёньня ўжо не памятаю. Памятаю толькі, што разгляд ягонае справы ў судзе колькіразова адкладаўся, пэўна з прычыны браку пэўных довадаў віны.

Тымчасам на другім канцы мястэчка незаможны каваль Міхась Ярмаловіч пачаў будову дому й то здавалася-б за каштоўнага на ягоныя кавальскія магчымасьці. Будова пасоўвалася хуткімі тэмпамі наперад, бо ня было затрымкі ані ў майстрох, ані ў будаўляных матэрыялах. Каваль за ўсё плаціў гатоўкай, а ў дадатку моцна й не таргаваўся, як гэта было ў звычаі іншых людзей. Суседзі толькі плячамі паціскалі:

— Бач ты яго! І калі ён змог сваім кавальскім малатком або вастрэньнем сярпоў зарабіць столькі грошаў?

Але, як кажуць, аднаго прыгожага ранку выбухла сапраўдная бомба. Балаховічыха ідучы па вуліцы пабачыла малога хлапца ў каптане якога быў ушыты нейкі адумысловы гузік зь нейкім старадаўнім гэрбам, падобным да таго, які перахоўваўся ў яе ў шкатулцы зь біжутэрыяй украдзенай таго памятнага дня. Яна нарабіла вэрхалу, але перапуджаны хлапец уцёк. Выкліканая паліцыя хутка знайшла яго ў школе. Пасьля дакладных агледзінаў Балаховічыха заявіла, што гэты гузік належыць да яе. Тады паліцыя арыштавала бацьку хлапца, — каваля Ярмаловіча. Пасьля кароткіх допытаў ён прызнаўся, што крытычнай ночы ён ўламаўся ў яе пакой і забраў што яму было патрэбным. Янка Воўк ня меў да гэтага ніякага дачыненьня.

Янку выпусьцілі, а на ягонае месца пайшоў каваль Міхась, з тэй толькі розьніцай, што Міхасю ўжо ня прыпісвалі ніякае «палітыкі». У ягонай хаце былі яшчэ знойдзеныя, — большая частка грошаў і ўся чыста біжутэрыя. Хоць Янку Ваўка

й выпусьцілі з турмы, але гэта не перашкаджала паліцыі і ў далейшым адносіцца да яго з падозраньнем. Каваль, па прычыне цяжкае хваробы, быў хутка таксама выпушчаны пад залог і незадоўга памёр.

Калі Дзісьненская вуліца пралягала дакладна з усходу на захад, то суседняя зь ёю, — Касьцельная была распалажана пад кутом да яе з паўдзённага ўсходу й яны злучаліся пры рынку толькі на яго шырыню. Касьцельная вуліца калісьці називалася Сьвіной і была перайменавана на Касьцельную па прычыне знаходжаньня на ёй касьцёлу, але гэта ўжо пры паляках. Да апісаньня касьцёлу я вярнуся пазьней, а цяпер пастараюся апісаць асаблівасьці вуліцы й яе жыхароў.

У канцы Мураванкі прылягаючым да Касьцельнай вуліцы мясьціўся пастарунак паліцыі, які местачкоўцы называлі «застаронкам», (здаецца, што гэта быў-бы адпаведнік расейскага засьценку) і вайсковая крама «Спулдзельня». У Спулдзельні заўсёды можна было купіць тое, чаго ня было ў іншых крамах, але затое й цэны былі адпаведныя да асартымэнту тавараў. Так, што яе кліентамі былі ў першую чаргу афіцэры КОП-у, урадаўцы ды таксама мясцовыя паўпанкі, якія пнуліся туды каб паказаць, што й яны нешта значаць. Простым-жа людзям яна была не па кішэні.

Жыхары Касьцельнай вуліцы былі асабліва цікавыя людзі, бо адна характэрная адзнака розьніла іх ад іншых местачкоўцаў, а гэта тое,, што ў большасьці сем'яў пераважалі дзяўчаты. Вось напрыклад у пяці сем'ях: Стася Вяршылоўскага, Адольфа Драба, Ігната й Паўлы Якубёнкаў і Людвіка Русачонка, было іх аж 26. І трэба прызнаць, што брыдкіх сярод іх амаль ня было. Дзеля гэтага ў такіх, як-бы сказаўшы, «многадзяўчатных» сем'ях быў амаль заўсёды адзін або й два зяці-палякі — падафіцэры КОП-у.

Такі стан выдатна спрычыняўся да палянізацыі гэтых сем'яў дзеля таго, што бацькі дзяўчыны як правіла ўглядаліся ў зяця як у абраз й стараліся ўсім быць падобнымі да яго да тэй ступені, што здаецца каб змаглі, дык надзелі-б бліщчастыя гузікі й каўняры. Зяці-ж у сваю чаргу згодна атрыманых згары інструкцыяў стараліся навярнуць на свой капыл «бялорускe быдло», каб зрабіць зь яго сапраўдных польскіх патрыётаў, што ў большасьці выпадкаў ім удавалася. Часамі былі выпадкі, што праўда рэдкія, што ў сям'і знаходзіліся «вырадкі» ў большай меры сярод хлапцоў, якія бачачы падобную палітыку ў вочы й за вочы высьмейвалі бацькоў, што часамі прыводзіла да паважных сямейных канфліктаў.

Часамі можна было ў волю насьмяяцца з гэтых новавыяўленых палякаў, якія за ўсялякую цану хацелі паказацца годнымі сваіх зяцёў. Асабліва ўбіўся ў памяць местачкоўцаў адзін сьмешны выпадак, які здарыўся на жалобнай акадэміі ладжанай на першыя ўгодкі сьмерці Язэпа Пілсудзкага. Акадэмія адбывалася ў Народным доме, і таму, што нікому не хацелася трапіць на вока паліцыі толькі з прычыны адсутнасьці на акадэміі, дык на залі было цесна, як у тэй прымаўкавай «бочцы зь селядцамі». Бацька пяцёх нябрыдкіх дачушак і таму ўжо добра заавансаваны «польскі патрыёт» Людвік Русачонак, папрацаваўшы добра пры гаспадарцы й паза ёю, сеў сабе ціханька ў куточку дый задрамаў мерна пасопваючы носам. Суседзі па лаўцы сьпярша стараліся яго разчухаць, але пасьля некалькіх няўдалых пробаў вырашылі, што няхай стары адпачне, бо нямала працуе, каб прыхарашыць гэтых «чаропак».

Тымчасам на сцэну выйшаў прамоўца, які пачынаючы акадэмію сказаў, што год таму назад ўся Польшча пачула праз радыё трагічную вестку, што «маршалэк



Пілсудзкі не жые»... Дзядзька Людвік добра ведаў, што на ўсялякіх акадэміях на заклік прамоўцы трэба моцна крычаць «нех жые!». Спрасонку прыняўшы апошнія словы прамоўцы за падобны заклік, Русачонак ускочыў са свайго месца й як мага наймацней закрычаў, і то тройчы: «нех жые!!!» На хвіліну заля заціхла, а пасьля выбухла падобным да грому рогатам. Сьмяяліся бяз вынятку ўсе, — патрыёты й не патрыёты. Нават сам прамоўца адбег у куток сцэны ўдаючы нястрыманы кашаль.

Адным словам атрымаўся поўны канфуз. Пазьней-жа дачушкі беднага Людвіка на пэўны час былі страцілі сымпатыі капралаў і плютоновых. Прычынай гэтаму было яшчэ й тое, што хтосьці быў распусьціў зласьлівую плётку нібы Людвік умысна зрабіў гэта, каб сарваць акадэмію. Шчасьце, што ў гэтую плётку не паверылі ўлады, бо ў іншым выпадку яму было-б ня соладка.

Недалёка ад Русачонка жыў яшчэ й іншы Людвік, прозьвішчам Латаноўскі. Напэўна таму, што ў яго ня было дачок, а толькі сыны, ён розьніўся ад Русачонка як агонь ад вады. Ня маючы ніякае асьветы да тэй ступені, што ён аж да сьмерці падпісваўся «магільнікам», гэта зн. ставіў тры крыжыкі, і не разьбіраючыся ў палітыцы ён аднак інстынктоўна бачыў у паляках ворагаў і называў іх з пагардай «пшэкамі». Таксама сваім сялянскім розумам ён дайшоў да высновы, што каб апалячваць, як ён казаў, «наськіх людзей» палякі падпраглі нават касьцёл. І вось дзеля гэтага, калі аднаго разу ў часе споведзі ксёндз пачаў занадта налягаць на грахі, якія вынікаюць з сяброўства са «схізматыкамі» й тымі, якія ня лічаць сябе палякамі, — Людвік спытаў яго:

— А ці Пан Езус быў палякам?

За гэтую правіну ксёндз адагнаў яго ад спавядніцы, чым Людвік занадта не праняўся, бо праз пэўны час зусім ня прыходзіў у касьцёл. Калі ксёндз пачаў пашыраць чуткі, што зусім адлучыць яго ад касьцёлу, дык ён заявіў, што тады ён пойдзе маліцца «Рускаму Богу», гэта зн. пачне хадзіць у царкву. Перапалоханы ксёндз праз сваіх тэрціярак перадаў, што ён яму даруе й Людвік ізноў пачаў наведваць касьцёл, што праўда даволі рэдка.

Будучы зусім няпісьменным, Людвік неяк складаў даволі ўдалыя вершы, аднак па прычыне таго, што ня ўмеў іх запісаць, дык трымаў іх у сваёй памяці, а ў дадатку, як кажуць большасьць ягоных вершаў не «надавалася да друку», але нягледзячы на гэта Людвік асабліва будучы пад чаркай любіў іх дэклямаваць на вялікае нездаволеньне з гэтага сваіх сыноў. А што Людвік бяссумліўна меў пэўны талент, аб гэтым сьведчыць вершык аб панох і мужыкох, які захаваўся ў маёй памяці:

Паны жывуць як у раі,
Ці ў заморскім нейкім краі.
Жаруць яешню й локчуць каву,
А ў ночы едуць на забаву.
Паны ня сеяць і ня косяць,
А як пан памрэ, — не галосяць,
Ды толькі п'юць, ядуць, танцуюць,
А мужычкі на іх працуюць.
Мужычкі-ж, вядома дурачкі,

 

Паставілі хаты дзе расьлі бурачкі, *)
Парабілі ніўкі, як лешкі, **)
Дый зьбіраюць збожжа ў дзежкі.

Трэба сказаць, што два малодшыя браты Людвіка, — Антон і Міхась былі даволі моцна апалячаныя, што яшчэ раз даводзіць аб уплыве зяцёў, бо абодва яны мелі зяцёў палякаў.

Апрача Людвіка, на Касьцельнай вуліцы жыло яшчэ некалькі сем'яў, якія чымсь адрозьніваліся ад іншых. Вось хоць-бы ўзяць двух недалёкіх суседзяў, — Міхася Валкавіцкага, па клічцы «Босы» й Юльяна Маляўку, па клічцы «Кум». Абодвы яны былі па прафэсіі шаўцы, абодвы каталікі й абодвы здавалася-б з усіх мер паважныя местачкоўцы. Гэта аднак не перашкаджала ім быць на ніколі ня скончанай ваеннай сьцежцы» між сабою. Даволі было толькі ў прысутнасьціаднаго зь іх успомніць імя другога, каб той плюнуўшы зараз-жа адыходзіў. Здаралася й так, што будучы дзесьці разам і хочучы штосьці даведацца адзін аб другім, дык яны заўсёды карысталіся ў такіх выпадках услугамі трэціх асобаў. Стоячы ці седзячы недалёка адзін ад другога, яны прасілі кагосьці іншага, (і ў дадатку вымоўна маргаючы ў бок свайго ворага), «спытай, калі ласка ў гэтага... (тут наступала грымаса як-бы нераўнуючы пасьля адведаньня чагосьці вельмі кіслага ці брыдкага), ці доўга яшчэ ягоныя куры будуць раскопваць мой агарод?» Запытаны хуценька падшукваў сабе іншага «передавальніка», якіх звычайна з нагоды пасьмяяцца ніколі не бракавала, і пра яго адказваў: «Тады, калі ягоныя сьвіньні перастануць брудзіць на мой ходнік, а гэта будзе хіба толькі тады, калі мой Бобік паадгрызае ім ногі».

Але найцікавейшыя, так сказаць, «інтэрмэдыі» адбываліся ў летнія ці раньнявосенскія нядзелі ці іншыя сьвяткі папаўдні. Тады паважныя суседзі вярнуўшыся з касьцёлу, дзе выслухалі чарговае казаньне на тэму шкоды якую прыносіць для іх душаў занадта блізкае сябраваньне са «схізматыкамі» ды іншымі «выврротоўцамі», засядалі пагутарыць у гародчыках сярод кветак перад сваімі хатамі. Хоць можа тэмай іхніх разважаньняў і была навука пачутая ў касьцеле, аднак яны не маглі належна на ёй сканцэтравацца, бо на супроцьлеглым баку вуліцы, хоць трохі й наўскос тырчэў Кум або Босы. Прычынай іх тырчэньня сярод кветак, якое дарэчы сказаўшы было-б больш да твару маладым дзяўчатам чым паважным людзям, была вельмі людзкая. Справа ў тым, што ў нядзелі, каб не марнаваць надарма час, ваколічныя сяляне адпраўляліся ў Лужкі, каб наведаць шаўцоў, краўцоў, краўчых або іншых рамесьнікаў, каб палагодзіць зь імі справы абутку ды адзежы для сябе й сваіх сем'яў, а таксама іншыя гаспадарскія справы. Всь-жа іх і пільнавалі «Босы» з «Кумам» каб ня страціць заработку, або не перапусьціць яго зьненавіджанаму канкурэнту.

Пасьля пэўнага часу ў канцы вуліцы паказваўся вясковы дзядзька або найчасьцей цётка са скруткам «тавару» завінутага ў перапелястую посьцілку пад пахай. За ёю дрыбаў на пасечаных «цыпкамі» карэлых нагах адзін або й больш падросткаў. Апошнія прыймалі ў выправе да шаўца толькі пасыўны ўдзел, бо яны былі патрэбныя толькі на тое, каб шавец зьняў мерку зь іхных засохшага попелу колеру ног, бо ўсе бяз вынятку бацькі баяліся, каб, барані Божа, абутак ня быў за малы

*) Дзе перад гэтым былі агароды.
**) Лешкі — вузкія градкі ў агародах.





© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

 



й дзеля гэтага працэдура прымерваньня была вельмі дакладнай. Што абутак можа будзе за вялікі аб гэтым ніхто не клапаціўся, ні замаўляючы ні шавец. Што праўда часамі нясьмела пратэставаў уласьнік ці ўласьніца парэпаных ног, але хто-б там на іх зважаў, бо абутак традыцыйна рабіўся «на выраст». Чамусьці бацькі падлеткаў мелі перакананьне, што большы абутак ёсьць трывалейшым.

Ну, але я здаецца занадта адхіліўся ад беспасрэдна дзеючых асобаў, а гэта ад цёткі з падлеткамі й ад «Босага» з «Кумам». Калі апошнія пабачыўшы, што да іх прыбліжаецца заработак, як па камандзе падымалі галовы, нібы тыя кавалерыйскія коні на гукі аркестры, але каб ня траціць павагі яны занадта не паказвалі свае ўзрушанасьці, а толькі заядла дымілі люлькамі. Нарэшце цётка падыходзячы зазвычай да «Босага», бо ягоная хата была бліжэй да канца вуліцы, і ветліва пытала:

— Скажыце, калі ласка, дзе тут жыве шавец Маляўка?

Запытаны адразу зьмяняўся на твары бо бачыў, што замоўленьне мінае яго ды просьценька накіроўваецца да ягонага канкурэнта й ворага.

— Спытайце, вунь, у пана «Кума», гэта недалёка ад яго, — ледзь прыхоўваючы злосьць, скорагаворкай адказваў запытаны й закарэлым шавецкім пальцам тыцаў у бок Маляўкі. Цётка накіроўвалася ў паказаны бок і падыйшоўшы бліжэй да агародчыка ветліва пытала:

— Пане Кум, скажыце, калі ласка, дзе тут жыве шавец Маляўка?

Запытаны адразу кумекаў, што гэта «Босы» абазваў яго «Кумам» і дзеля гэтага зь ветлівай усьмешкай адказваў:

— Ну, і жартаўнік-жа гэты «Босы», «Кум»-жа жыве ў ягонай хаце, а ён пасылае людзей Бог ведае куды. Тут цётка павяртала назад і ўжо крыху злосна казала:

— Пане Босы, гэта-ж няпрыгожа жартаваць з дарослых людзей. Чаму-ж вы не сказалі, што «Кум» жыве ў вашай хаце? Тут Босы ўскокваў як-бы пасьля таго, як яго хтосьці жыгануў ў месца на якім ён сядзіць прыладай якой ён зарабляе на хлеб, гэта зн. шылам, і злосна плюнуўшы імчыцца ў свой панадворак ды па дарозе яшчэ спраўляецца пагражаючы памахаць у бок «Кума». Цётка-ж яшчэ праз пэўны час ў нерашучасьці топчацца на месцы, але праз пару хвілін злосна прыкрыкнуўшы на сваіх ні ў чым нявінных дзяцей, накіроўваецца ў бок, дзе жыў іншы шавец, жыдок Шлёма.

На Касьцельнай вуліцы жылі выключна амаль каталікі, апрача толькі трох сем'яў праваслаўных, гэта бацькі й сястра ведамага сьвятара а. Янкі Кушняра (загінуў каля Менску ўзьехаўшы на міну ў 1943 годзе), сям'я Паўлы «Паўлюка» Навуменкі й Міхася Мяцеліцы, па клічцы «тры пуды галава». Скуль узялася такая дзівосная клічка ніхто толкам ня ведаў, тым больш, што галава ў Міхася ня была ані крышачку большай, як у іншых. Трэба дадаць, што местачкоўцы менавалі яго гэтай клічкай толькі ў скарочаньні, бо поўны тытул яе гучэў: «Віленскі Мяцеліца тры пуды з чэцьверцю галава». І асабліва дражніла Міхася вось гэтая «чэцьверць». Міхась быў вельмі перачулены што да свае клічкі й таму абражаўся калі нават у размове, якая не датычыла яго былі ўспомненыя нейкія меры вагі. А калі ў прысутнасьці яго хтосьці незалежна ад таго ці пахваліў ці зганіў ягоную сям'ю, ён адразу адыходзіў баючыся што размова прыйме небясьпечны кірунак.

Для прыкладу апішу адзін выпадак. Вось грамада местачкоўцаў, — мужчын, жанок і падлеткаў працуе пры направе дарогі адбываючы так зв. «шарварак». У поўдзень даглядаючы іх «драгомішч» абвяшчае перапынак на абед. Усе сядаюць на ўзбочыне дарогі, разьвязваюць вузялкі й торбачкі ды пачынаюць сілкавацца



 

чым Бог надзяліў. Міхась таксама выймае з торбачкі акраец хлеба, споры кусок завінутага ў газэту сала й яшчэ некалькі маласольных гуркоў ды пачынае есьці, як і ўсе. Седзячы непадалёк ад яго сусед нібы ненарокам кідае заўвагу:

— Бачылі вы яго! А ўсё кажа, што ён бедны, а сала з сабой узяў напэўна з фунт. А якое-ж таўстое, пэўна на пяць пальцаў будзе! Міхась пачуўшы, што ў гутарцы ўспомнена вага, насьцярожваецца. Як- ні-як, але ад гэтага фунта й на тры пуды лёгка перайсьці можна. Аднак ён з пачатку не дае па сабе нічога пазнаць і ўплятае за абедзьве шчакі сапраўды апэтытна выглядаючае ванѓзонае сала закусваючы яго прыемна пахнучымі укропам гуркамі.

— Ты кажаш сала? — ўтыкае ў гаворку «свае тры грошы» іншы хлапец, — ды гэта-ж ня сала а самы сапраўдны лой ды ня тое каб з каровы ці авечкі, а казіны, — дадае ён задыхаючыся ад рогату. Твар насьцярожанага Міхася наліваецца крывёй так, што здаецца яна вось, вось пырсьне праз скуру.

— Ах, ты баньдзюга, — голасна крычыць ён, — ці ты не памятаеш мае белай сьвіньні якую я пыганяў да вашага кныра? А ты яшчэ асьмельваешся казаць, што гэта лой? Брыда ты нясусьветная! І ты злодзей і бацька твой злодзей, а маці дык прывучыла маіх курэй несьціся ў вашай крапіве. Адным словам уся вашая сям'я зладзейская!

Жанчыны й падлеткі голасна сьмяюцца, — цешацца, што маюць «бясплатныя ціятры». Не сьмяюцца толькі найбольш паважныя мужчыны ня хочучы надарма крыўдзіць Міхася, бо нягледзячы на пэўныя ягоныя недахопы, ён стараўся быць памагчымасьці паважным чалавекам, хоць гэта яму не заўсёды ўдавалася. Пасьля некалькіх хвілін, калі рогат ня сьціхае, Міхась спрабуе шукаць паратунку ў драгомішча, які разаслаўшы сваю сурвэтку трохі наводшыбе ад іншых сілкуецца таксама сваімі «панскімі» прысмакамі.

— Панок, — голасна крычыць ён, — ці гэта ў вашай Польшчы няма ніякае справядлівасьці? Я-ж ведаю законы, бо нездарма быў больш як 10 год пісарам у земскага начальніка. За такія насьміханьні ды яшчэ ў прысутнасьці начальства, — тут Міхась сьхіляючы галаву паказваў у бок драгомішча выцягнутай рукой, — пры нябожчыку гасудару, вечная яму памяць, можна было і ў Сібір па этапах прайсьціся! Зрабіце-ж што небудзь! Арыштуйце гэтых «безабразьнікаў» і пасадзіце іх у гмінную кутузку на хлеб і ваду!

Пабачыўшы аднак, што ягоная прамова ня робіць ніякага ўражаньня на драгомішча, ён выкрыквае яшчэ некалькі ня вельмі прыхільных для яго заўвагаў, бярэ свой хатылёк і лапату й хуценька накіроўваецца ў бок дому. Назаўтрае да працы прыходзіць адзін зь ягоных сыноў, якім, трэба прызнаць, ніхто на працы не дакучаў. Справа зазвычай канчалася тым, што пазьней Міхась павінен быў яшчэ паспрачацца з драгомішчам, які не хацеў запісаць яму прапрацаванага паўдня матывуючы сваю пастанову тым, што нібы Міхась сумысьля хацеў сарваць назначаны плян працы й дзеля гэтага выклікаў авантуру.

Як я ўжо казаў, на Касьцельнай вуліцы жылі амаль што выключна ўсе каталікі, памінаючы толькі тры сям'і праваслаўных і дзьве сям'і татараў-магамэтанаў. Апрача Віленскага Мяцеліцы ягоным беспасрэдным суседам была сям'я Навуменкаў, якая нічым асаблівым не вызначалася. Далей у суседстве з Маляўкам-Кумам жыла сям'я Кушняроў, сын якое а. Янка Кушнер дзейна дапамагаў наладжваць царкоўнае жыцьцё ў былой Усходняй Беларусі й загінуў падарваўшыся на міне каля Менску. Бытавалі неправераныя чуткі, што гэстапо загадзя ведала аб гэтым



замінаваным адрэзку дарогі па якім меўся праяжджаць а. Я. Кушнер.

Цікава яшчэ й тое, што сястра а. Я. Кушняра, Маня, сябруючы з дачкой Босага Броняй, здолела яе ўсьведаміць нацыянальна ды ў дадатку й ейнага кавалера Пётру Храла, нягледзячы на тое, што іх сем'і былі даволі апалячаныя.

На канцы Касьцельнай вуліцы, як я ўжо ўспамінаў, знаходзіўся даволі вялікі й прыгожы касьцёл пабудаваны продкамі графоў Зыбэрк-Плятэраў, — уласьнікаў суседніх маёнткаў: Гарадца,Ілоўкі й Фаб'янава ды лясных масываў паміж Лужкамі й Гарманавічамі, якія далей па рацэ Дзісёнцы падыходзілі аж пад Мікалаева й Дзісну.

У касьцельным падзямельлі знаходзіўся гроб яго фундатара, графа Жаббы, аб зьдзеках якога над прыгоньнікамі захавалася шмат апавяданьняў. Але найбольш яскравым было апавяданьне аб ягоным сьляпым ад дзяцінства сыне. Пераняўшы ад бацькі ўсю ягоную жорсткасьць, ён знаходзіў задаваленьне й забываўся аб сваім калецтве задаючы боль іншым.. Дзеля гэтага ў ягоны пакой цівуны прыводзілі са зьвязанымі рукамі й нагамі маладога сялянскага хлапца або дзяўчыну, а яму ў рукі давалі бізун і ён біў дзе папала ні ў чым нявінную ахвяру. Аднак гэтая забава хутка яму надакучыла і ўслужлівыя цівуны прыдумалі іншую. Пад вакном ягонага пакою расла вялікая ігруша. Вось на гэтую ігрушу павінен быў узьлязаць адзін з прыгоньнікаў і кукаваць як зязюля. Сьляпому-ж у міжчасе давалі стрэльбу й ён страляў праз адчыненае вакно ў кірунку кукаваньня. У гэтым, што праўда была пэўная палёгка для бедных прыгоньнікаў, бо незалежна ад таго, ці стрэл быў трапны ці не, кукуючы павінен быўваліцца з дрэва й голасна стагнаць нібы ад болю. Ня трэба казаць, што здараліся й трапныя стрэлы. Усе гэтыя зьдзекі нарэшце перапоўнілі, як той казаў, «кубак цярплівасьці» катаваных людзей.

І вось аднаго разу паехаўшы ў падарожжа са старым панам, фурман і два лакеі задумалі пана збавіць з гэтага сьвету. Справа была зімой і ўначы. Уехаўшы ў вялікі лес яны навалілі на пана ўсе футры й конскія апоны што былі ў вазку, а да гэтага яшчэ дадалі пустыя мяшкі з-пад аўса з іншых саней ды самі ўзьлезьлі наверх. Рабілі яны так дзеля таго, каб не заставіць ранаў ці сьлядоў крыві на целе. Пан сьпярша страшэнна крычэў і трапятаўся, але памалу пачаў заціхаць і ўканцы зусім заціх. Тады яны ня сьпяшаючы паехалі ў кірунку Гарадца, куды за некалькі гадзінаў прывезьлі толькі закалеўшы труп. Навальваючы на сваю ахвяру футры, яны не прадбачылі толькі аднаго, а менавіта марозу, бо калі іх зьнялі пад'яжджаючы да маёнтку, дык уся вопратка на пану адразу-ж пакрылася скарынкай лёду, бо пакуль памёр, пан Жабба страшэнна прапацеў. Гэтага факту яны аніяк не маглі растлумачыць паліцыйным урадаўцам, якія вялі допыты. Хутка пасьля гэтага адбыўся суд і ўсе тры яны былі прызнаныя віннымі ды павешаныя недалёка ад Гарадца ў кірунку на Глыбокае. Сем'і-ж іх былі высланыя ў Сібір, дзе сьлед па іх так і загінуў.

Едучы па Празароцкай дарозе, мінуўшы касьцёл, можна было бачыць па правым баку даволі высокі мураваны помнік з драўлянай напаўстлелай фігурай блізкай нявядомага сьвятога на гары. Калі і ў памяць якога здарэньня быў пабудаваны гэты помнік ніхто ня ведаў. Праўда, у яго фундамант, але чамусьці не ад боку дарогі, але ад ракі, была ўмураваная даволі вялікая жалезная табліца, але яна была да таго пабіта іржой, што на ёй нічога ня можна было прачытаць. Таму помнік папросту называлі «Слуп», а прылягаючыя да яго палеткі называлі «Пад-

 

слуп'е». Недзе ў пачатку 30-ых гадоў польская адміністрацыя грунтоўна помнік адрэстаўравала й уставіла на ім прыгожыю фігуру, — »Хрыстуса-Круля».

Едучы далей у тым-жа кірунку й заставіўшы па правым боку Гарадзец, можна было бачыць высокі на 35-40 мэтраў аброслы дрэвамі курган з каплічкай Божае Маці на гары. Гэты курган вакалічныя жыхары называлі Валатоўкай. Аб Валатоўцы былі дагадкі, што яна была пабудавана ў памяць аднаго з Плятэраў, які служачы ў арміі Напалеона загінуў дзесьці ў гэтых ваколіцах. Што-ж датычыцца каплічкі, дык ясна, што пад ёй быў замаскаваны помнік загінуўшаму, бо ня можна было адкрыта стаўляць помнікаў тым, якія змагаліся супраць «бацюшкі-цара».

### МЛЫНСКАЯ ВУЛІЦА

Млынскай яна называлася ад даволі вялікага як на тадышнія адносіны млыну на рацэ Мнюце, які быў уласнасьцю таго-ж графа Плятэра. Кажучы даволі вялікі, я маю на ўвеце тое, што ў ім знаходзілася аж тры камяні да простага памолу, пыталь (да вырабу далікатнейшага гатунку пшанічнай мукі) й электроўня. Каб не перашкодзіла вайна, у далейшым праектавалася дабудаваць яшчэ тартак і сукнавалку. Пыталь працаваў на тых умовах, што прывёзшаму дзеля гэтай мэты пшаніцу, пасьля спраўджаньня яе вільготнасьці, засьмечаньня й вагі адразу выдаваўся квіток на гатовую муку. Гэтая сыстэма вельмі падабалася сялянам нават з далейшых ваколіцаў, таму што заашчаджвала час і нэрвы ў часе чэргаў да «каша». Электроўня забясьпечвала энэргіяй Лужкі, Гарадзец й пабудаваныя на левым беразе Мнюты казармы ўспамінанага ўжо КОП-у.

Млынская вуліца выходзіла з рынку проста на поўдзень, але праз 200-250 мэтраў крута зьвяртала на паўдзённы захад ды ізноў праз нейкіх пару сотак мэтраў зьвяртала на поўдзень і перасекшы раку ды падняўшыся на гару разьдзялялася на дзьве, гэта зн. адна ішла проста на поўдзень і далей на Залесьсе й Глыбокае, а другая павяртала на паўдённы ўсход заставіўшы зь левага боку казармы й Гарадзец, таксама ішла ў бок Глыбокага.

Адразу пры самым амаль рынку на ёй знаходзілася жыдоўская школа й банк, а далей на лева, значыць на ўсход выходзіла Жынгялёва вулка творачы невялічкі пляцок на якім адбываліся жыдоўскія вянчаньні. Далей на павароце ўправа на ёй знаходзіліся дзьве даволі вялікія сынагогі й «хэдэр», — рэлігійная школа для хлапцоў. Паміж сынагогай і хэдэрам ішоў вузкі й вельмі круты спуск у бок ракі. Над самай ракой знаходзілася «кагальная» лазьня. Фактычна яе трэба-б было назваць местачковай, бо ёю карысталіся амаль усе жыхары мястэчка, але праўным яе ўласьнікам быў «кагал». Гэтую лазьню ад няпамятных часоў арандавала сям'я Хідэкеляў. Што адносіцца да адміністраваньня лазьні, дык «кагал» ня ўмешваўся ў яго, за маёй памяці там заўсёды (апрача сыботы) тырчэў стары Моўша Хідэкель, які браў аплату за лазьню. Ён ніколі не карыстаўся ніякімі квіткамі й палягаў на сваёй памяці, вельмі рэдка даючы сябе ашукаць. У справах тэхнічных, там заўсёды ўладарыў Антось-«Неяк-жа будзе». Трэба прызнаць, што ён быў майстрам свайго фаху. У яго заўсёды краны дзейнічалі без адказу, у прымешчаньні дзе «парыліся» была адпаведная тэмпэратура, а ў самой лазьні хапала посуду-«ражак» да мыцьця й яны былі чыстыя. Антось меў асаблівы прывілей ўваходу ў ваўсе прымешчаньні лазьні незалежна ад таго, хто ў даным часе мыўся, — мужчыны ці жанчыны, — апошнія супроць гэтага не пратэставалі. За сваю працу ён меў пэўную аплату ад Моўшы й незалежна ад гэтага заўсёды перад Калядамі наведваў усіх гаспадыняў сем'і якіх мыліся ў лазьні й зьбіраў «каляду». Ня трэба нават і казаць, што ўсе гаспадыні стараліся адна перад другой, каб, барані Божа, яе каляда ня была горшай за суседзкую. На гэта складалася аж некалькі прычынаў: па-першае, каб іншыя суседкі не абсьмейвалі яе за скупасьць, па-другое, каб зарабіць у Антося ласку й прыходзячы ў лазьню заўжды атрымаць ад яго добрую «ражку» й бухматы венік да парыньня, а ў дадатку, каб часамі не пачуць:

— Агатка, ці Тэклечка, ты неяк ужо вельмі доўга мыешся, трэба-ж і іншым памыцца перад сьвятой нядзелькай.

Гаспадыні ведалі яшчэ й тое, што іншыя не прамінуць спытаць у Антося, ці яна не паскупілася. Той-жа, ня любячы плётак, адказваў:

— Няхай ёй будзе добра, дала ўсяго: і кілбаску вось такую, — прычым вымоўна паказваў на пальцы, якая была кілбаса, — і скабачкаў з падсьвінка, і кошычак бульбы, і мучыцы на пірагі к сьвяту.

Антось жыў толькі з жонкай такога самага веку як сам, бо ягоны сын Янка, па клічцы «Чарвяк», бадзяўся дзесьці па сьвеце. Ягоная старэнькая Мар'яна мела ампутаваную вышэй калена нагу. Нягледзячы на гэта, Антось адносіўся да яе зь нявымоўнай дабратой, і нягледзячы на штодзённыя заняткі ў лазьні заўсёды дапамагаў ёй ды выконваў за яе ўсю тую працу, якую яна па прычыне свайго калецтва не магла выканаць сама. Любячы часамі «пацягнуць» чарку-другую, ён аднак ніколі доўга не заседжваўся зь сябрамі, але сьпяшаўся дамоў прыгаварваючы: «Неяк-жа будзе, прыяцелі — прыяцелямі, а там мая бедная Мар'янка адна».

(далей будзе.)

---

Віктар Швед (Польшча)

### ЧАЛАВЕЧНАСЬЦЬ

На сьвеце мы жывем ня вечна,
Усе мы госьці тут навокал.
Таму павінны чалавечнасьць
Мы праяўляць на кожным кроку.

А чалавечнасьці так мала,
Глядзім мы на сябе ўсе воўкам.
Жывем з нахабствам небывалым
І з крывадушлівасьцю лоўкай.

Мы часта цынікі й клоўны,
Або двудушныя спрытнюгі,
І з ротам пустаслоўя поўным
Зьбіраем лаўры й заслугі.

Часта бяз твару, бяз сумленьня
Жывем, хоць і ў дваццатым веку.
А ўжо найгоршае — падзеньне
У чалавеку чалавека.

1983 г.

 

 

 

**Арсень ЛІС** («Маладосьць»)

# ПРАМАЎЛЯЮЧЫ ДА СЭРЦА

## (Нарыс пра Рыгора Шырму)

Маё пакаленьне спазнавала ўрачыстую й пранікнёную красу харавога сьпеву, паланілася ім у шчасьлівую пару студэнцтва, у 50-я гады. Адкрыцьцё мастацкай харавой культуры, далучэньне да яе шмат у каго знас адбылося праз хор Рыгора Шырмы, які неўзабаве стаў насіць высокае ганаровае званьне акадэмічнай капэлы. Напачатку гэта была сустрэча з роднай песьняй. Глыбока адчутая прыроджаным мастаком, беражліва данесеная хорам, яна неўпрыкмет раскрывала ўладную сілу свайго характва, прамаўляла да сэрца, парывала думку.

Як сьветлы ўспамін цяпер ужо далёкіх студэнцкіх гадоў, бывае, прамільгне ў памяці падараваная калісь Шырмам, шырмаўцамі дзіўна прасьветленая зажураная нясьць песьні « Ці сьвет, ці сьвітае». Ускалыхнуцца ў душы водгаласам даўняга ўзрушэньня й паклічуць да вытокаў, да родных берагоў песьні «Люблю наш край», «Ці ўсе лугі пакошаны?». «Ой, ня кукуй зязюленька, рана», «Зорка Вэнэра»... Ціха паклічуць туды, дзе залацее лотаць у надрэчных лугах, ільсьніцца пад сонцам сьвежаўзараная ральля, пад майскім дажджом жаўруковых песень падымаецца, набірае моцы маладое, сьветла-зялёнае жыта. Туды, дзе шумяць сінія задуменныя лясы. Туды, дзе працоўная руплівасьць, гамана вялікіх шляхоў зьмяняецца на цішыню палявых ды лясных дарог, утравелых сьцежак. Туды, на адведнае ўлоньне народнага жыцьця, у краіну земляробчай працы, простай паэзіі, дзе несупынна бруяць зь вечнай крыніцы — душы народу песьні.

* * *

Больш-менш поўнай біяграфіі Р. Шырмы, як-бы гэта належала, у нас яшчэ няма. Але ў паасобных артыкулах, асабліва юбілейных, у інтэрв'ю ёсьць нямала штрыхоў да яе. Некаторыя факты ўдалося пачуць з вуснаў самога народнага артысты. Узновім-жа іх у пасьлядоўнасьці й магчымай цэласьці. Натуральна, нельга абыйсьціся й без паўтарэньня агульнавядомага. Нарадзіўся будучы культурнаграмадзкі дзеяч Беларусі... 8(21) студзеня 1892 году ў вёсцы Шакуны на Пружаншчыне, непадалёк ад Белавескай пушчы. Сям'я была працавітая. Але зямлі было мала й жылі беднавата, як уся асноўная маса сялян да рэвалюцыі. Дзед Васіль стальмашыў: рабіў калёсы, вазкі, начыньне. З-за гэтага сям'ю, «усіх нас, — згадваў Р. Шырма, — звалі майстровічамі».

І дзед і бацька любілі сьпяваць. Дзед, асабліва прыехаўшы з рынку, дзе прадаваў свае вырабы. Бацька пры розннай гаспадарчай рабоце. Бывае, жыта вее ў клуні й сьпявае. Рыгорка рана вучыўся чытаць па буквары, прывезеным бацькам з Пружанскага кірмашу. Крыху пачакаўшы, дабраўся да кніг, што былі ў хаце. Яны заставаліся ад дзядзькі, бацькавага брата, які калісь вучыўся ў горадзе. Былі гэта гістарычныя раманы «Царевна Софья», «Княжна Тараканова», казкі сабраныя Афанасьевым. Чытаў іх, спаўняючы пастушковы абавязкі. Увосень 1905 году хлопцы-землякі, якія ўжо месяц правучыліся ў Пружанах, паведамілі, што ёсьць адно вакантнае месца ў гарадзкім вучылішчы. Бацька заплаціў рубель сьвятару за мэтрыку — усе грошы, што былі ў хаце. На сямейным савеце рашалі, што рабіць.



Бабуля Наталёха, «драпежная да работы» (жала ноччу, пры месяцы, каб не абсыпалася зерне), раіла бацьку не пасылаць хлапца ў навуку: «Сам хворы. Хто на гаспадарцы будзе». Той, лёс каго вырашаўся, поўны крыўды ў сэрцы, выбег і схаваўся ў маліньніку. Маці (звалі яе Тадора) прыйшла шукаць.

— Лепей ня жыць, чым такое жыцьцё, — кінуў сын крыўду-папрок маці. Гэта яе ўразіла й паддало духу. Яна энэргічна вярнулася на сямейную нараду з сынам за руку.

— Якая там гаспадарка. Сабака хвастом накрые такую гаспадарку. Каб яшчэ з-за яе дзіця ў сьвет не пускаць. Людзі вунь грошы плацяць, каб толькі вучыцца...

Пайшла, пазычыла ў суседа залатоўку (15 капеек).

— На, сынку. Купіш чарніла, паперы здаць экзамены.

Зацісную у кулак грошы й пайшоў у мястэчка, праз выган, праз Вялікае сяло, — усяго кілямэтраў дванаццаць зь лішкам.

Уступныя экзамены здаў і скончыў год з пахвальнай граматай. На пражыцьцё крыху прывозіў бацька, а што зарабляў лекцыямі сам. Першы год плацілі па 50 капеек у месяц за лекцыю. У старэйшых клясах зарабляў ужо болей: па 8 рублёў давалі за лекцыю ў месяц. Аднак голаду нямала прыйшлося зазнаць за час вучобы ў Пружанскім вучылішчы. Адзін раз нават былі выключылі: ня мог заплаціць за паўгода навучаньня 4 рублі. Выручыў інспэктар. Параіў зьвярнуцца ў печчае таварыства. Кіраўнік яго даў грошы, і ў правох вучня ўзнавілі.

Што дало для душы Пружанскае чатырохкляснае гарадзкое вучылішча? Пазнаёміла з расейскай клясычнай літаратурай. І гэта заклала добрыя духоўныя асновы, паводле слоў Рыгора Шырмы.

Але вось у 1910 годзе вучоба ў Пружанах была скончана й паўстала пытаньне, дзе вучыцца далей. Сялянскаму хлопцу, які ня мог спадзявацца на бацькаву падмогу, трэба было думаць пра тое, каб хутчэй выбіцца на ўласны хлеб. Паступалі хлопцы ў юнкерскае вучылішча ў Вільні. Падаўся разам зь імі, але «такім холадам дыхнула», казармай, што адразу асекся, павярнуў назад. Прыезд у Вільню ўсё-ж быў небескарысны. Там даведаўся пра двухгадовыя пэдагагічныя курсы пры Сьвянцянскім чатырохклясным гарадзкім вучылішчы. Паступіў й правучыўся на іх з 1910 па 1912 год. За час вучобы на курсах было такое здарэньне. З выпадку забойства рэвалюцыянерамі царскага міністра Сталыпіна курсантаў вадзілі ў сабор на паніхіду. Пад час паніхіды адзін курсант-кобрынец дэманстрацыйна выйшаў з сабору. Адміністрацыя (інспэктарам курсаў быў Розэн) адразу выключыла хлопца. Курсанты выбралі дэпутацыю й накіравалі яе з патрабаваньнем узнавіць выключанага. Курсанту Шырму за настойлівасьць пры хадайніцтве за апальнага калегу на выпускных экзамінах выкладчык гісторыі зрэзаў ацэнку, пагражаў большым.

Пэдагагічныя курсы ў Сьвянцянах (цяпер Швянчоніс Літ. ССР) давалі права вучыць у двухклясным сельскім вучылішчы. Самастойную працу Р. Шырма пачаў, маючы дваццаць год, у 1912 годзе, у вёсцы Ганута, лясным, даволі глухім завілійскім кутку. Пасьля двухгадовага побыту ў Ганууце малады настаўнік быў накіраваны ў аднаклясную школу ў Лідзкім павеце. Думку аб далейшай вучобе, аднак, не пакідаў і неўзабаве паступіў у Седлецкі настаўніцкі інстытут.

У сувязі з пачаткам першай сусьветнай вайны, эвакуацыяй Сядлецкага інстытуту, разам зь ім апынуўся ў Яраслаўлі. Знаходжаньне ў гэтым горадзе стала этапным, калі ня перыядам, то важным момантам у жыцьці Р. Шырмы. Тут упершыню будучы фальклярыст, чалавеказнаўца сутыкнуўся ўвачавідкі з неаглядным народным



 

горам, бязмерна павялічаным імпэрыялістычнай вайной. Самой крывавай бойні, што адбывалася на Галіцыйскіх палёх, у Мазурскіх балотах, Заходняй Беларусі, парэзанай лініяй фронту — акопамі й траншэямі — і дзе ў імя хціўых апэтытаў ды шавіністычных амбіцыяў моцных гэтага сьвету бяссэнсоўна гінулі сотні й тысячы ратаеў і сейбітаў, рабочага люду ад станка, Шырма ня бачыў. Але спусташальная, пагібельная хваля вайны каціласся й у глыбіню Расеі. Пакінуўшы разбураныя сялібы, туды рушыла, часам падганянае казацкай нагайкай, жыхарства заходніх губэрняў. Рушыла падаўнейшаму, на сялянскіх скрыпучых вазах зь небагатым скарбам-набыткам. Голад і хваробы шчодра выпалі на лёс гэтым абяздоленым. Магілы дзяцей і старых густа значылі бежанскі шлях.

Хваля бежанства дакацілася й да няблізкага Яраслаўля. У горадзе можна было сустрэць людзей у палескіх сьвітках з маленькімі трунамі пад пахай... Студэнты таксама не маглі застацца абыякавымі да лёсу абяздоленых вайной. Р. Шырма ўспамінаў, як яны сарганізавалі бежанскую камісію. Перш-наперш агледзелі, абсьледавалі часовы прыпынак, умовы жыцьця выгнанцаў-уцекачоў. Абышлі трушчобы, закрыты піўны завод, дзе зьмясьціліся бежанцаў. На станцыі Усполье, ля Яраслаўля, бежанцы жылі ў няпаленых вагонах, паўз якія скрозь былі бачны на сьнезе босенькія сьлядкі. Арганізаваныя студэнты адкрылі два прытулкі для бежанскіх дзяцей: адзін для хлопчыкаў, другі для дзяўчатак. Дзеці ў іх займаліся ручной працай, вучыліся. Студэнт Седлецкага настаўніцкага інстытуту Рыгор Шырма стаў выхавальнікам у прытулку. Пасьля лекцыяў у інстытуце ды яшчэ прыватных заняткаў, без якіх нельга было пражыць, вечарам займаўся зь дзецьмі-бежанцамі. Арганізаваў хор хлопчыкаў, які знайшоў прызнаньне ў гараджан. Быў створаны й хор студэнтаў. І тут, камплектуючы яго рэпэртуар, Шырма востра адчуў, што няма належнай па-мастацку апрацаванай беларускай песьні, каб магла яна годна прагучаць поруч зь песьнямі іншых народаў. А аўдыторыя тым часам, якая складалася ў большасьці зь бежанцаў ды эвакуаваных, стомленых сваім няспалым бытам, засумавалых па радзіме, чакала роднай песьні.

У той час у эвакуацыі ў Яраслаўлі знайходзіўся й Менскі настаўніцкі інстытут. Сярод яго выкладчыкаў і студэнтаў Шырма найбліжэй пазнаёміўся з маладым пэдагогам, выкладчыкам гісторыі У. Ігнатоўскім. Яны абодва паходзілі з Брэстчыны. Але лучыла іх не зямляцтва, а пасталелая думка аб сьвеце й новае, сьвітальнае, сказаў-бы паэт, пачуцьцё Радзімы. А тым часам суровая бяссэнсоўная вайна працягвалася, забіраючы мільёны чалавечых ахвяр. Каб папоўніць моцна парадзелыя за гады вайны шэрагі камандзіраў, царскі ўрад вымушаны быў парушыць свой сацыяльна-саслоўны прынцып у камплектаваньні афіцэрскага корпусу й пайсьці на тэрміновую падрыхтоўку малодшых афіцэраў з выхадцаў з народу. Учарашнія сэмінарысты, студэнты, настаўнікі мабілізоўваліся й пасьпешліва накіроўваліся ў ваенныя вучылішчы, на адпаведныя курсы. Дзесь на пачатку 1916 году мабілізаваны ў царскую армію быў і студэнт Седлецкага інстытуту Шырма. Неўзабаве быў накіраваны ў Чугуеўскае вучылішча на Харкаўшчыне. А праз некалькі месяцаў, ужо прапаршчыкам, пасланы ў Туркестан на ахову чыгункі. Служыў непадалёк ад Ташкента, у Пяроўску. Там і застала лютаўская, а пазьней кастрычніцкая рэвалюцыя. У чырвонай арміі працаваў у культасьветным аддзеле. Звольнены як настаўнік, з 1919 году быў выкладчыкам літаратуры ў Навагольскай школе 2-ой ступені на Варонежчыне. У Навагольскім сяле былі ў эвакуацыі бацькі. Тут Р. Шырма ажаніўся з настаўніцай матэматыкі Клаўдзіяй Раеўскай.



Пасьля ўсталяваньня польска-савецкай граніцы (Рыскі мір у сакавіку 1921 г. замацоўваў яе дзяржаўным актам) былыя выгнанцы-бежанцы пацягнуліся да родных гнёздаў. Сабраліся на бацькаўшчыну й Шырмы. Перад выездам Рыгора Шырму знайшоў у Навагольскім ліст за подпісам народнага камісара асьветы Беларусі Усевалада Ігнатоўскага з запрашэньнем прыехаць на працу ў Менск.

Праязджаючы праз Менск у чэрвені 1922 году, Шырма зайшоў у Інстытут беларускай культуры. Старшыня Інбелкульту Сьцяпан Некрашэвіч пераконваў застацца на працы ў гэтым толькі-што заснаваным навуковым цэнтры, які пазьней адыграў значную ролю ў станаўленьні беларускай навукі.

Запрашэньне было спакусьлівае, абяцала добрую перспэктыву на будучыню, але давялося ўступіць гарачай просьбе маці. Яе аргумэнты йшлі ад сэрца.

— Дома хоць ягады якія пасьпелі, грыб вырасьце. Памерці дома хачу... Завязі нас дамоў, тады сабе вяртайся, — сказала яна сыну.

Шлях рэпатрыянтаў ляжаў праз Баранавічы. Дробны чыноўнік, небесстаронна дапытваўся: «Czy pan mówi po-polsku?»

Камусьці з былых бежанцаў з-за пытаньня, якое некаму не спадабалася, ужо загадвалі: — Do aresztu!

— Nu, to Polska kochana, — нехта казаў ні то з замілаваньнем, ні то з горкай усьмешкай.

Першае ўражаньне ад спатканьня з радзімай было сумнае, нецікавае. Непасрэднае-ж знаёмства з новай рэчаіснасьцю на роднай зямлі, з тымі парадкамі, што ўсталявалі тут, абапершыся на штыкі легіёнаў Пілсудскага,, на польскі шавінізм і на памешчыкаў, магло кінуць у роспач.

Спроба знайсьці працу, адпаведную адукацыі, месца настаўніка, не ўдалася. Нацыянальнае паходжаньне й веравызнаньне сталі асноўным крытэрыем грамадзяніна ў адроджанай Польшчы, шавінізм быў узьведзены ў вышэйшы дзяржаўны прынцып. Асабліва востра гэта давала сябе адчуць на заходнебеларускіх землях, дзе ставіліся пэўныя палітычныя запатрэбаваньні й адміністрацыя пастаянна кіравалася імі ў сваёй практычнай дзейнасьці. Шырму напачатку нічога не заставалася, як пайсьці на фізычную працу. Ня вельмі далёка ад дому, у Белавескай пушчы, у той час замежныя фірмы, якія набылі ў польскіх уладаў канцэсію на распрацоўку й вывазку лесу, наймалі на працу. Шырма пайшоў працаваць лесарубам. Быў заняты ад рана да вечара (нямала часу адбірала дарога: туды й назад па 12 км. штодня. Праўда, заробкі былі неблагія — ва ўсякім разе на пражыцьцё, а пра большае-ж марыць у такіх умовах не даводзілася, хапала. Аднак доўга працаваць не давялося... З працы звольнілі.

На той час у Пружанах сабралася грамадка мясцовай інтэлігенцыі, сярод якой было некалькі чалавек такіх-жа беспрацоўных. Шырма падаў думку, наважылі стварыць і стварылі хор. Паволі шырылася вядомасьць беларускага хору з Пружан. Яго кіраўнік і дырыжор Шырма ўмеў надаць і зьмястоўны характар рэпэртуару й належнае гучаньне выкананым творам. Будучы знакаміты беларускі дырыжор і фальклярыст падымаўся да ўсьведамленьня таго, што песьня можа яднаць людзей, запальваць прагай лепшага жыцьця. Можа быць таксама зброяй у барацьбе.

Глыбокае пераканаце ў гэтым прыйшло крыху пазьней, ужо ў Вільні, калі зьявілася шырэйшае поле дзейнасьці. Аднак пачатак, зроблены на радзіме, у Пружанах, калі яшчэ й ня сьведчыў аб дарозе, выбранай паводле прызнаньня, то, прынамсі, прадказваў яе. Патрэбен быў выхад на большы простор, падключэньне

да вялікай грамадзкай справы, каб асоба, талент раскрыліся шырока. І гэта адбылося. Неўзабаве Шырма прыйшоў у вызваленчы рух.

Была ў прыходзе Шырмы да вызваленчага руху Заходняй Беларусі аб'ектыўная заканамернасьць яго духоўнага разьвіцьця. Меў гэты прыход і сваю канкрэтную гісторыю. Яна таксама, здаецца, пасвойму цікавая.

Яшчэ да заснаваньня ў 1925 годзе Беларускай сялянска-работніцкай грамады, а таксама ў час яе бурнага росту, калі вызваленчы рух нарастаў, як шторм, лідэр гэта масавай арганізацыі Заходняй Беларусі Браніслаў Тарашкевіч многа езьдзіў па гарадох і мястэчках, выступаў на пасольскіх мітынгах. Прыехаў ён аднойчы й у Пружаны. Мітынг, або веча, як тады яго называлі на даўні славянскі лад, пачынаўся бурна. Асаднікі (вайсковыя каляністы), пераахранутая паліцыя імкнуліся перашкодзіць сустрэчы папулярнага грамадзка-палітычнага дзеяча з масамі. Грамадаўцы выстаўлялі звычайна сваю самаабарону. Прыкрывалі прамоўцу, стрымлівалі наскок налётчыкаў. На гэты раз яны, можа, недаацанілі сваіх праціўнікаў, і веча было амаль-што сарвана.

Шырма ўспамінаў, як Тарашкевіч прыйшоў да яго на кватэру, узбуджаны, але не прыгнечаны няўдачай. Загаварыў пра тое, што ў цэнтры не хапае патрэбных людзей. Распытаў пра хор, працу й запрасіў пераехаць у Вільню. Запрошаны выгад там не чакаў, але быў рад. Да Вільні як цэнтру вызваленчага руху, культуры даўно ўжо прыслухоўваўся. Адтуль ішло жывое слова, а зь ім сьвятло надзеі на іншую, лепшую будучыню. У 1926 годзе Шырма перабраўся ўсё-ж у гэты гістарычны горад над Віліяй. Напачатку будучы культурна-грамадзкі дзеяч, дырыжор, публіцыст, пэдагог, выдавец заходнебеларускай паэзіі й народных песень прытуліўся ў Базыльянскіх мурох.

На невялікім кавалку зямлі заціснутым з усіх бакоў старадаўнімі мурамі, у 20-я гады засяродзілася некалькі беларускіх культурна-грамадзкіх устаноў. Тут разьмясьцілася Віленская беларуская гімназія, што пазьней стала сапраўднай кузьняй кадраў вызваленчага руху. Тут знайшлі прытулак Беларускі музэй імя Івана Луцкевіча, навуковае таварыства, Беларуская драматычная майстроўня. Шырма, якому ў гімназіі даручылі выкладаць сьпевы й адначасна быць выхавальнікам у інтэрнаце, заняў зь сям'ёю невялікі пакойчык над уваходнай брамай: такая яна была шырокая. Вокны кватэры глядзелі проста на гімназіяльны двор, старыя клёны...

Шырма адразу апынуўся ў самым віры вызваленчага руху. Беларуская грамада, пачынаючы зь лета 1925 году па восень 1926 году, крыху хутчэй як за год, ахапіла сваім уплывам шырокія масы, асабліва сялянства. Да пачатку 1927 году ў радох Беларускай сялянска-работніцкай грамады было ўжо да 100 тысяч сяброў.

Асабліва вялікі, масавы наплыў заходне-беларускіх працоўных у сваю легальную рэвалюцыйна-дэмакратычную арганізацыю быў летам і ўвосень 1926 году. Шырма працаваў тады ў Цэнтральным сакратарыяце Грамады на Віленскай 12. Гэты рабочы орган быў да таго часу грунтоўна расшыраны, і ўсё-ж людзей не хапала. Яго асабоваму складу на чале з Максімам Бурсэвічам было цяжка справіцца з усёй працай, зьвязанай з бурным ростам арганізацыі. Шырма з добрай усьмешкай успамінаў сваю занятасьць у Цэнтральным сакратарыяце, тое, як ледзь пасьпявалі выпісваць сяброўскія білеты й адпраўляць, рассылаць іх у павятовыя сакратарыяты. У гэтым апэратыўным штабе арганізацыі добра, непасрэдна чуўся той узьнёслы рэвалюцыйны настрой, які зыходзіў, біў хваляй зь беларускіх палёў, гарадоў і мястэчкаў. Заходняй Беларусі. Перажываньні, зьведаныя ў гэты час,



клаліся на душу, крышталізавалі перакананьні. Абуджаны да сьвядомага грамадзкага, палітычнага жыцьця народ сьведчыў, што ён — рашаючая сіла. Аб'ядваны высокай ідэяй люд можа здабыць і здабудзе годную кожнага чалавека, цэлых народаў і ўсяго чалавецтва будучыню.

Супрацоўнік Цэнтральнага сакратарыята Грамады, зь першых месяцаў заняткаў у гімназіі Шырма стварае вялікі хор, далучыўшы да сваіх выхаванцаў яшчэ й хлопцаў з суседняй сэмінарыі, інтэрнат якой мясьціўся ў Базыльянах. І адразу-ж з усёй вастрынёй, грамадзкай адказнасьцю перад ім паўстала пытаньне стварыць арыгінальны беларускі рэпартуар. У аснову яго — у маладога дырыжора ўжо не было наконт гэтага сумліву — павінен быў легчы народны мелас, тое неагляднае музычнае багацьце, якое стварыў сам народ і пранёс праз нялёгкую сваю тысячагадовую гісторыю.

Але адно — залатыя россыпы творчага духу, расьсеяныя ў самым народзе, і зусім іншая рэч — выяўленыя, сабраныя, данесеныя да шырокага сьвету, уключаныя ў духоўны ўжытак сучасьнікаў. Публікацыя беларускіх песень, зробленая Чачотам, Шэйнам, Доўнар-Запольскім, Раманавым і іншымі фальклярыстамі й этнографамі насілі ў сваёй аснове філялагічна-этнаграфічны характар. На дзесяткі тысяч песенных тэкстаў, руплiва сабраных і надрукаваных вучонымі да рэвалюцыі, былі запісаны й апублікаваныя лічаныя мэлёдыі. Крыху ў Янчука, некалькі тэкстаў у Шэйна, трохі ў Раманава й Рагоўскага. Не пасьпеў належна рушыць наперад справу збору й выданьня беларускіх мэлёдыяў сваёй працай нават такі руплівы энтузіяст беларускага меласу, як Антон Грыневіч, хоць ён, можа, больш чым хто пасьпеў зрабіць у гэтым напрамку да Шырмы. Перад рэвалюцыяй, паміж дзьвюма рэвалюцыямі, лютаўскай і кастрычніцкай, а таксама ў пэрыяд грамадзянскай вайны й асабліва ў першыя гады пасьля яе даволі пасьпяхова папрацаваў на ніве беларускай музычнай культуры ў Менску Уладзімір Тэраўскі. Ён усьлед за Людамірам Рагоўскім запачаткаваў беларускую харавую культуру й прыклаў руку да аранжымэнту, мастацкай апрацоўкі народнай песьні. Але яго аранжыроўкі, як і аранжыроўкі Зінаіды Радчанкі, зьдзейсьненыя крыху раней, былі зроблены не зусім адпаведна рытміка-мэлядычнай прыродзе беларускай песьні й таму не маглі поўна выявіць яе ўнутранае багацьце й красу. Пры гарманізацыі беларускіх мэлёдыяў гэтыя музыканты выкарыстоўвалі прыёмы, спосабы, якія былі выпрацаваны на іншым этнамузычным матэрыяле. Іхнім гарманізацыям беларускіх песень не хапала арганікі, уменьня раскрыць тое музычнае зерне, што складала душу песьні, тонка разьвіць пазначаныя ў ёй асноўныя мэлядычныя лініі. Для гэтага патрэбна было добра ўслухацца ў музычную народную стыхію.

Адным словам, калі сур'ёзна думаць пра беларускую музыку, а Шырма ўжо адчуў у сабе ўнутраную патрэбу думаць пра яе будучыню, то трэба было вырашаць некалькі задач адразу. Запісваць, зьбіраць народны мелас, даць яму належную мастацкую апрацоўку й адначасова прапагандаваць яго магчымасьцямі хору і праз друк. І перш-наперш выйсьці на эстраду, сцэну з такой беларускай песьняй, так пададзенай, каб яна адразу прамаўляла да людзкіх сэрцаў, была ўзорам творчых здабыткаў народу, гаварыла аб яго патэнцыяльнай духовай моцы.

Задача ўкладнялася тым, што Заходняя Беларусь была адрэзана ад Менску дзяржаўнай мяжой. Творчыя кантакты праз яе ня толькі ўскладняліся, але былі немагчымымі.

Такім чынам, пераняць ужо зробленае ў галіне музыкі ў Савецкай Беларусі

было няпроста, часам зусім нельга. Але ўсё ў жыцьці ўзаемазьвязана. Тое, што Шырму ў гэтых умовах даводзілася спадзявацца больш на сябе, разьлічваць на тыя музычныя сілы, якія былі ў Вільні, поруч, прымушала да неаслабнай актыўнасьці, пошуку.

І Шырма ідзе па шляху адначасовага вырашэньня трох задач: зьбірае мелас, арганізуе высокамастацкую яго апрацоўку й выходзіць на сцэну з хорам, каб паказаць, публічна сьцьвердзіць вялікую ідэйна-эстэтычную вартасьць беларускай песьні. У артыкуле «Мастацкая песьня ў Заходняй Беларусі» ён гаварыў пра час выбару, пачатак працы хору: «Аставаўся адзіны шлях — зьвярнуцца да народных крыніцаў... Але да гэтага народнага меласу трэба было даваць належную мастацкую апраўу. І вось гэтую апраўу, гэтую распрацоўку ўзяўся даць К. Галкоўскі. Тагачаснае кіраўніцтва гімназіі шырока ішло на спатканьне гэтым працам. Інспэктар, а пазьней дырэктар той-жа гімназіі, выдатны беларускі пэдагог С. Паўловіч укладаў душу ў культываваньне народнай песьні. І за гэты час нашая песьня вырасла з рамак прымітыву да сапраўднага мастацкага шэдэўру. Першыя гарманізацыі К. Галкоўскага для невялікага зьмешанага хору адразу ўнесьлі сьвежасьць, высокі артыстызм».

Першы, на каго абапёрся Шырма ў сваім імкненьні паказаць народную беларускую песьню са сцэны ва ўсім яе багацьці й красе, быў віленскі кампазытар і пэдагог, вучань Рымскага-Корсакава й Глазунова Кастусь Галкоўскі. Хоць радаслоўную сваю Галкоўскі вёў зь Беларусі (бацька паходзіў з Магілёўшчыны, маці была зь Меншчыны, з роду Наркевічаў-Ёдка), з народна-песеннай беларускай стыхіяй кампазытар не сутыкаўся. Праўда, яна аднойчы крыху падала яму свой голас. Гэта было ў 1910 - 1911 гадох, калі сябра Галкоўскага, супрацоўнік па Віленскім сімфанічныммаркестры Людамір Рагоўскі рыхтаваў «Беларускі сьпеўнік». Але на той час Галкоўскі ў сваіх творчых пошуках быў далёкі ад яе. Прыхіліў да беларускай песьні яго ўжо ў 20-я гады Шырма са сваім уменьнем адчуваць хараство й захапляць ім іншых. Былі для гэтага цяпер і шырэйшыя, спагаднейшыя грамадзкія ўмовы: беларускае слова заваёўвала ўсё большае грамадзянства насуперак калянізацыйнай палітыцы польскіх урадаў.

Матэрыял для першых сваіх гарманізацыяў Галкоўскі браў у аснаўным са зборнікаў Грыневіча, а таксама з неапублікаваных яшчэ першых запісаў беларускага меласу, зробленых Шырмам. Свае арынжыроўкі беларускіх песень Галкоўскі рабіў з улікам неаднолькавых магчымасьцяў калектываў — удзельнікаў культурнага руху. Кампазытар зрабіў 22 апрацоўкі для невялікага зьмешанага хору, 17 — для вялікага, 4 — для жаночых народных хораў, 2 — для мужчынскага, 22 народныя песьні для соля з акампаніямэнтам раяля. Сярод іх «Ды хто, ды хто па цёмным лесе гукае», якую Шырма назваў сімфоніяй у мініятуры, « Ці сьвет, ці сьвітае», «А ў гаспадара» й інш. Ад апрацовак народных песень, як і спадзяваўся яго натхняльнік, Галкоўскі перайшоў да арыгінальнай беларускай творчасьці на глебе народнай музыкі. Ён напісаў дзьве сюіты «Дуда» й «Каханьне», песьні й рамансы на словы Я. Купалы, Я Коласа, Ясакара, К. Буйлы, А. Гурло, М. Танка й інш., прыступіў да напісаньня опэры «Сымон - музыка».

Маючы ў рэпартуары першыя высокамастацкія аранжыроўкі Галкоўскага, у дадатак некалькі песень, гарманізаваных здольным арганізатарам харавога сьпеву вілянчанінам Т. Уладзімірскім ды яшчэ атрымаўшы зь Менску, здаецца, прыватным шляхам некалькі апрацовак кампазытара М. Анцава, Шырма са сваім хорам рашаецца выйсьці на шырэйшую арэну. У маі 1928 году разам з кампазытарам Галкоўскім яны арганізуюць канцэрт славянскай песьні зь лекцыяй аб песеннай культуры славян. На вечары хорам у 70 чалавек было выканана 15 новых беларускіх песень, акрамя таго, многа песень расейскіх, польскіх, украінскіх. Рэзананс ад канцэрту быў вялікі. Газэта «Зара працы» ад 23 чэрвеня 1928 году зьмясьціла заметку аднаго са слухачоў. «Пасьля гэтае вечарыны, — пісаў ён: — чуўся, быццам, як кажуць, на сьвет нарадзіўся. Пачуў у сабе прыліў сілы, энэргіі й веры ў тое, што хутка «загляне сонца й у наша ваконца». Высока ацаніў выступленьне хору Шырмы рэцэнзэнт газэты «Кур'ер Віленскі»: «Вечар славянскай песьні, — пісаў ён, — ёсьць адной з найлепшых праяваў беларускага артыстычнага жыцьця ў Вільні. Такія імпрэзы трэба прывітаць як найпрыхільней, жадаючы беларускаму грамадзтву ў яго артыстычнай працы добрага й памыснага разьвіцьця». Пазьней Шырма сьціпла падагуліць свае ўражаньні, грамадзкую думку аб канцэрце словамі: «Аб нашай песьні загаварыла ня толькі беларуская прэса. Грамадзянства мела магчымасьць пераканацца, што й наш народ мае вялікія скарбы, якія можна слухаць ня толькі дзеля патрыятычнага сэнтымэнту».

1928 год быў годам актыўнай фальклёрна-зьбіральніцкай дзейнасьці Шырмы. У самых розных кутках Заходняй Беларусі ад мястэчка Гарадок на Беласточчыне да вёскі Гаішча ў Радашковіцкім павеце, ад Пружаншчыны, ад вёскі Шакуноў, дзе ён знайшоў у асобе Захвеі Хвораст сапраўдны самародны талент, ад сяла Вострава на Слонімшчыне да вёсак Дзісеншчыны пралеглі яго фальклёрныя сьцежкі. І вёў яго па гэтых дарогах ня толькі пошук песьні, хоць ёй аддаваў ён душу, глыбока ўсьведамляў яе патрыятычна-выхаваўчую ролю, а яшчэ шырэйшы грамадзкі клопат.

Справа ў тым, што з 1927 году Шырма быў выбраны ў кіраўніцтва такой папулярнай і масавай культурна-асьветнай, грамадзка-асьветнай арганізацыі Заходняй Беларусі, як Таварыства беларускай школы. ТБШ узьнікла ў 1921 годзе ў час так званай Сярэдняй Літвы й напачатку пашырала сваю дзейнасьць толькі на этнаграфічную Віленшчыну. У 1926 годзе ў сувязі з уздымам вызваленчага руху ТБШ дабілася ад улад права распаўсюдзіць сваю дзейнасьць на ўсю Заходнюю Беларусь. Маючы на мэце перш за ўсё пашырэньне сярод працоўных асьветы на роднай мове, барацьбу за беларускую школу, што ва ўмовах заняволенай Заходняй Беларусі набывала асаблівы сэнс, ТБШ, ахапіўшы край сеткай гурткоў і зьяднаўшы ў сваіх радох 16, а пазьней 30 тысяч сяброў, пачала адыгрываць значную ролю ў сацыяльным і нацыянальным усьведамленьні шырокіх народных гушчаў.

Дзейнасьць Шырмы як сакратара Галоўнай управы ТБШ — значны этап у ягоным жыцьці, асобная балонка біяграфіі, якая заслугоўвае свайго, асобнага дасьледчыка.

Апрача таго ў рамках павятовых і нізавых арганізацыяў ТБШ як адна з праяваў іх руплівасьці пачала імкліва разьвівацца мастацкая самадзейнасьць. Вялікую актыўнасьць праяўлялі драматычныя сэкцыі пры гуртках. Там, дзе мясцовы актыў быў мацнейшы ды знаходзіўся чалавек з музычнай адукацыяй, узьнікалі хоры. Для іх Шырма парупіўся хутчэй даць мастацкаапрацаваную й разьлічаную на розныя магчымасьці вясковых калектываў песьню. У 1929 годзе ён выдае першы выпуск «Беларускіх народных песень». Зборнік Шырмы ўключаў трыццаць чатыры народныя творы, гарманізаваныя пераважна Галкоўскім, а таксама кампазытарамі І. Грачанінавым, М. Анцавым і Т. Уладзімірскім.

працяг будзе.

Уладзімер Глыбінны (ЗША)

## ВЯЛІКІЯ ДАРОГІ

(раман)

працяг

— Ха, ха, ха, — азваўся невядомы, — ничего, это так себе! — быў адказ.

— Скуль вы мяне ведаеце, па прозьвішчу? — запытаў ізноў Кастусь.

— Ничего, ничего, проходите. Это неважно — рашуча й з пэўнай праявай злосьці адказаў гэты чалавек у кепцы.

— Выбачайце, — сказаў Кастусь і завярнуўся йсьці ў ранейшым кірунку. Доўга ён адчуваў зрок невядомага, аж пакуль ня вышаў з саду й не прамінуў колькі завулкаў да завароту. Яму ўсё здавалася, што чалавек назіркам нябачна сягае за ім і пранізвае ягоную сьпіну сваімі халодна-войстрымі вачмі, якія, здавалася, калолі да болю мясьціны іхнага дотыку да паверхні ягонага цела.

— І чаго яму патрэба было? — думаў ён у дарозе. — Спраўдзіць прозьвішча й маю асобу. Дык хіба гэта ён ня мог зрабіць лепш і больш таемна, не прыцягваючы мае ўвагі да факту асокі?. Хацеў пераканацца, ці спалохаюся, дазнаўшыся, што асока нідзе й ніколі ня спушчае зь мяне свайго ўсёбачлівага вока? Ліха яго ведае... Няпрыемны сам факт, незалежна ад канкрэтнае мэты, што за ім. І няхай сабе ў гэтым няма ніякае неспадзеўкі, — Кастусь ведаў пра сваю паднагляднасьць ужо даўно, — усё-ткі адчуваньне было гадкае. І хоць-жа ён устаў ісьці з намерам хутчэй прынесьці да хаты гэтую надзвычайную навіну пра вайну, аднак на нейкі час гэтае здарэньне зь невядомым, што гукнуў яго паводле прозьвішча, перабіла на нейкі час першыя ўражаньні ад гэтае навіны й навяло ізноў яго на цяжкія думкі аб бязвыхаднасьці й безнадзейнасьці ягонае долі ў таемна сплеценым павуціньні, што ўрэшце ізноў завалакло яго.

Маланкаю прарэзалі памяць успаміны пра выпадкі зь ім у навуковым Інстытуце, дзе ён усяго колькі месяцаў таму назад апынуўся ў цяжкім становішчы. От тады-ж мусіць і сталася гэта, што ён апынуўся ізноў пад наглядам. Пасьля перажытых гадоў выгнаньня хоць і асьцерагаўся Кастусь дзе-небудзь якое небудзь вольнае, недазволенае слова вымавіць, але не ўсьцярогся. Дарма што зусім ненаўмысна й без аніякае злое волі.

Было гэта неяк апаўдні, можа ўжо перад самым канцом працы, калі ад сядзеньня пры рабочым стале анямелі ногі, а галава ад бязупыннага разважаньня над матэрыялямі, як-бы апусьцела й пацяжэла. Вось-жа, уварваўшы якую часінку захацелася ўстаць і ў вольнай гаворцы зь сябрам па працы адыйсьціся траха ад напружаньня. І ні тое, каб гэта быў сапраўдны сябра, зусім не, — што ён меў су-



польнага з гэтым сібіраком, акрамя таго, што свайго часу ў студэнцкія годы запазнаўся зь ім у Ленінградзе й, пэўна, пакінуў у ім неблагія ўражаньні, што той нават абраў для свае будучае працы беларускую сталіцу й цяпер зжыўся з нашым краем, як-бы з сваёй другой бацькаўшчынай. Не пачуваючы да яго, як да асобы асаблівага замілаваньня, Кастусь, аднак, цаніў тое, што гэны быў высокае думкі аб беларускім народзе. Таму Кастусь ахвотна гутарыў зь ім і нат любіў часамі па-хлапецку адпаліць якую штуку. Зь ім ня было патрэбы быць надзьмутым ды нацягнутым. Таму мог тут дазволіць сабе й які-небудзь жартаўлівы выбрык, дзівака згуляць.

І ўсё гэта сыходзіла-б незаўважна, каб ня пільнае вока парторга інстытуту. Гэты апошні ня меў ня тое што пядзі, але й трох пальцаў у ілбе, быў нyздатны да якое-колечы сур'ёзнай дасьледчае працы, — пустацьвет у поўным сэньсе гэтага слова. Аднак, ён трымаўся моцна за свой партбілет. Дзякуючы ня ўмеру праяўленай пільнасьці ў мэтах апраўданьня партыйнага білету й вялізнае сумы змарнаваных дарэмна грошаў, ён ужо колькі гадоў займаў у Інстытуце пасаду, якую, мусіць, сам дырэктар не азначыў-бы дакладна. Рэгулярна атрымоўваў плату, хоць работы ніякае зь яго Інстытут ніколі не вымагаў. Праўда, бальшыня моўчкі ведала ці здагадвалася аб функцыях гэтага "вока". Вынікі ягонае "працы" давалі сябе адчуваць можа яшчэ мацней, чымся ўся навуковая праца Інстытуту — час ад часу яна змушала здрыгануцца ўсіх супрацоўнікаў, калі нейкага дня не зьяўлялася на працу колькі чалавек, а пазьней ставалася ведамым, што іх праглынуў чарговы выезд "чорнага ворана". Як звычайна, неўзабаве зьбіраўся агульны сход Інстытуту, і ад імя дырэкцыі й партарганізацыі штатныя прамоўцы дапякалі супрацоўнікаў ў страце пільнасьці дзеля чаго ў іхным асяродзьдзі дзейнічалі ворагі народу, якіх трэба было даўно бязьлітасна высмальваць гартаваным зялезам, і заклікалі ўсіх да павышэньня пільнасьці. На гэтым знадворна чарговая інсцэніроўка канчалася да наступнага выпадку. Але не канчалася яна для пільнага вока. Яно яшчэ больш рупна й аддана сьвідравала кожнага ад галавы да пятаў. Не прагледзіла яно й Кастусёвы ўчынкі. Здавалася нікога і ў пакою ня было, калі ён зававўтузіўся з сваім сябрам, каб разьмяць косьці. І здарылася на тое ліха выпасьці зь сябравае кішэні грашовай чырвонаватай паперцы ў тры чырвонцы з партрэтам Леніна на ёй. І трэба-ж было Кастусю незаўважыць гэтага й неўзнарок наступіць на яе... чым-бы вы падумалі?.. нагою. Не вялікая-б яшчэ бяда, каб не надарылася якраз-жа ў гэтай часіне як з-пад зямлі зьявіцца самому "воку". І ўявіце сабе абурэньне, калі ўбачыла яно, як "попирают ногами" вышэйшы сымбаль партыі. Нічога для яго не азначалі перапрошаньні й шчырае ў той момант замяшаньне й шкадаваньне, што такое здарылася, з боку Кастуся. Факт стаўся адразу ведамым дырэкцыі. Гэтая апошняя змушаная была дзеля гэткае, здавалася-б, драбязы зьбіраць сход.

На сходзе, пасьля паведамленьня аб учарашнім выпадку й доўгіх славесных рэляцыяў "пільнага вока", якое быццам-бы ад узбуджань-

ня цэлую ноч ня спала... (Кастусь разумеў... данос пісаў), вінавайцу нічога не заставалася рабіць, як каяцца, прызнавацца да вялікае віны. Хоць не прызнаючы ніякіх злосных сьведама-варожых намераў, Кастусь мусіў, аднак, вызнаць за сваім учынкам вялікую шкоду дзяржаве й сацыялістычнаму ладу, і што аб'ектыўна гэта было выгадна розным варожым элемэнтам унутры й звонку краіны.

Ці магчыма было-б яму працаваць у гэтай установе далей, — нямаведама, бо гэта здарылася наконадні ўжо даўно прадбачанай ліквідацыі таго Інстытуту. Выробленая ўжо даўно навуковымі заслугамі Кастуся апінія ў дырэктара памагла яму перайсьці на падобную працу ў іншы навукова-дасьледчы Інстытут Школаў.. Але й там яго не пакідаюць ў адзіноце. Адразу-ж да яго часта стаў чапляцца з living рознымі палітычнымі пытаньнямі бібліятэкар Інстытуту, малаасьвечаны, цалкам у палоне савецкае дактрыны чалавек. Заўважыўшы неахвоту Кастуся да размовы, ён зьмяніў тактыку. Штораніцы, перад пачаткам працы ў вялікім пакоі, праз які хадзілі ў бібліятэку і ў якім працавала колькі навукоўцаў, той пачаў заводзіць гутаркі аб палітычных падзеях. Стараўся ўзьняць тэму й чакаў пачуць адказы. Бальшыня, не навучаная яшчэ дасьведчаньнем, якім валодаў Кастусь, ахвотна ўлучалася ў дыскусіі й перасыпала словамі з пустога ў парожнае. Кастусь у такі час маўчаў. Ён уважліва раскладаў кнігі й паперы й, утарапіўшыся ў рукапіс перад ім, быццам і ня чуў гаворкі, якая яшчэ доўга, аж да прыходу загадчыка аддзелу або выпадковага наведаньня дырэктара, лілася бясконцым цуркам. Сапраўды, цяжка было часамі ўстрымацца ад таго, каб не зрабіць і сваю заўвагу. Але як не падсядаў да яго бібліятэкар, якім жэўжыкам каля яго ні завіхаўся, як ён ні прабаваў выцягнуць слова ў Кастуся, усё дарэмна — той маўчаў, як вады ў рот набраўшы.

— Даражэнькі, часу ня маю, другім разам, — ухіляўся, звычайна, ён, загадзя ведаючы, што доўга яшчэ прыдзецца тому чакаць гэтага другога разу.

Асабліва асьцярожным стаў Кастусь, калі заўважыў, што ведамае яму з ранейшага Інстытуту "вока" пачало наведваць час-ад-часу бібліятэку гэтага Інстытуту, доўга аб нечым радзіцца з бібліятэкарам сам на сам.

— Пэўна-ж, не забываюцца й на маю грэшную душу, — думаў Кастусь, — усё абмяркоўваюць, як лепш у хітра-сплеценую сетку злавіць.

— Не здавайся, Кастусь, трымайся! — падбадзёрваў ён сам сябе. — Не давай гаду еміны, каб менш было выраблена атруты ў ягоным джгале.

І як ні кіпела абурэньне ў яго ў нутры, як ні хацелася яму часамі выказаць гаду ўсё, што набалела ў ягоным сэрцы, назваць іх назовам, на які яны толькі заслужылі, як ні было цяжка стрымліваць у сабе жаданьне даць зразумець ім іхнае брыдкае, нізкае й нягоднае становішча сэксотаў, адылі навонкі ён захоўваў сябе спакойна й з усімі быў роўна ветлівым і абыходлівым.



Ох, каб ведалі яны, якім полымям нянавісьці палыхала ўсё ягонае нутро, калі ён бачыў вакол сябе цэлую зграю вольных ці нявольных кавалёў свайго лёсу. І якой асалодаю й шчасьцем было-б яму кінуць ім у вочы словы асуду за іхную нездатнасьць зразумець высокую годнасьць чалавека, і за іхную ролю адмаўленцаў волі й права чалавека гаварыць і жыць, як душа загадуе. Але...

Усе, усе мы носім маскі,
Нат дома сьцінуць баімося.
Да сьлёз сьмяёмся ў вечар майскі,
Да сьлёз сьпяваема ўвосень...

Таму прыходзілася стрымліваць сябе амаль шточасіны й рабіць выгляд зусім ляяльнага чалавека, якому ўсе антынародныя мерапрыемствы ўраду быццам дадушы, як дадушы ўся гэтая сыстэма асокі, здрадніцтва й выведваньня пра сяброў, жонак, мужа, каханых, родных...

Прыгадалася Кастусю, як у "Доме Вучоных", дзе ён знаходзіў да часу ціхі прытулак для свае зморанай душы, да яго нешта пачала аж надта прыліпаць тамашняя сакратарка-бібліятэкарша, — маладая, прыгожая, высокая, паўнагрудая дзяўчына. Магчыма, што там не абышлося без ейнага асабістага захапленьня. Аднак, ейныя ўпорыстыя прэтэнзіі на Кастусёву ўвагу, ейныя неаднойчы паўтараныя напаміны танцаваць зь ёй на ігрышчах, гульня вачэй і ўрэшце прапановы астацца зь ёю ў "Доме" на ўсю ноч, выклікала ў Кастуся сумлеў, ці ня было й тут якога другога пляну, пагатоў, што папярэдняе дазнаньне, што да ролі бібліятэкараў, падказвала яму быць асьцярожным.

Думкі Кастуся ізноў перанесьліся ў ягоны Інстытут. І прыгадалася яму цяпер, як урэшце такі ён вынайшаў легальны сродак дапячы штатнаму даношчыку, — згаданаму завадатаю ранішніх палітычных гутарак. У Інстытуце ня было літаратараў, а выпусьціць насьценную газэту, хоць і зрэдку, надта-ж жадалася дырэкцыі. Каго-ж выбраць у рэдакцыйную калегію, як ні Кастуся? Зарэкамандаваў сябе як пісьменны чалавек, асьвечаны навуковец. Рабіў рэфэраты на літаратурныя тэмы да розных угодкаў. Вось і выбралі.

Набліжалася якоесьці савецкае сьвята. Усе ўстановы рыхтаваліся да ўрачыстасьці. Не меў быць апошнім і Інстытут. Дырэкцыя папрасіла Кастуся выдаць насьценную газэту да ўрачыстага вечару ў Інстытуце. Кастусь згадзіўся й хутка арганізаваў матэрыял. Частку напісаў сам, а частку папрасіў напісаць іншых людзей. Але-ж трэба як ажывіць... ну, хоцьбы карыкатураю з жыцьця Інстытуту. Кастусь знайшоў мастака й падаў яму ідэю. Колькі куплетаў да сатырычнага малюнку склаў сам. У іх падаваліся сумысьле перакручаныя факты з апошняга палітычнага міжнароднага жыцьця, але гэтак, што кожны, прачытаўшы не ўстрымоўваўся ад сьмеху. Была там і добра ведамая фігура менаванага бібліятэкара зь вялікім галасьнікам, у які ён выгуквае перад зьбянтэжанымі супрацоўнікамі Інстытуту штораніцы

 

пераблытаныя ў ягонай галаве ведамкі. Можаце сабе ўявіць гнеў і злосьць гэтага чалавека, які быў паказаны ў гэтай сатыры. Кастусь наўмысьля сачыў ягоны выгляд, каб бачыць яго ў часіну, калі той спыніўся ля насьценнае газэты й пачаў чытаць. І мусіць гэта яго не кранула-б так глыбока, каб было толькі пра якія-небудзь ягоныя асабістыя якасьці або заганы. Але-ж не! Гэта-ж чалавек службу выконваў, а яго гэтак сьмела выводзяць на сьмех людзям...

Тут ужо абраза зьмяшалася з гонарам адданага служакі. Выгляд ягоны зьбялеў, ён адвёў галаву ў бок і тут спаткаў вясёлы бясклапотны пагляд самога Кастуся. Той спакойна спаткаў ягоны позірк, вытрымаў яго ды ў адказ як-бы засьвяціўся бляскам задавальненьня й салодкай помсты, зразумелай толькі бібліятэкару. Цяжка сказаць, ці мог ён у гэтую часіну здагадвацца, што ягоная роля ня ёсьць ніякай таямніцаю Кастусю. Ясна толькі, што ненасытным жаданьням помсты ён загарэўся ад гэтага ўдвая, бо ў ім ужо загаварылі адразу двое, — абражаны чалавек і прыніжаны службовец.

Ведаў Кастусь, што не спадзявацца яму цяпер дабра, хоць не спадзяваўся яго й раней. Быў пэўны, што яму не даруе. Аднак, гэта быў адзіны магчымы й войстры спосаб хоць чым адказаць на тую мышыную сумятню, якую рабілі вакол яго гэтыя людзі.

Неўзабаве ён пераканаўся, што асока яго яшчэ ўзмоцнілася. Ужо й сам парторг Іістытуту, які дзеля выгляду таксама й у гэтым Інстытуце займаў пасаду навуковага работніка, хоць навуковае працы ад яго ніхто й на гарэлы шэляг ня бачыў, пачаў часьцей пераймаць яго на дарозе ды маніцца йсьці разам ці то ў рэстаран палуднаваць, ці так куды. Часьцей стала каля яго завіхацца й ягоная заступніца, гэтак сама ілжэ-навуковая работніца Інстытуту.

І трэба сказаць, што зь ёю яму не пашанцавала, — ізноў даў маху й зрабіў памылку. Гэта было на нейкім літаратурна-грамадзка-палітычным вечары, на якім прафэсар Вальфсон, вульгарызатар і дэмагог, колішні пагромшчык беларускай культуры ў 1930-36 гадох, гэтак расьпінаўся супраць нямецкага фашызму, як пагрозы міру. А было ўжо гэта ў сакавіку 1941 году, калі ўжо другі год саветы не казалі нічога дрэннага пра нямецкіх нацыстых, бо гэта было забаронена паводле мірнае ўгоды аб ненападзе ад жніўня 1939 году.

Жадаючы дапячы Вальфсону, як ворагу беларускае культуры, Кастусь не знайшоў нічога лепшага, як у гутарцы з тэю "супрацоўніцай" сказаць, што Вальфсонавы рэляцыі супраць фашызму не адпавядаюць палітыцы савецкай улады, бо, паводле ўмовы, крытыка нямецкіх фашыстаў недапушчальная.

Тая толькі коса зірнула на яго, бліснуўшы сваймі злосна вірлаватымі вачыма. Праўда, не выказалася супраць Кастусёвых довадаў, бо сама ня ведала пэўна, ці гэта ўжо пара настала на крытыку немцаў, ці не, ды баялася, каб як ня лучыць із сваёй артадаксальнасьцю без пары самой у якую палітычную пастку ды ня збочыць у "ўхіл". А гэта ёй было страшней самога Люцыфера. То-ж пра гэткіх было напісана:



Іду дарогаю каля слупоў,
Каб ня ўхіліцца ўлева ці ўправа.

Але, змоўчыўшы, яна пэўна-ж занатавала ў памяці Кастуся, як абаронцу фашыстаў і, няма сумлеву, давяла да ведама адпаведныя дзейнікі.

І чым больш успамінаў Кастусь у гэты памятны дзень па дарозе дамоў, тым больш прыгадваў факты сваёй апошняй дзейнасьці, якія маглі-б зьявіцца падставай, каб зрабіць яго палітычна ненадзейным і паднаглядным нат незалежна ад ягонага мінулага выгнаньня.

Дарма, што траха ніхто ня ведаў ягонае мінуласьці й, яна, здавалася, нічым ня засьціла яму цяпер.

І без яе, як выявілася цяпер Кастусёвай сьведамасьці, было даволі, каб некалі перапоўніць кубак ведамкамі палітычнага нагляду й кінуць яго ізноў у даўно ўжо знаёмыя яму каменныя скляпеньні.

Яму прыгадаўся яшчэ адзін факт, — ягоны рэфэрат у Інстытуце ўсяго колькі дзён таму назад, — 18 чэрвеня, у дзень чарговых угодкаў сьмерці Максіма Горкага, калі ён перад даволі вялікай аўдыторыяй зь вялікім лікам запрошаных гасьцей выступіў з доўгім дакладам пра М. Горкага, як гісторыка расейскай літаратуры. Ён ня меў магчымасьці выступаць на беларускія тэмы дзеля свае мінуласьці й небясьпечнасьці лучыць у лік беларускіх нацыянальных дэмакратаў-контрэвалюцыянераў. Таму ён абраў, здавалася-б, бяссумлеўную з гледзішча ідэялёгіі тэму — М. Горкага, скарыстаўшы надоечы надрукаваныя Інстытутам Сусьветнай Літаратуры імя М. Горкага ў Маскве канспэкты лекцыяў, што калісьці, яшчэ да рэвалюцыі гэты пісьменьнік чытаў у школе на абтоку Капры ў Італіі. Матэрыял даваў багата падставаў пакрытыкаваць сучасных сацыёлягаў-вульгарызатараў савецкага літаратуразнаўства, і спрытна прыхавацца пад бясспрэчны ў Саветах аўтарытэт М. Горкага.

Каб умеру прыціснуць вульгарызатараў савецкай і дакастрычніцкай літаратуры, Кастусь уважаў за патрэбнае прачытаць словы Леніна зь ягонага артыкулу "Леў Талстой, як люстра расейскай рэвалюцыі", дзе пісалася, што Талстой не разумеў рэвалюцыі, ейных мэтаў, рухаючых сілаў, нават сьведама адхінуўся ад яе, аднак, перайшоўшы на гледзішча расейскага селяніна й адлюстроўваючы ягоную псыхалёгію, міжволі, згодна з пачуцьцём вялікага мастака, адлюстраваў працэсы насьпяваньня гэтае рэвалюцыі, адбіў ў сваёй мастацкай творчасьці вялікія зрухі ў народнай псыхалёгіі, паказаў, наўсуперак сваім дваранскім перакананьням, цэлую эпоху ў жыцьці ўсіх пластоў тагачаснае Расеі.

І Кастусь з асаблівым націскам прыцягнуў увагу слухачоў да думкі ў згаданым артыкуле пра тое, што вялікія мастакі ня могуць не адмаляваць свае эпохі, дарма што й яны часта ў палоне застарэлае ідэялёгіі. Эпоха, як у люстры, знойдзе сваё адлюстраваньне, калі яны сапраўды вялікія мастакі.

Гэта ўжо гучэла апраўданьнем мастакоў-пісьменьнікаў, прасьлед-



 

ваных за ўяўную несугучнасьць савецкай ідэялёгіі. Рэфэрат выклікаў буру воплескаў у чулае аўдыторыі. Новы заступнік дырэктара Інстытуту, відаць яшчэ мала зарыентаваны й неасьведамлены ў тым, што тварылася за кулісамі, пасьпяшаўся выступіць ад імя дырэкцыі (ці не занадта адказна ў адрас беспартыйнага?!) і ад імя партыйнае арганізацыі з падзякай і пажаданьнем хутчэй убачыць працу надрукаванай у сэрыі навуковых выданьняў Інстытуту.

Маўчалі толькі колькі лічаных асобаў. Сярод іх усе тая-ж супрацоўніца, што ўжо даўно падазрона завіхалася каля Кастуся. Адразу-ж пасьля рэфэрату, калі ўсе разыходзіліся, яна падышла да Кастуся й выказала сумлеў, каб у Леніна былі гэткія думкі й пісаньні. Кастусь паабяцаў заўтра-ж прынесьці кнігу выбраных ленінскіх твораў у пытаньнях літаратуры й паказаць ёй. Назаўтра-ж гэта й зрабіў. Доўга яна ўглядалася вачыма ў выразны друкаваны тэкст, перабягала з балонкі на балонку, ліставала, углядалася на вокладку. Але нічога ня было супраць Кастуся. Гэта было найноўшае выданьне таго-ж году. Чорным на белым на вокладцы віднелася: "Издательство социально-политической литературы. Москва - Ленинград, 1941 г."

Ня маючы чым супярэчыць, моўчкі зьвярнула яму кнігу й, як кажуць, "зацерла" гаворку. Але й тут Кастусь заўважыў нядобры агеньчык у ейных вачох і падумаў:

— Ой, быць хмарам над маёй беднай галавой некалі. Яна нічога не забудзе й ніколі нічога не даруе.

Акрамя таго, заўважыў Кастусь сярод аўдыторыі колькі асобаў, якія ўжо даўно прыглядзіліся яму, як якіясьці падазроныя ў сэньсе належнасьці да ведамых органаў. Ніякага дачыненьня да якое навукі ці навуковых або хоць-бы такіх школьных установаў яны ня мелі. Аднак, нешта апошнімі часамі зачасьцілі яны на сходы нашага Інстытуту. Ніхто іх ня пытаў, чаго яны тут, хоць магчыма дырэкцыя ды каму гэта трэба было й ведалі іхныя правамоцтвы быць тут. Яны ня выказваліся, ня пляскалі ў далоні, гэта рабілі іншыя. Іхныя твары не выказвалі ніякае думкі або зацікаўленасьці. Яны сядзелі як нейкія жывыя муміі.

Кастусь лёгка здагадваўся аб іхных мэтах. Фіксаваць усё, што адбываецца, як той кінаапэратар, што з поўнай абыякавасьцю здымае ўсё, што паўстае перад ім.

Яны адновяць, дзе трэба, бачанае й чутае, і яно пойдзе на аналіз ужо іншым фахоўцам свае справы, а тыя ўжо вылавяць дух апазыцыі, хоць-бы сабе гэтага духу ня было там і званьня.

— Божа мой, які-ж я быў неасьцярожны! — падумаў, ідучы дамоў Кастусь. — А я спадзяваўся, што цяпер мяне ніякі ліхадзей на нічым ня зловіць. Эх, якім-жа я наіўным дзіваком усё-такі застаўся, — выснаваў ён, калі ўжо набліжаўся да Траецкага мосту, не заўважыўшы ў спагадах калі й як мінуў Ніжні Рынак і зьвярнуў на сваю Стара-Віленскую вуліцу.

— Аднак ад ліха ўсё адно не ўсьцеражэшся, — падумаў ён і ўспомніў словы гэроя паэмы "Калі асядае муць", якой, свайго часу, хлапцом, бадай што захапляўся:

Ходзім мы пад месяцам высокім
Ды яшчэ пад ГПУ.

— Ні я першы, ні я вапошні былі й будзем ахвярамі гэтае ненажэрнае крывавае ўстановы. Уцякаць — куды? Свайго часу, у 1932 годзе, калі заўважыў асоку, зьбег у Маскву, каб згубіцца ў вялікім натоўпе, аднак не надоўга, — знайшлі й адтуль прывезьлі ў менскія скляпеньні так званае "Амэрыканкі".

— Хіба можа гэтым разам удасца? А можа яшчэ ліха й абміне — усяк бывае.

А можа гэта я перабольшваю небясьпечнасьць? Можа на мяне яшчэ справы не завялі, а толькі першыя крокі нагляду робяцца? І за што-ж мяне могуць абвініць? Ні зь кім не сябрую, акрамя аднаго, але-ж ці гэта ім ведама, калі-ні-калі, раз на месяц даведаюся да яго хаты на самай ускраіне гораду?

А за гэтым — ані кога блізкага знаёмага, зь кім-бы душу адвёў. Заўсёды на людзях адзін, як тумарнік які. А ўрэшце, ліха іх ведае, чым яны кіруюцца пры сваіх азначаньнях ахвяраў. Пачакаю — пабачу, куды падзеі павернуцца.

Трэба перагрываць, церпяліва астояць усю гэтую муць, можа яно неяк пераграэцца, а там, глядзі, які дзіў здарыцца, — як-бы казаў сам сабе ён, злавіўшы сябе на слове дзіў, і запыніўся. І не таму прыйшло цяпер гэтае слова, што ён верыў у якіясь дзівы ці чакаў іх, а проста азначыў гэтак свае спадзяваньні на інакшы лад у сваёй краіне.

— Мусіць-жа некалі скончыцца гэтая пякельня... Няўжо наш народ асуджаны на вечнае пекла? Не, ня веру. Мусіць-жа "заглянуць сонца і ў нашае ваконца".

Навіна пра вайну недзе глыбака ўнутры ўзбудзіла неакрэсьленыя надзеі на зьмены. Але якія гэта могуць быць зьначаньні, ён сабе ня мог сказаць. Нямаведама, як укладуцца падзеі й які палітычны кірунак прымуць новыя рухі. Адно было бяспрэчным — хацелася, каб народ вальней уздыхнуў, здабыў сабе людзкія правы гаварыць і думаць, што хоча, выбіраць сабе ўрад, які захоча, назначаць над сабой урадаўцаў, непасланых чужынцамі, а абраных сваёй-жа выканаўчай уладай, вольна будаваць сваё дзяржаўнае й культурнае жыцьцё ў родных нацыянальных формах і кірунках.

І пэўна-ж, каб у гэтую часіну ў яго, праз усё жыцьцё беспартыйнага, спыталіся, каго-б ён хацеў бачыць вернутым да творчага жыцьця, дык ён, мусіць, ня доўга думаў-бы, каб сказаць: "нацдэмаў!".

Усе яны яму ўяўляліся бязьвіннымі ахвярамі паліцыйнага тэрору, і ўсе заслугоўвалі на неадкладны зварот на Бацькаўшчыну для дабра народу.

Кастусь памкнуўся быў аддацца ўзьнёслай плыні салодкага лятуценьня аб будучай вольнай Беларусі, як раптам, ужо амаль што каля самае брамкі ягонае хаты хуткі бег ягонае думкі й хаду пера-

пыніў Стась Савіцкі, загадчык аднагадовых настаўніцкіх курсаў. На гэтых курсах колькі дзён на тыдзень увечары Кастусь даваў лекцыі расейскай граматыкі дзеля прыработку да ягонай невялікай, зусім недастатковай для жыцьця, платы, якую ён атрымліваў у сваім Інстытуце.

Станіслаў быў тыповы мешчанін зь Менскае Старажоўкі, свайго часу атрымаў асьвету й, як і ўся беларуская моладзь пэрыяду 1920-1930 гадоў, быў ахоплены ўплывам беларускага адраджэнскага руху. Аднак відаць ня глыбока запаў яму ў сэрца агонь нацыянальнага ўздыму, бо адразу пасьля арышту ў 1930-ым годзе ён скарыўся, пісаў каятныя заявы, узводзіў блуд на іншых, выдаваў на загад сьледчага ўсіх і ўсё, і, нарэшце, згуляўшы ролю правакатара, атрымаў сваю порцыю — 5 гадоў адміністрацыйнае высылкі ў ня гэтак далёкую эўрапэйскую частку СССР. Калі ён вярнуўся ў 1935 годзе, дык яму адразу ўдалося якімсьці чынам здабыць права быць прапісаным у Менску, чаго амаль ніхто з тых, што адбывалі кару засланьня або ўвязьненьня ў далёкіх лягерох, не атрымліваў, паводле савецкага закону аб пашпартызацыі.

Затое ён, таксама быў удзячны ўладам і ня грэбаў нічым і нікім, каб апраўдаць сваю годнасьць сталага інфарматара.

Тым больш, што пэўныя дзейнікі ахвоча карысталі службай “былых контрарэвалюцыянераў”, як такіх, якіх менш высьцерагаецца насельніцтва й да якіх шмат хто можа мець давер, як да свайго такога-ж, што зазнаў пакуты й перасьлед. І пэўна, служыў ён рупна, калі вось ужо шосты год жыў у Менску, хадзіў у ўстановы, займаў пасаду й ня быў яшчэ ізаляваны, як небясьпечны элемент, былы высыльны.

Нямаведама колькі асобаў ён загубіў перад тым, як яго ў канцы мінулага году пазнаў Кастусь. Аднак, на ягоных вачох, ён нешта аж надта часта пачаў наведваць аднаго добрага беларуса, загадчыка навучальнае часткі былога Інстытуту павышэньня кваліфікацыі кадраў народнае асьветы, у якім тады Кастусь таксама працаваў. І ўжо нешта занадта кідалася ў вочы, што ён усё падсядаў да таго, — як кажуць, бяз мыла хацеў у сваякі ўлезьці.

Вось-жа вынік не забавіўся прыйсьці. Аднае раніцы ў Інстытуце стала вядомым, што загадчык навуковае часткі быў арыштаваны арганамі НКВД.

Зь вясны нешта пачаў ён надта начэпна й да Кастуся са сваімі размовамі пішчом лезьці. Ці то ў канцы лекцыяў дзе-небудзь у гардэробе напаткае ды абавязкава просіць пачакаць, каб ісьці разам дамоў. Зыходжаньне тут было сапраўднае — абодвы жывуць у адным канцы гораду, Старажоўскім раёне.

Кастусю часта ўдавалася ўхіліцца ад запрашэньня або змыцца раней, але выпадала, што й разам мусіў ісьці. І тады пачыналася спрэчка пра тое, ехаць трамваем ці ісьці пехатой. Савіцкі заўсёды ўгаварваў ісьці пехатой, каб больш пагаварыць. Кастусь — наадварот, але не заўсёды ставала аргумэнтаў, каб давесьці сваё. Вымогі



ветлівасьці да свае ўлады- дырэктара змушалі часамі схінуцца, хоць і ведаў, што не на дабро ягонае ўсё гэта...

Аднаго разу чуць ня сіламоц упёрся, каб зайсьці дахаты да Кастуся. Пазьней і сам без запросінаў колькі разоў даведваўся. Усё казеліўся на кнігі на Кастусёвым стале. Але досыць было абеглага погляду, каб пераканацца, што на тым стале было толькі агульна-дазволенае, што ня будзіла ніякага сумлеву або падазрэньня.

Вось-жа, даведаўшыся колькі разоў, ён усё спадзяваўся засьпець, як кажуць, на месцы злачыну. Але дарма — на стале нязьменна ляжалі ўсё тыя-ж самыя найноўшыя расейскія, маскоўскія выданьні пераважна ў пытаньнях расейскае мовы — Шахматаў, Буслаеў, Багародзіцкі, Вінаградаў, Бархудараў, да якіх ён і сам быў вялікі аматар, бо на гэтых-жа курсах, акрамя загадваньня, выкладаў расейскую мову. Ня гэтых кніжак ён шукаў вачыма, і ня іхны адбітак у думках Кастуся ён стараўся ўлавіць у размовах зь ім.

Не, ён шукаў праявы тога волатаўскага беларускага духу, які кіраваў тысячамі Беларусаў у іх пасыўным і нявымоўным змаганьні за родную, беларускую справу. Яму трэба было даведацца пра сувязі, знаёмствы, сяброўствы, кантакты. Толькі гэта магло зьявіцца ўдзячным матэрыялам для тых, каму ён служыў і перад кім ён шукаў апраўданьня.

Адылі Кастусь як-бы неўзнарок стараўся гаварыць зь ім толькі на непалітычныя тэмы — пра купаньне за горадам у Сьвіслачы, пра лоўлю рыбы, пра прыгожыя кінафільмы. Дарма, што той стараўся зьвесьці гаворку да палітыкі, Кастусь тактоўна й незаўважна ізноў зварочваў гутарку на пагляд прыгаства навакольнага жыцьця. Напошку, Кастусь спасылаўся на стомленасьць і патрэбу адпачынку, і тады яны разыходзіліся.

Гэтым разам Савіцкі, узрушаны навіной пра вайну, а можа атрымаўшы спэцыяльныя інструкцыі што да асобы паднагляднага, неяк асабліва жвава й рэзка рушыў да Кастуся.

— Добры дзень! — гукнуў ён на ўсё горла яшчэ здалёку. — Я вельмі рады бачыць вас. Ці чулі? — уставіўся ён у вочы, падыходзячы да Кастуся. Ягоны твар сьвяціўся асаблівай цікавасьцяй.

— Добры дзень, таварыш Савіцкі! — праз зубы працадзіў Кастусь. — А што такое здарылася? Я нічога ня чуў! — наўмысна злосна дадаў ён, як-бы даючы ведаць, што ён зусім цяпер не ахвочы да пераліваньня з пустога ў парожнае.

— Ня чулі? Няўжо ня чулі? — мала не пракрычэў прарэзьліва Савіцкі й ягоны твар аж выцягнуўся ад зьдзіву. — Ды якраз паўгадзіны назад Молатаў па радыё казаў, няўжо вы ня слухалі?

— Не! Ня слухаў, ня меў нагоды, — сьцюдзёна й спакойна, з павагай да сябе адказаў Кастусь.

— Ну, дык вы й ня ведаеце, што там было абвешчана?

— Не, ня ведаю, калі ня слухаў, — ізноў штучна сьцюдзёна казаў Кастусь.

— Ай-яй-яй, дык гэта-ж ужо ўсе людзі ведаюць!

— А я ня ведаю, даруйце мне!
— Дык гэта-ж ужо вайна! А вы й ня ведаеце?
— Вайна? Не кажыце дурноты, таварыш Савіцкі, ато яшчэ падумаю, што правакацыяй займаецеся.
— Якая правакацыя? Сам Молатаў казаў. Ужо цэлае паўдня, як баі адбываюцца, — пачаў відавочна хвалявацца Савіцкі.
— Зь кім-жа вайна? Зь немцамі?.. Але гэта-ж немагчыма. Не, таварыш Савіцкі, гэтага ня можа быць. Хіба вы не памятаеце, як колькі дзён таму ТАСС афіцыйна зьняпраўдзіў чуткі пра прыгатову немцаў да вайны. То-ж вы, спадзяюся, чыталі газэту зь менаваным паведамленьнем! Ці можа вы ня чытаеце афацыйных урадавых паведамленьняў, таварыш Савіцкі, га? — яўна наступаючы, станоўча пытаўся Кастусь.
— А як-жа, чытаў, чытаў! — спалохана пачаў шапятлявіць Стась Савіцкі.
— Я ўсё чытаю! — неяк недарэчы сьмешна пачаў ён апраўдвацца.
— Але, чытаць то я чытаў, ды цяпер сам таварыш Молатаў казаў у адумысловым паведамленьні. Гэта было роўна а 12-ай гадзіне. Нямеччына злачынна нарушыла ўмовы пагадненьня й сёньня а 4-ай гадзіне раніцы напала на наш мірны край. Ужо бамбардуюцца нашыя месты, ідуць зацятыя бітвы. Нашыя доблесныя байцы адбіваюць атакі крыважэрных фашыстаў, — сьпяшаўся ўсё выгаварыць і тым самым як-бы абясшкодзіць магчымыя дакоры ў ідэялягічнай нявытрыманасьці ды аж успацеў бедны Савіцкі.

Тут ён на часіну забыўся быў на сваю беспасярэднюю мэту наступіць на Кастуся з цэлым войрахам пытаньняў і заміж агрэсіі неўспадзеўкі перайшоў да абароны. Кастусь з задаваленьнем зацеміў удаласьць свайго манэўру ды пачаў гаварыць лагадней.
— Дык гэта ня жарты, а я думаў...
— Што вы, што за жарты такім часам!
— Дык, значыцца, сапраўды вайна?
— Ды вайна, вайна, кажуць-жа вам, пэўна вайна, — аж віскануў той ад зразуменьня, што наапошку такі даходзіць, і ён можа пачуе Кастусёў камэнтар.

Але Кастусь і далей быў негаваркім. І толькі разважліва, дзеля ідэялягічнае прафіляктыкі са свайго боку, дадаў:
— Ну, дык будзем ваяваць, калі вайна.
— Фашысты будуць зьнішчаныя й выкінутыя за межы нашага краю, — скончыў Савіцкі больш манючыся пачуць Кастусёву думку пра гэта.
— Калі вы кажаце так, дык пэўна-ж будуць выкінутыя й зьнішчаныя, — згадзіўся Кастусь. — Толькі давядзецца ўсім ісьці на фронт і ваяваць, і вам таксама! — падчыркнена скончыў Кастусь, ізноў наступальна гледзячы проста таму ў вочы.
— А я й не кажу адваротнага, — замітусіўся Стась Савіцкі, заўсёды пачуваючы сябе зьбітым з панталыку, калі заміж плянаванага ім наступу на аб'ект, ён сам рабіўся мішэняй абстрэлу.



— Я заўсёды гатоў, — дадаў ён і зьбянтэжана змоўк.
— Ну, дык і будзьце гатовыя! — сказаў Кастусь, употай дадаўшы:
— "Уцякаць, падмазаўшы пяткі, да свайго роднага таткі... Памялом вам дарога!"
— Бывайце здаровы, — працягнуў ён руку Савіцкаму так неўспадзеўкі, што той не знайшоў, чым яшчэ прыдзержаць каля сябе Кастуся й мусіў неяк мэханічна, супраць свае волі, таксама падаць яму сваю руку. На тым гаворка скончылася, і кожны падыбаў у свой бок.
Кастусь за колькі часінаў адчыняў весьніцы свайго дому.
— І прынесла-ж гэтую немарач такім часам, як насланьнё якое. Час такі, што, здаецца, доля кожнага зусім зьначыцца, а гэты Савіцкі, як той накручаны гадзіньнік, усё яшчэ аддае сваё старое даўно абрыдлае да сьмерці рыпеньне. Прападзі ты пропадам! — сказаў ён і злосна плюнуў.
Толькі тут ён цяпер заўважыў, як сонца, быццам у печы, нагрэла брукаваны панадворак. Яно стаяла проста над галавой. Толькі невялічкі цень каля самае хаты сьведчыў, што яно ледзь-ледзь сьхінулася ў бок ад простастаўнага над галавой стану. Трава пад плотам, бацьвіньне на гаспадынінім гародчыку, лісьцё на дрэвах абвісла ад гарачыні й хіба спарылася. Ветрык ня кратаў яго. Духата валодала ўсім. І толькі ў сенцах-прыбудоўцы Кастусь адчуў асалоду ад халадку, якім яго абдало, быццам сьцюдзёным душам Шарко.

## 2. ТОЙ ПАМЯТНЫ ВЕЧАР

Другая палавіна дня аж да вечару не пакінула ў памяці Кастуся нічога выразьлівага. Тая-ж няпэўнасьць чаканьня магчымых пераменаў і навінаў панавалі скрозь — і ў хатах, і на вуліцах, і сэрцах людзей.
Неяк падвечар Кастусь выбраўся прайсьціся местам, каб ухапіць ягоны абраз у гэты першы вечар, калі вайна яшчэ не кранула яго беспасрэдна. Яшчэ пакуль што ён не зазнаў ні бамбардаваньня, ні фронтавых баёў. Аднак ваенная небясьпека дзесь прыхавалася моўчкі й нябачна выглядае, каб неўзабаве ашчэрыцца ўсімі сваімі страхамі.

(працяг будзе.)

---

Міхась Белямук (ЗША)

## У СПРАВЕ БРАШУРЫ

(Рэцэньзія)

Летась, 1983 году, выйшла брашура на 42 балонкі Леаніда Галяка, — «Паходжаньне літоўскіх князёў». Месца выданьня не пададзена.
Здаецца, што Аўтар брашуры ня быў зацікаўлены дасьледаваньнем Панёманьня, дзе Вялікае Княства Літоўскае фармавалася ў XII-XIII стагодзьдзях, але

вывучэньнем гісторыі, культуры, міталёгіі, абычаяў і звычаяў скандынаваў.

Аўтар дакладна апісаў скандынаўскую экспансію ў Польшчы й Захадняй Эўропе, каб на балонцы 15-ай асьведчыць: «У дакладней неазначаным часе, магчыма неаднаразова, нейкая скандынаўская група, магчыма зьбліжаная да групы, што пазьней (разьбіўка — М. Б.) зарганізавала кіеўскую дзяржаву Русаў, увайшла з Балтыцкага мора ў Нёман... й пачала паступова пасоўвацца ўгару ракі й яе прытокаў, падпарадкуючы мясцовае жамойдзкае насельніцтва». Чаму не сказаць, у якім стагодзьдзі скандынавы ўвайшлі ў Нёман? Паводле летапісаў, скандынавы зьявіліся ў Кіяве ў 862 годзе. Калі нёманская група скандынаваў была ранейшай за кіеўскую, значыць, яна ўвайшла ў Нёман каля 850 году.

На балонцы 16-ай чытаем: « з увагі на сваю малалікавасьць, а таксама дзеля адсутнасьці скандынаўскіх жанчынаў, моўна магчыма хутка здэнацыялізаваліся, хаця ў поўнасьці захоўваючы традыцыю свайго паходжаньня й свае звычаі... Традыцыя заморскага паходжаньня йснавала ў В. К. Л. ня толькі ў тым часе, калі жыў Гэдымін, Альгерд, але гэтая традыцыя была жывая нават у канцы XVI стагодзьдзя».

Дапусьцім, што скандынавы заваявалі Панёманьне ў IX стагодзьдзі, але ці маглі яны зьберагчы свае традыцыі й звычаі на працягу 700 год, калі былі «малалікімі» й ня мелі сваіх жанчынаў? Пісьмовыя крыніцы пераказваюць падзеі IX стагодзьдзя, што Ладагу, Ізбарск, Пскоў, Ноўгарад, Смаленск, Полацк, Тураў, Пераяслаў і Кіеў апанавалі скандынавы. Праўдападобна, «кіеўская» скандынаўская група ня была малалікавай, а што-ж зь ёю сталася ў пачатку XI стагодзьдзя? Пісьмовыя крыніцы ня сьведчаць, каб на Русі зьбераагліся скандынаўскія традыцыі й звычаі. Скандынавы асыміляваліся зь мясцовым славянскім насельніцтвам у Пскове, Ізбарску, Ноўгарадзе, Полацку, Смаленску, Чарнігаве й Кіяве. Чаму-ж «нёманская» скандынаўская група (калі яна была ў Панёманьні, аб якой пісьмовыя крыніцы ня пішуць) не асымілявалася, але зьберагла свае традыцыі й звычаі да канца XVI стагодзьдзя? Што за прычына? Адказу на гэтыя пытаньні ў брашуры ня можам знайсьці.

Традыцыю «заморскага» паходжаньня з XVI стагодзьдзя нельга разглядаць, як «плынь, якая хацела перайсьці ў В. К. Л. на ўрадавую лацінскую мову. Адзін з прыхільнікаў гэтай плыні, Ротундус, удзельнік рэдакцыйнай камісіі выданьня Статуту 1588 г., выдаў у лацінскай мове хроніку літоўскіх князёў... і ў прадмове да яе напісаў, што самыя Ліцьвіны ахвотна прызнаюць, што яны ёсьць... лацінскага паходжаньня... З гэтага выказваньня Ротундуса вынікае тое, што шляхта адчувала сваё пачаткова чужое паходжаньне яшчэ ў XVI веку... Зразумела, што ім лепш было паходзіць са слаўнага Рыму, чым ад піратаў- -гандляроў», — чытаем на 16-17 балонках.

Мы ня будзем разглядаць гэтым разам вельмі скамплікаванае пытаньне — Палямон. Пытаньнем гэтым мы зоймемся ў артыкуле «Панёманская загадка». Нас толькі дзівіць, чаму Аўтар гаворачы пра Аўгустына Ратундуса паўстрымаўся сказаць, што А. Ратундус польскага паходжаньня, каталік і лідар групоўкі (ня плыні), якая дамагалася ўвядзеньня ў Вялікім Княстве Літоўскім лацінскае мовы, як мовы ўрадавай. Ён ня «выдаў», але апрацаваў, г. зн., напісаў ня «хроніку», але радаводную князёў літоўскіх. Напісаў прадмову не «да хронікі», але да II-га Статуту, перакладзенага ў лацінскую мову А. Ратундусам. У прадмове настойліва прапаноўваў Сьцяпану Батураму замяніць беларускую мову лацінай. Ён быў кракаўскім мешчанінам і закончыў юрыдычны факультэт у Кракаўскім і Вітэнбэрскім унівэрсытэтах. Жыгімонт Аўгуст зрабіў А. Ратундуса сакратаром, а ў 1552 годзе дамогся ад віленскіх мяшчан, каб А. Ратундус стаўся віленскім войтам. Будучы доктарам права, віленскім войтам і добра знаёмым Жыгімонту Аўгусту, А. Ратундус увайшоў у склад камісіі па апрацоўцы й выданьню не «III-га Статуту 1588 году», але II-га Статуту 1566 году. А. Ратундус памёр 20. 3. 1582 году. Бяручы пад развагу ягоную асьвету, знаёмства й становішча, А. Ратундус быў уплывовай асобай і дзеля гэтага ён быў лідарам тае групоўкі, якая дамагалася выданьня II-га Статуту ў лацінскай мове. Калі яму не пашанцавала, і II-гі Статут быў выданы ў беларускай мове, А. Ратундус перакладае яго ў лацінскую мову й падносіць у 1576 годзе Сьцяпану Батураму з надзеяй, што новаабраны кароль і вялікі князь адобрыць ідэі А. Ратундуса. Зразумела, ён быў не адзін і пасьля ягонае сьмерці апазыцыя да беларускае мовы існавала. Таму канцлер Леў Сапега ў прадмове да III-га Статуту рашуча асудзіў А. Ратундуса й ягоных староньнікаў.



Такім чынам, каб гаварыць аб «традыцыі заморскага паходжаньня літоўскае шляхты ў XVI стагодзьдзі», трэба сур'ёзна падумаць, ад каго й чаму ідэі гэтыя зьявіліся ў пісьмовых крыніцах.

— * —

У брашуры часта цытуецца «Хроніка Літоўская й Жамойцкая». Яе дасьледавалі беларускія навукоўцы: доктар гістарычных навук Мікола Улашчык і доктар філялягічных навук Вячаслаў Чамярыцкі. Яны прыйшлі да высnаву — аўтар Хронікі карыстаўся Кронікай Мацея Стрыйкоўскага. М. Улашчык у прадмове да «Хронікі Літоўскай і Жамойцкай», гэтак напісаў: «Там, где излагается история Великого княжества Литовского «Кройника» следует за Хроникой М. Стрыйковского, являясь как бы переводом этого произведения. Однако автор «Кройники» пользовался не печатаным текстом Стрыйковского, а его рукописью-переводом... Причем Стрыйковский более достоверен, чем «Кройника». (І, б. 4-5)

Мы зацытуем толькі паховіны Гэдыміна паводле М. Стрыйкоўскага й просім параўнаць з балонкай 26-ай:

"Prowadzili potym do Wilna ciało jego synowie i wszystko rycerstwo, a tam obyczajem xiążęcym według obchodów i obrzędów pogańskich, złożywszy wielki stós smolnej sosniny w tym miejscu gdzie Wilna do Wiliej wpada, grób mu nagotowali, potym gdy się wszyscy siedem synów: Montiwid, Narimunt, Olgierd, Kiejstut, Lubart, Jawnucz, Korjat na ostateczny obchód pogrzebu ojcowskiego zjechali, ubrali go w odzienie i w szaty xiążęce świetne, w których się za żywota sam najwięcej kochał, szablę, włócznią z łukiem, sokołów i chartów parę, konia z siodłem żywotnego i sługę najwierniejszego jego kochanka, związawszy z nim, na stós drew położyli, z wielką żałością zgromadzonego rycerstwa, potym wkoło drwa zapaliwszy, paznokcie rysie i niedzwiedzie na ogień miotali, jako był u nich zwyczaj starodawny, zbroje też i część łupów nieprzyjacielskich i trzech więznów Niemców zbrojnych, żywych z nim spalili". (2, б. 385-386)

У сувязі з тым, што аўтар «Хронікі Літоўскай і Жамойцкай» сьпісаў з «Кронікі» Мацея Стрыйкоўскага абрад паховінаў Гэдыміна, дзеля гэтага паўстае пытаньне, адкуль атрымаў весткі М. Стрыйкоўскі? Аляксандар Рогаў пацікавіўся гэтым пытаньнем. Ён кажа: «Перечисляя вообще свои источники по истории Литвы времени Гедимина, Стрыйковский называет «историков польских, прусских, лифляндских, русские и литовские летописцы...» Подробности же абряда погребения мы не найдем ни в одном из использованых выше Стрыйковским источников... Трудно допустить, что эта картина погребения Гедимина вымышлена Стрыйковским. Может

быть, рассказ этот — произведение литовского народного творчества». (3, б. 164-165)

Л. Галяк, працытаваўшы паховіны Гэдыміна з «Хронікі Літоўскай і Жамойцкай», але нічога ня кажучы пра «Кроніку» М. Стрыйкоўскага й прадмову М. Улашчыка, сьпяшаецца зацытаваць Марыю Гімбутас. Ён кажа: «падаю згодна з ангельскім арыгіналам, каб ня было ніякіх сумліваў у значаньні напісанага». (балонка 26-я)

Разгледзім працу М. Гімбутас «Балты». Яна на балонцы 112-ай (якую Л. Галяк цытуе) апісвае пахавальны абрад з I-га да V-га стагодзьдзяў. У той-жа кнізе «Балты», але на балонках 141-142 яна апісвае пахавальны абрад балцкіх плямёнаў ад V-га да XI-га стагодзьдзяў. Што-ж яна кажа пра гэты пэрыяд? «Прусы прадаўжаюць крэмацыю нябошчыкаў... Судавы (Яцьвягі — М. Б.) з V-га стагодзьдзя запачаткоўваюць крэмацыю... **Летувісы ад інгумацыі пераходзяць да крэмацыі ў VI-ым стагодзьдзі** (падкрэсьлена — М. Б)... Куроны ў VII-ым стагодзьдзі пераходзяць на абрад крэмацыі... Адны толькі Латгалы й Земгалы зьберагаюць інгумацыю».

Л. Галяк на балонцы 27-ай піша: «Палучыўшы цьверджаньне жамойцкай навукоўкі з фактам, што паховіны літоўскіх князёў адбываліся целапальным абрадам праз 1400 гадоў **пасьля таго, як балцкія плямёны пакінулі целапальны абрад** (падкрэсьленьне — М. Б.), робіцца ясна, што літоўскія князі не належалі да балцкай этнічнай супольнасьці... Калі-б нават ня было ніякіх іншых довадаў скандынаўскасьці літоўскіх князёў, дык адзін гэты факт целапальных хаўтураў павінен быўбы выклікаць прынамсі сумліў у балцкасьці літоўскіх князёў».

Значыць (у імя скандынаўскасьці літоўскіх князёў) можна ня браць на ўвагу спасьцярогаў М. Улашчыка, В. Чамярыцкага й А. Рогава. Больш гэтага, Марыю Гімбутас, якая пісала пра зьмену пахавальнага абраду летувісаў у VI-ым стагодзьдзі, можна прамаўчаць, але скарыстаць яе апісаньне абраду з I-га да V-га стагодзьдзяў.

— * —

Скандынаўскім рунам Аўтар прысьвяціў вялікую ўвагу. Адно, што ён ня змог знайсьці помнікаў, напісаных рунамі ў Панёманьні. Адсутнасьць напісаў, выканаfamous рунамі не падмацоўвае, але аслабляе гіпатэзу скандынаўскага паходжаньня літоўскіх князёў. Аўтар дзеля гэтага пачаў прыглядацца да рэчаў, знойдзеных археолягамі ў Панёманьні. Так ён знайшоў паміж горадзенскімі знаходкамі «некалькі пярсьцёнкаў з рунічнымі знакамі», — чытаем на 32 балонцы.

У Горадні знайшлі ня «некалькі», але толькі 2 пярсьцёнкі з значкамі, якія Л. Галяк атажсамлівае з рунамі. (4, б. 179) Калі значкі на пярсьцёнках ёсьць рунамі, то чаму ня ёсьць рунамі знакі на горадзенскай цэгле (4, б. 88, 133-135, 192-194), на цэгле з ваўкавыскіх, слонімскіх і наваградзкіх раскопаў? На 6-ай балонцы Аўтар вырысаваў скандынаўскія руны. Аднак падобныя значкі ёсьць на днішчах посуду, на праслічках, на борцявых дрэвах, на бабровых гонях. Чаму гэтыя значкі ня ёсьць рунамі? Панёманскае жыхарства й жыхарства Усходняе Эўропы значылі ня толькі рэчы, але й жывёлу значкамі, падобнымі да тых значкоў, якія бачым на 6-ай балонцы. Чаму страла на пярсьцёнку ёсьць рунай, а страла на жывёльнай метцы, на дрэве, на жбану, на цэгле й г. д ня ёсьць рунай? Паясьненьня ў брашуры мы ня маем.

Калі залічыць значкі на ўсіх рэчах, на дрэвах, на жывёльных метках або бірках да рунаў, то атрымаем, што сяляне Панёманьня, Падляшша, Валыні, Палесься не забыліся аб сваім «заморскім паходжаньні» нават у XIX-ым стагодзьдзі, бо ў



штодзённым жыцьці карысталіся «рунамі».

Дапусьцім, што горадзенскія пярсьцёнкі з рунамі сьведчаць аб прысутнасьці скандынаваў у Панёманьні. Калі з такой тэзай згадзіцца, то трэба згадзіцца, што манэты, посуд і іншыя рэчы, знойдзеныя ў часе археалягічных раскопаў у Панёманьні, таксама кагосьць рэпрэзэнтуюць.

У Панёманьні знайшлі рымскія, арабскія й заходня-эўрапэйскія манэты. Заходня-эўрапэйскія манэты бітыя ня толькі каралямі й князямі, але арцыбіскупамі й біскупамі Каталіцкай Царквы. Знайшлі ў Панёманьні ракавіны з Індыйскага акіяну, пэрсыдзкую парцэляну, сырыйскія й бізантыйскія шкляныя вырабы, усходняга паходжаньня тканіны, каўказкі крышталь, прычарнаморскія амфары, у якіх прывозілі паўдзённае віно, нафту й аліўкавы алей, культавыя рэчы бізантыйскай вытворчасьці, касмэтычныя пахучыя алейкі. Апрача заходня-эўрапэйскіх манэтаў, знайшлі заходня-эўрапэйскае ваконнае шкло, аздобы, мэталёвы посуд, касьцяное наверсе цэрэманіяльнага крэсла, вадалей, аружжа й іншыя рэчы.

Ці рэчы, манэты, посуд, вадкасьці й тканіны сьведчаць аб прысутнасьці рымлянаў, бізантыйцаў, прычарнаморцаў, каўказцаў, арабаў, пэрсаў, мэклембурцаў, саксонцаў, франконцаў, аўстрыйцаў, памэранцаў і палякаў у Панёманьні да сярэдзіны XIII-га стагодзьдзя? Да гэтай мазаікі трэба дадаць арцыбіскупаў й біскупаў Майнцу, Эрфурту, Кёльну, Брэмэну, а таксама мусулманскіх каліфаў. Мы адно адказу ня маем, чаму ў арабскіх, армянскіх, пэрсыдзкіх, бізантыйскіх, рымскіх, аўстрыйскіх, нямецкіх, скандынаўскіх і польскіх пісьмовых крыніцах няма апісаньня Панёманьня, ягонай культуры, быту й гісторыі да сярэдзіны XIII стагодзьдзя? А мо гэтых замежных прадстаўнікоў ня было ў Панёманьні? Мо рэчы, манэты, посуд, вадкасьці й тканіны трапілі ў Панёманьне шляхам, які нам мала вядомы, якім мы мала цікавіліся?

— * —

Гэральдыка Вялікага Княства Літоўскага разглядаецца на балонках 8-9,33-35, і Аўтар робіць асьведчаньне: «мае веды ў галіне гэральдыкі вельмі скромныя й дзеля гэтага зацытую ў гэтай справе спэцыяліста L. Pine». Мы ня будзем увахо-дзіц у дыскусію з L. Pine, але ягоны выснаў што да гэрбу Льва Сапегі выклікае зьдзіўленьне й сьведчыць аб ведах літоўскае гэральдыкі. Чаму Аўтар дзеля параўнаньня не сягнуў да крыніцаў польска-літоўскае гэральдыкі, да працаў Яна Замойскага (1542-1605 г.), Барташа Папроцкага (1543-1614 г.), Сымона Акульскага (1580-1623 г.), Віюка Каяловіча (1609-1677 г.), Вацлава Патоцкага (1623-1696 г.), Каспара Нясецкага (1682-1744 г.)? Усе яны вядомыя спэцыялістыя, і, здаецца, ня горшыя ад L. Pine, народжанага ў 1861 годзе. Іх варта было-б пачытаць, бо яны апрацоўвалі гэральдычныя зборнікі на дзяржаўных і прыватных дакумэнтах, якія ў ладнай частцы загінулі падчас пажараў і войнаў. Некаторыя гэральдыстыя жылі, калі жывым быў Леў Сапега й ягоныя сыны. (Леў Сапега памёр 7. 7. 1633 г., а ягоныя сыны памерлі — Ян, 10. 4. 1635 г., Казімір, 19. 1. 1656 году). Праўдападобна, яны добра памяталі сямейную традыцыю й паходжаньне сваёй гэрбавай эмблемы.

У Горадлі ў 1413 годзе адбылася адаптацыя літоўскага баярства польскімі шляхоцкімі родамі. Сорак сем літоўскіх баярскіх родаў былі адаптаваныя. Баярын Сунігайла быў адаптаваны польскім шляхоцкім родам Ліс. Сунігайлавічы спарадніліся з баярынам Сапегам. Афіцыйным заснавальнікам дынастыі Сапегаў уважаецца Сымон Сапега, які быў пісарам гаспадарскім у 1440-1450 гадох. Сыны ягоныя: Ян і Багдан таксама пачыналі кар'еру зь пісараў гаспадарскіх. Багдан стаўся пісарам

у 1471 г., а Ян у 1483 годзе. Леў Сапега быў праўнукам Багдана, а прапраўнукам Сымона Сапегі. Вось чаму ў гэрбе Сапегаў маем эмблему Ліс.

Паводле Я. Замойскага, Б. Папроцкага й К. Нясецкага ў 1058 годзе Казімер І-шы зрабіў паход на Яцьвягаў, але аказалася, што сілы ня былі роўныя, пагражала бяда. Адзін з польскіх вояў прыдумаў страляць на ворага запаленымі стрэламі. Вынаходства ягонае дало перамогу, і Казімер адзначыў воя. Узьвёў яго ў рыцары з правам пакласьці на шчыт эмблему — стралу з папярэчкамі. За хітры вынахад вой атрымаў клічку Ліс. Адсюль ягоная эмблема на шчыце пачала называцца Лісам, а род ягоны Лісамі.

— * —

Зьдзіўляе нас асьведчаньне на 8-9 балонках, што ў мясцовасьці Майбаро ў Швэцыі Аўтар расшукаў камень з высечаным малюнкам паганскага скандынаўскага бажка Одына, у ног якога два ваўкі. Але гэта не паўстрымала зрабіць выснаў: «Коньнік вельмі падобны да нашай Пагоні».

Такім чынам, рыцар-князь на кані гэрбу Пагоня стаўся вобразам Одына. Наколькі нам ведама, ніводзін спэцыяліст нумізмат, сфрагіст і гэральдык не акрэсьліў эмблему гэрбу Пагоня «коньнікам», але пісалі — князь на кані, ня выясьняючы, што гэта за князь. Толькі мы пачалі зьняважліва называць рыцара-князя «коньнікам» і зьвязваць то з паганскім Ярылам, а цяпер з скандынаўскім Одынам.

Калі-б мы пацікавіліся захадня-эўрапэйскай нумізматыкай, сфрагістыкай і скульптурнай разьбой, то ўбачылі-б, што каралі, гэрцагі й князі стараліся ўвекавечыць сябе. Традыцыя ўвекавечаньня пачынаецца з манэтаў Аляксандра Македонскага, пераходзіць у Рымскую імпэрыю, яе пераймаюць захадня-эўрапэйскія ўладары й нашыя землі ў пачатку XIII стагодзьдзя.

У гісторыі Полацкага княства вызначыўся змаганьнем з князямі Русі полацкі князь Усяслаў Брачыслававіч. Ён імкнуўся за захаваньне незалежнасьці Полацкага княства й злучэньні крывіцкіх плямёнаў. Народ склаў пра яго легенды ды назваў яго Чарадзеем. Калі пачала складацца канцэпцыя адраджэньня слаўных традыцыяў Усяслава й аб'яднаньня княжых удзелаў былога Полацкага княства, народ наш узяў за эмблему як сымбаль рыцара-князя — правобраз Усяслава. Залунала на сьцягох эмблема, якая заклікала да зьеднаньня, змаганьня й згадкі аб мінулых стагодзьдзях.

Скажам, што мы памыляемся, і «коньнік» не рэпрэзантуе рыцара-князя, а Ярылу ці Одына. Калі-б было так на самай справе, дык ці ёсьць магчымым, каб перахрышчанаму Ягайлу дазволілі ў Польшчы прывешваць да польскіх дакумэнтаў пячатку, на якой фігураваў-бы паганскі бажок? Ці ёсьць мажлівым, каб перахрышчанаму крыжакамі Вітаўту дазволілі прывешваць да акту ўмовы 30 студзеня 1384 году выяў паганскага бажка? Няўжо-ж польская каталіцкая гіерархія ня была асьведамленая ў сымболіцы «коньніка»? Няўжо-ж Крыжацкі Ордэн ня ведаў паходжаньня эмблемы на пячатцы Вітаўта?

Ці раз даводзілася чытаць выражэньні «крыж Ярылы» або «Ярылаў крыж», а цяпер на балонцы 33-ай чытаем: «Тое, што некаторыя называюць крыжом Ярылы, ёсьць нішто іншае, як рунічы знак на абазначэньне гуку **«а»**. Спэцыялістыя польскага, расейскага й нямецкага паходжаньня не асьмеліліся крыж на шчыце гэрбу Пагоні называць «крыжом Ярылы». Толькі мы за парадаю Тамаша Грыба пачалі называць яго «ярылавым крыжам».

У Кракаве стаіць саркафаг караля й найвышэйшага князя Ягайлы. Пабудова



саркафагу была пачатая каля 1423 году. На саркафагу з аднаго й другога боку зьмешчаны гэрб Пагоня. На шчыце рыцара-князя гэрбу Пагоні выразаны крыж. Крыж мае дзьве папярэчкі: верхняя карацейшая ад ніжняй. Яны на вэртыкальным слупе разьмешчаныя так, як на крыжы зробленым Лазарам Богшам для прэпадобнае Афрасіньні Полацкае.

Такі-ж крыж маем на вялікіх польскіх дзяржаўных пячатках Жыгімонта Старога й Жыгімонта Аўгуста. Яго палякі зьберагалі на польскіх дзяржаўных пячатках нават тады, калі прыйшлі элекцыйныя каралі. Дасьледчыкі польскіх дзяржаўных пячаткаў, называюць крыж гэты — гэрбам дынастыі Ягайлавічаў.

За часоў Ягайлы выбівалі манэты ў Польшчы. На трацяках з аднаго боку выбівалі арла, а з другога шчыт з крыжам. Дасьледчыкі трацякоў, робячы замалёўкі манэтаў, паказвалі, што дзьве папярэчкі крыжа маюць аднолькавую даўжыню. Станіслава Кубяк зацікавілася манэтамі пэрыяду Ягайлы. Яна расшукала іх у музэях і прыватных калекцыях. Калі трацякі сфатаграфавалі, тады аказалася, што верхняя папярэчка карацейшая ад ніжняй. **(5**, нум. 75-81**)**

Мы можам зрабіць выснаў, што пакольні на Ягайлавым саркафагу, на Ягайлавых трацяках і на польскіх дзяржаўных пячатках маем крыж Афрасінеўскай формы, дык значыць, што на шчыце рыцара-князя гэрбу Пагоні ня ёсьць «ярылаў крыж», ці «руна».

— * —

На гэтым можна было-б закончыць, але на балонцы 35-ай Аўтар цытуе Яна Якубоўскага й кажа: **«падаю ў перакладзе з польскае мовы** (падкрэсьленьне — М. Б.) гэтае выказываньне: Пазьнейшая літоўская хроніка расказывае, што літоўскія паны абураныя на падступныя махінацыі Палякоў адаслалі ім свае гэрбы, што былі атрыманыя ў Городле». Дадае пры гэтым, што «вярнуліся да сваіх старых гэрбаў. Гэрбы гэныя былі сымбалем братэрства з Палякамі. Калі братэрства гэтае мела быць сарванае, дык трэба было гэрбы адаслаць Палякам. Застацца аднак бяз гэрбаў літоўскія паны не маглі. Не маглі нават прызнаць, што перад вуніяй з Польшчай, продкі іхныя ніякіх гэрбаў ня мелі. Для ратаваньня свайго гонару, сваіх родаў, пастанавілі ўскрасіць, а фактычна стварыць літоўскія гэрбы з часоў перад вуніяй у Городле. Ці гэтая праца была зробленая ўжо тады, ці пазьней у XVI веку, ня ведаем».

Цяпер зацытуем Я. Якубоўскага: "Groźba odesłania herbów Polakom i powrotu do swoich, według autora kroniki, rzeczywiście wykonaną została przez panów litewskich za Kazimierza Jagiellonczyka. Magnaci litewscy, oburzeni na Polaków za zamiar wyrznięcia Litwinów na sejmie w Parczewie, odesłali im otrzymane niegdyś herby i zaczęli pieczętować się swoimi dawnymi. [22]) Opowieść ta ma widocznie na celu wytłumaczyć historycznie fakt na pozór dziwny, że niektóre rodziny magnatów litewskich używały w wieku XVI herbów rzymskich (Kolumny, Hippocentaur), gdy przecież w Horodle wszystkie znaczniejsze rody litewskie otrzymały herby polskie. Rzecz oczywista, że musiały one zmienić swe polskie herby na starolitewskie. Lecz kiedy to się stało? Aby odpowiedzieć na to pytanie zmyślono opowieść o odesłaniu herbów Polakom po sejmie Parczewskim". **(6**, st. 60**)**

Параўноўваючы пераклад Л. Галяка з тэкстам Я. Якубоўскага, мы бачым, што тэкст Я. Якубоўскага сфальшаваны Л. Галяком.

Я. Якубоўскі кажа: «паводле аўтара кронікі», і пераказвае зьмест із спасылкаю ([22]) на ПСРЛ., т. XVII, б. 544-545. У XVII-ым томе на балонках 473-572 на-

друкаваная «Хроніка Быхаўца». Аўтар брашуры на балонцы 17-ай паведамляе, што ён карыстаецца «Хронікай Літоўскай і Жамойцкай» у выданьні АН СССР. Гэта значыць XXXII-ім томам ПСРЛ., у якім таксама надрукаваная «Хроніка Быхаўца». Калі-б Л. Галяк спраўдзіў XVII-ты том і балонкі, паказаныя Я. Якубоўскім, то ў XXXII-ім томе ён знайшоў-бы прыведзенае ім месца зь Я. Якубоўскага пра адсылку гэрбаў. Яно ёсьць на 160-161 балонках.

Паколькі Я. Якубоўскі не назваў імёнаў паноў, што адсылалі гэрбы, а паводле Л. Галяка адаслалі ўсе тыя роды, якія іх атрымалі ў Гарадлі, дык мы зацытуем 161 балонку XXXII-га тому ПСРЛ.

"Y od toho czasu stała brań welikaia y nepryiazń meży pany litowskimi y lackimi; y toho ż czasu panowe litowskij zwazniwszysia, Iwan Gasztolt, wojewoda wilenski, Iwaszko Monwid, wojewoda trocki, Kezgał, starosta żomoytski, Petrasz Monigirdowicz, marszałok zemski, namesnik nowohorodski, y zwazniwszysia y herby ich im otosłali, a swoimi starymi peczatowat' stali, y mnoho złoho myslili meży soboiu czynit. Y korol Kazimir w to sia pilno włożył y mnoho sam hospodar o tom myslił, poki ich zweł u zhodu".

Вось-жа, Л. Галяк вывучыў экспансію скандынаваў. Ён вывучыў скандынаўскую міталёгію, эпіграфіку, пахавальны абрад, звычаі, абычаі й руны, але заглянуць у беларускія летапісы XVII-га тому часу не хапіла.

— * —

Мы разгледзілі тут недакладнасьці, якія паказваюць, што Аўтар брашуры ў сваёй аргумэнтацыі апіраецца на памылковыя, няпэўныя й два разы сфальшаваў факты (М. Гімбутас і Я. Якубоўскі), што падважвае ягоныя высновы ды робіць іх мала пераканаўчымі.


1. Полное Собрание Русских Летописей, т. XXXII, АН СССР, М. 1975
2. Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi, Macieja Stryjkowskiego, wydanie będące dokładnem powtórzeniem wydania pierwotnego królewickiego z roku 1582, porzedzone wiadomością o życiu i pismach Stryjkowskiego przez Mikołaja Malinowskiego oraz rozprawą o latopiscach ruskich przez Daniłowicza. W-a, 1846
3. А. И. Рогов. Русско-польские культурные связи в эпоху Возрождения (Стрыйковский и его Хроника). М. 1966
4. Н. Н. Воронин. Древнее Гродно. МИА 41, М. 1954
5. S. Kubiak. Monety pierwszych Jagiellonów (1386-1444). Wrocław-Warszawa-Kraków, 1970
6. J. Jakubowski. Studya nad stosunkami narodowościowemi na Litwie przed Unią Lubelską. "Prace Towarzystwa Naukowego Warszawskiego. Wydział II. № 7, W-a, 1912




## НОВАЕ НА КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

**Белямук, Міхась. Др. Ю. Штыхаў.** Сьпіс навуковых працаў Др. Ю. Штыхава зь вельмі цікавым уводным артыкулам. Адбітка з час. «Бел. Сьвет» за 1984 г., б. 14

**Сяднёў, Масей. Патушаныя Зоры.** Прыгожа выданая кніга паэзіі, дарэчы вельмі добрае паэзіі. Выдавецтва аўтара. Нямеччына. Кніга налічвае 276 б.



## СЁЕ - ТОЕ... і яшчэ НЕШТА...

Ведай сабе цану, але не прадавайся.

**Калі ягня зіркае на цябе ваўком — глянь на яго львом, і яно супакоіцца.**

**Чалавек таксама псуецца з галавы.**

Каму многа дадзена, таму яшчэ больш хочацца.

**Жыві так, каб твой некралёг адпавядаў рэчаіснасьці.**

Ці набывае карыснае дасьведчаньне той, хто б'ецца галавою аб сьцяну?

**Эгаісту мала любіць сябе, ён яшчэ ня церпіць іншых.**

**Гармонія старасьці: сіла слабее, затое слабасьць узмацняецца.**

Ідзі зь людзьмі, то ня згубішся.

**Жалезныя характары выкоўваюцца ўдарамі лёсу.**

Як ты да людзей, так і людзі да цябе.

**Пень, назіраючы, як пілуюць сасну-суседку: «А што, дашумелася?»**

Чаго толькі ні пішуць, калі няма чаго сказаць.

**Ня дай, Божа, лячыцца ды судзіцца.**

Перш чым мераць на свой аршын, зьверце яго з мэтрам.

**На базары долі ня купіш, а ў судзе праўды ня знойдзеш.**

Чым круглейшы дурань, тым мацней ён можа ўкалоць.

**Добра з тым судзіцца, хто Бога баіцца.**

Не пераацэньвайце! Запатрабуе рэшту!

**Закон як дышла: куды павярнуў, туды й вышла.**

Маўчаньне — золата, але здаровая крытыка — даражэй.

# ЖАРТАМ І ЎСУР'ЁЗ

— Мама, чаму маладая мае такую белую сукенку?
— Бо сёньня ў яе вельмі радасны дзень.
— А чаму малады ўбраўся ў чорнае?
— Ах, не задавай такіх дурных пытаньняў, смаркач...

— Колькі год гэтай цялушцы?
— Два.
— А як вы ўведалі?..
— Па рагох.
— Ай, праўда! Я й не заўважыў, што ў цялушкі два рагі.

Такога мужа, як у мяне, трэба на руках насіць.
— Няўжо такі добры?
— Дзе там! Ужо й хадзіць лянуецца.

— Афіцыянт, у чым справа? Зупа пахне мылам.
— Бачыце, паважаны спадару, яе давялося вымыць, бо яна пахла нафтаю...

— Татку, а што мелі людзі, калі ня было тэлевізара?
— Сьвятую цішыню й спакой, мой сынку.

Бацька: — Калі васпану мая дачка падабаецца, дык бяры яе бяз грошай.
Дзяцюк: — А ці можна зрабіць наадварот?

— Калі-б я кінулася ў раку, ты-б выратаваў мяне?
— А калі я скажу «так», ты кінешся?

— Я-б ахвотна ажаніўся зь дзяўчынай, у якой тры сястры
— Чаму?
— На мяне давялося-б толькі чвэрць цёшчы.

— Тут, у вёсцы, — кажа селянін дачніку, — ранкам людзей певень будзіць.
— Выдатна! Пастаўце яго, калі ласка, на палову дзевятай.

Настаўнік: Алесь, дай прыклад выпуклага люстра.
Вучань: Ваша лысіна, спадар настаўнік.

---

Дзяўчыну я спытаў нясьмела:
— Дзе зараз прыгажосьць твая,
Чаму за дзень так пасівела?
— Была ў цырульні ўчора я!

Жартавалі хлопцы з Грыца:
— Нам даўно ўжо не сакрэт,
Што табе, браток, спадніца
Засланіла белы сьвет...

Як жыў на сьвеце бабылём,
Пазарастала ўсё быльлём.
А як прыйшоў да Насты я,
Расьце мая дынастыя.



## Вясёлы куточак



— Мая мама павaлiла iзноў твайго тату!!!





— Не, дарагі сябар, ты мяне ні ад чаго не адрываеш.




— Мамачка, ня трэба, я пажартаваў...




— Каб іх чорт узяў! Наш аўтамабіль укралі!



Тайны генетыкі.

